# БЕЛАРУСКАЯ МОВА

Вучэбны дапаможнік для 5 класа
агульнаадукацыйных устаноў
з беларускай і рускай мовамі навучання

У дзвюх частках

Частка 2

*Дапушчана*
*Міністэрствам адукацыі*
*Рэспублікі Беларусь*



МІНСК
НАЦЫЯНАЛЬНЫ ІНСТЫТУТ АДУКАЦЫІ
2008

УДК 811.161.3(075.3=161.3=161.1)
ББК 81.2Беи-922
Б43

А ў т а р ы:

**В. П. Красней** («Фанетыка і арфаэпія», «Графіка і арфаграфія»);
**Я. М. Лаўрэль** («Мова — найважнейшы сродак зносін», «Паўтарэнне вывучанага ў I—IV класах», «Сінтаксіс і пунктуацыя» (§ 10, 11), «Падагульненне вывучанага за год»);
**В. І. Несцяровіч** («Сінтаксіс і пунктуацыя» (§ 12—26);
**Л. С. Васюковіч** («Словаўтварэнне і арфаграфія»)

Р э ц э н з е н т ы:

кафедра беларускага моваэнаўства Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка
(кандыдат педагагічных навук, дацэнт *У. П. Саўко*)

**Умоўныя абазначэнні:**

 — правіла;
 — для азнаямлення;
 — звярніце ўвагу;
 — заданні павышанай цяжкасці;
 — дадатковыя заданні;
 — лексічнае значэнне слова тлумачыцца ў слоўніку;
 — правесці фанетычны разбор слова;
 — зрабіць марфалагічны разбор слова;
 — зрабіць сінтаксічны разбор сказа;
 — разабраць слова па саставе;
 — правесці лексічны разбор слова;
 — дамашняе заданне

**ISBN 978-985-465-454-6 (ч. 2)**
**ISBN 978-985-465-452-2**

# ФАНЕТЫКА І АРФАЭПІЯ. ГРАФІКА І АРФАГРАФІЯ

## § 1. Галосныя гукі

**1.** Вымавіце гукі выразна.

[м]—[а], [ш]—[у], [т]—[і]

АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. Пры вымаўленні якіх гукаў паветра праходзіць свабодна праз поласць рота?
2. Як называюцца гэтыя гукі і чаму яны атрымалі такую назву?

Гукі мовы, пры вымаўленні якіх паветра свабодна праходзіць праз поласць рота, называюцца **галоснымі.** У беларускай мове шэсць галосных гукаў: [а], [о], [у], [ы], [і], [э].

**2.** Прачытайце і дайце загаловак тэксту. Спішыце і назавіце галосныя гукі ў выдзеленых словах.

Паляцелі ў **вырай** ластаўкі, **буслы** і шпакі. Ланцужкі жураўлёў **віднеліся** ў небе, і адтуль чулася сумнае курлыканне.

Сады атрасалі пажоўклае лісце. **Чарнела** лісце на алешніку. Адзінокія бярозкі жаўцелі між зелені сосен, і былі яны самотныя, як сіроты *(А. Чарнышэвіч)*.

**3.** Замяніце ў прыведзеных словах адзін галосны гук іншым, каб атрымалася новае слова. Запішыце гэтыя словы парамі.

У з о р: *дом — дым.*

Грым, каліна, леска, рака, слава, чысты.

● З двума словамі (на выбар) складзіце і запішыце развітыя сказы, падкрэсліце граматычную аснову.

**4.** Прачытайце тэкст і вызначце яго асноўную думку. Запішыце першы сказ, падзяляючы словы на склады. Вымавіце словы па складах і скажыце, у якіх складах (націскных ці ненаціскных) галосныя гукі вымаўляюцца больш выразна і працяжна.

Сцяжыны маленства ў жыцці чалавека і ў яго памяці займаюць адметнае месца. З далёкіх ростаняў* і блізкіх паўстанкаў пры першай жа магчымасці ён абавязкова вяртаецца да іх. Там і неба здаецца вышэйшым, і далягляды шырэйшымі. А сама душа адчувае тую свабоду і вольнасць, калі хочацца абняць і адчуць увесь свет. *(Паводле А. Марціновіча)*

● На прыкладзе слоў гэтага тэксту назавіце ўсе літары, якія абазначаюць галосныя гукі.




[і] — і [ы] — ы

● Якімі літарамі могуць абазначацца галосныя гукі [а], [о], [у], [э], [і], [ы]?



**5.** Прачытайце верш і вызначце яго тэму. Спішыце і ў кожным слове падкрэсліце літары, што абазначаюць галосныя гукі, на якія падае націск.

Жытнёвы пах і дух палынны,
Лугоў мядункавыя сны,
Як старадаўнія быліны —
Каля дарогі валуны.

І шэпт лісця, і веліч неба,
Дзе жніўны жаўранак звініць...
Мне без Радзімы, як без хлеба,
На белым свеце не пражыць.

*З. Марозаў*

## § 2. Правапіс галосных *о, э, а*

**6.** Прачытайце прыведзеныя пары слоў і скажыце, па якой прымеце яны размеркаваны на два слупкі.

| ***о* → *а*** | ***э* → *а*** |
|---|---|
| г**о**лас — г**а**ласы | р**э**кі — р**а**ка |
| з**о**лата — з**а**латы | стр**э**хі — стр**а**ха |
| р**о**сы — р**а**са | тр**э**сці — тр**а**суць |
| г**о**рад — г**а**рады | др**э**ва — др**а**ўляны |
| м**о**ст — м**а**сты | ш**э**пт — ш**а**птаць |
| зв**о**н — зв**а**нок | ш**э**лест — ш**а**лясцець |

АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. Як вымаўляюцца гукі [о], [э] пад націскам? Якімі літарамі яны абазначаюцца на пісьме?

2. Які гук вымаўляецца не пад націскам на месцы гукаў [о], [э]? Якая літара пішацца замест літар ***о, э*** не пад націскам?

Літары ***о, э*** звычайна пішуцца пад націскам і абазначаюць гукі [о], [э]: *го́луб, ко́лас, сэ́рца, жэ́мчуг, майстэ́рня, арэ́нда, купэ́, кафэ́, кашнэ́, Мерымэ́, Душанбэ́, капэ́ла, маянэ́з, тунэ́ль, сэ́рвіс;* а л е: *філе, камюнікe, піке.*

Не пад націскам гукі [о], [э] пераходзяць у гук [а], і тады замест літар ***о***, ***э*** пішацца літара ***а***: *г**а**лубы́, к**а**ласы́, с**а**рдэ́чны, ж**а**мчу́жына, ар**а**нда́тар.*

Не падпарадкоўваюцца гэтаму правілу словы з ***ро, ло***, якія чаргуюцца з ***ры, лы***: *кроў — крыві — крывавы, гром — грымоты — грымець, дровы — дрывотня, брод — брысці, глотка — глытаць, крошка — крышыць, блохі — блыха, дрома — дрымота.*

**7.** Прачытайце. Растлумачце правапіс выдзеленых літар.

Янка Купала вельмі любіў Ляўкі за іх асабліву прыгаж**о**сць. Ён часта х**а**дзіў на бераг Дняпра. Плытаг**о**ны пелі песні, якія д**о**ўга несліся над в**о**дамі, рэхам адгукаючыся ў б**а**ры. Ц**э**лымі днямі б**о**р напаўняўся птушыным шчэбетам. Н**о**ччу і раніцай увесь прастор аж дрыжаў ад салаўінага спеву *(У. Луцэвіч)*.

**8.** Спішыце. Устаўце прапушчаныя літары і растлумачце іх правапіс.

Цікавых прафесій многа. Калі чытаеш пра к..смічныя палёты, то і сам сябе бачыш адважным к..сманаўтам, які пракладае першыя сляды на далёкай планеце. А хіба кепска стаць лётчыкам, або в..далазам, або ге..лагам? А калі дзядзька Грыша дазв..ліў Саньку амаль ц..лы кіл..метр

весці самому яго стар..нькі «Масквіч», хл..пчык вырашыў стаць шафёрам. *(Паводле С. Міхальчука)*

● Як вы думаеце, якая размова адбылася перад тым, як дзядзька Грыша дазволіў Саньку весці «Масквіч»? Складзіце і запішыце дыялог.

**9.** Прачытайце і скажыце, у якіх словах гук [э] вымаўляецца не пад націскам.

***гео́лаг***

***шафёр***

тэ́ма — тэма́тыка  ветэра́н

цэнтр — цэнтра́льны  эпоха

У некаторых словах іншамоўнага паходжання гук [э] вымаўляецца не пад націскам і не пераходзіць у [а]. У такіх словах у адпаведнасці з літаратурным вымаўленнем літара ***э*** пішацца ў пачатку і ў сярэдзіне слоў: ***экза́мен, эсэ́, эпо́ха, этажэ́рка, чэмпіён, рэспу́бліка, рэкла́ма.*** Пры гэтым літара ***э*** захоўваецца пасля прыставак і ў другой частцы складанага слова: ***праэкзаменава́ць, двухэлеме́нтны.***

Канцавыя ***-эль, -эр*** перадаюцца як ***-аль, -ар:*** *шні́цаль, грэ́йдар, камп'ю́тар, пэ́йджар.*

Ва ўласных запазычаных імёнах ***-эль, -эр*** перадаюцца нязменна: *Ла́ндэр, О́дэр, Юпі́тэр.*

Напісанне падобных слоў неабходна правяраць па арфаграфічным слоўніку.

**10.** Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары. Растлумачце іх правапіс. Назавіце гукі і літары ў выдзеленых словах.

1. Д..легаты* слова бралі, пачыналі гаварыць *(П. Броўка)*. 2. ..кзамен па беларускай мове мая

сястра-студ..нтка здала на «выдатна». 3. Пераможца ўзняўся на п’ед..стал* і пакланіўся ўсім чатыром трыбунам *(«Звязда»)*. 4. Цікава праходзяць заняткі па інфарматыцы ў камп’ют..рным класе. 5. Увагу Сушко прыцягнула маленькая каляровая р..прадукцыя* *(А. Савіцкі)*. 6. Цімошка быў і рэжысёрам, і выканаўцам самых адказных роляў *(У. Краўчанка)*.



**11.** Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары.

1. Гулі і гулі трактары бясконца, і ўздымалася плугамі ц..ліна[сн] *(А. Куляшоў)*. 2. Я люблю чырвоны колер ц..глы, **даўнія** ц..гляныя муры *(П. Панчанка)*. 3. Грышкаў шынель ажно іскрыўся, абсыпаны ср..брыстым пылам *(В. Быкаў)*. 4. Лес неўзаметку праганяў др..моту *(І. Чыгрынаў)*.

## § 3. Правапіс галосных *е, ё, я*

**12.** Спішыце, падзяляючы словы на склады. Пастаўце націск і абазначце склады перад націскам паводле ўзору.

2 1
У з о р: *зе-ля-ні́-на.*

| | | |
|---|---|---|
| вёсны | лес | вецер |
| вясна | лясны | вятры |
| веснавы | лесавік | вецярок |

АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. Калі ў беларускай мове пішацца літара ***ё***?
2. У якім складзе перад націскам замест літар ***ё, е*** пішацца літара ***я***?

У беларускай мове літара ***ё*** пішацца толькі пад націскам: *вёска, вясёлка, цёмны.*

У першым складзе перад націскам замест ***е, ё*** пішацца літара ***я***: *ве́цер — вятры́, вёска — вяско́вы, дзе́вяць — дзявя́ты, дзе́сяць — дзяся́ты, сем — сямна́ццаць, во́сем — васямна́ццаць.*

У іншых ненаціскных складах літара ***е*** захоўваецца: *вецяро́к, велічыня́, малю́сенькі, дзевятна́ццаты, дзесятко́вы.*

У некаторых словах каранёвая ***я*** пішацца нязменна незалежна ад націску: *вяза́ць, су́вязь, по́вязь, кля́тва, ме́сяц, свя́та, святкава́ць, ты́сяча, цягні́к, ядло́вец, ядлаўцо́вы, яскра́вы, ярына́, Бе́сядзь, Пры́пяць.* Напісанне такіх слоў неабходна запамінаць.

**13.** Спішыце, падзяляючы словы на склады. Пастаўце націск і абазначце лічбамі склады перад націскам. Растлумачце напісанне выдзеленых літар.

У з о р: *снег — сня-жо́к* (1) *— сне-га-ві́к* (2 1).

Зелень, зялёны, паз**е**л**я**нец, з**е**л**е**наваты; л**е**с, л**я**снік, л**е**сніка, л**е**сніковы; пас**ё**лак, пас**я**лковы; ц**ё**мны, ц**я**мнець, ц**е**мнаваты; ц**ё**плы, ц**я**пло, ц**е**плыня.

● Назавіце гукі і літары ў першых двух словах. Складзіце з гэтымі словамі словазлучэнні, запішыце іх і абазначце галоўнае слова.

**14.** Спішыце. Абазначце націск у выдзеленых словах і растлумачце правапіс ***е, ё, я.*** Вусна назавіце гукавое значэнне гэтых літар.

1. Зямля дыхала **цяплом** і вільгаццю. Яна прыспешвала аратая кінуць у яе **цёплыя** далоні доб-

рае семя *(«Звязда»)*. 2. Прайдзі зараз па **вёсках Панямоння** і ўбачыш зоркі на **сценах** хат. За кожнай зоркай — **жыццё.** Жыццё бацькі ці мужа, брата ці сына, што не **вярнула** вайна *(Я. Пархута)*.

**15.** Прачытайце наступныя словы і назавіце першы склад перад націскам.

Аперацыя, Геракл, герой, Егіпет, Еўропа, кераміка, легенда, медаль, Неапаль, пейзаж, селекцыя*.

У запазычаных словах у першым складзе перад націскам літара ***е*** заўсёды захоўваецца пасля ***г, к, х***, у тым ліку і ва ўласных імёнах: ***ге****ро́й,* ***ге****кта́р,* ***ке****фі́р,* ***ке****ра́міка, ка****ле****кты́ў,* ***Ге****ра́сім,* ***Хе****рсо́н.*

У іншых запазычаных словах літара ***е*** пішацца незалежна ад націску: ***е́****гер,* ***е́****рась, га****зе́****та, ме****да́ль, мé****неджмент, ме****ло́дыя, пер****спекты́ва, се****рві́з,* ***Е****ўро́па,* ***е****ўрапе́йскі,* ***Е****ўфра́т*. Напісанне падобных слоў вызначаецца па арфаграфічным слоўніку.

**16.** Напішыце словы па-беларуску і пастаўце націск. Растлумачце правапіс ***е, я.***

Берёзовый, лебеда, легенда, лесной, медаль, метро, неудача, песок, село, снегопад, спектакль.

А л е: *каляндáр, сяржáнт, пляя́да**

**17.** Падумайце, што абазначаюць словы, змешчаныя ніжэй. Складзіце з імі сказы, запішыце іх і растлумачце правапіс літары ***е***. Падкрэсліце дзейнік і выказнік.

| | | |
|---|---|---|
| абеліск | сеанс | калектыў |
| гербарый | легенда | герой |

**18.** Прачытайце. Дакажыце, што гэта тэкст. Спішыце і растлумачце правапіс ***е, ё, я*** ў выдзеленых словах.

**Пейзажны** жывапіс Беларусі нельга ўявіць без твораў Івана Васільевіча Карасёва. Амаль усе яго карціны **прысвечаны** пяшчотнай прыродзе Беларусі, яе **прасёлкам.** Мірная цішыня надае карцінам асаблівую чароўнасць. Яна спыняе **гледача,** дапамагае адчуць хараство прыроды і зразумець сваю адказнасць за лёс Радзімы *(«Культура»).*

**19.** Спішыце. Устаўце прапушчаныя літары і растлумачце іх правапіс. Пры неабходнасці выкарыстайце арфаграфічны слоўнік.

Кожны т..атральны с..зон у Беларускім дз..ржаўным акад..мічным т..атры імя Янкі Купалы пачынаецца славутай «Паўлінкай». Гэты сп..кталь купалаўцы паказалі гл..дачам ужо больш за тыс..чу разоў. «Паўлінка» ўвайшла ў з..латы фонд сусветнага сц..нічнага мастацтва. Ёй суджана стр..чаць новыя і новыя пакаленні гл..дачоў, расказваць вяс..лую і ў той жа час сумную гісторыю з народнага жыцця *(К. Камейша, М. Мятліцкі).*



**20.** Падрыхтуйцеся пісаць пад дыктоўку. Растлумачце напісанне выдзеленых літар у словах. Выпішыце простыя сказы з аднароднымі членамі.

## Гарачы жнівень

Перад раніцай прашумела навальніца.

На світанні яна сціхла. Дож**дж** сышоў на заха**д**, да Прып**я**ці, а за ім хутка сплылі хмары. Над

вымытымі вадой палямі засінела чыстае неба, зазіхацела яркае жнівеньск**ае** сонца. І неба, і сонца пераліваліся в**я**сёлкавымі кол**е**рамі. Яны адбіваліся ў н**е**злічоных буйных кроплях, што былі шчодра ра**сс**ыпаны на пожні.

Калі сонца паднялося вышэй, на зямлю зноў сышла гарачыня. Лу**г** ахутала трап**я**ткая ц**я**кучая смуга. З гэтага дня гарачыня не спадала ўвесь жнівень. Дні стаялі **ў**весь час пагодныя, духменныя. Неба сінела высокае, **бяз**доннае і чыстае *(І. Мележ)*.

## § 4. Правапіс спалучэнняў *іё (ыё), ія (ыя), іе (ые)*

**21.** Прачытайце ўважліва іншамоўныя словы і скажыце, якімі спалучэннямі галосных перадаюцца ў рускай і беларускай мовах спалучэнні *іо, іа, іе*. Ці адпавядае напісанне гэтых слоў іх вымаўленню?

| | | |
|---|---|---|
| акс**ио́**ма | акс**іё**ма | [ій′о] |
| патр**ио́**т | патр**ыё**т | [ый′о] |
| п**ио**не́р | п**ія**нер | [ій′а] |
| аж**ио**та́ж | аж**ыя**таж | [ый′а] |
| ав**иа́**ция | ав**ія**цыя | [ій′а] |
| д**иа**ло́г | д**ыя**лог | [ый′а] |
| кл**ие́**нт | кл**іе**нт | [ій′э] |
| ор**ие**нта́ция | ар**ые**нтацыя | [ый′э] |

Беларускай мове не ўласцівае ў межах слова спалучэнне галосных гукаў, таму ў большасці іншамоўных слоў пры іх вымаўленні паміж галоснымі ўзнікае гук [й′]. На пісьме гэтыя спалучэнні перадаюцца:

**іо** — праз ***іё (ыё)*** пад націскам і ***ія (ыя)*** не пад націскам: *б**іё**лаг, патр**ыё**т; б**ія**ло́гія, патр**ыя**ты́зм*;

**іа** — праз ***ія (ыя)*** незалежна ад націску: *ав**ія́**цыя, ав**ія**цы́йны, д**ыя́**метр, д**ыя**метра́льны*;

**іе** — праз ***іе (ые)*** незалежна ад націску: *гіг**іе́**на, д**ые́**та, гіг**іе**ні́чны, д**ые**ты́чны*.

**22.** Запішыце словы па-беларуску. Падкрэсліце спалучэнні галосных і растлумачце іх правапіс. У выдзеленых словах назавіце гукі і літары.

Бастион, инициатива, биограф, биография, **мелиорация***, гениальный, скорпион, материал, миниатюрный, ориентир, **рационализатор*, энтузиазм.**

● З трыма словамі складзіце і запішыце развітыя сказы.

**23.** Прачытайце і растлумачце правапіс спалучэнняў галосных у выдзеленых словах.

1. Вялікі беларускі гуманіст-**патрыёт** Францыск Скарына завяшчаў нам захоўваць і абараняць сваю чалавечую і **нацыянальную** годнасць, быць вартым высокага звання — Чалавек *(«ЛіМ»)*. 2. **Мірыяды*** пушынак з таполяў у празрыстым паветры плывуць *(С. Басуматрава)*. 3. Паэтычныя казкі Уладзіміра Дубоўкі — **дыяменты*** народнай мудрасці *(С. Грахоўскі)*. 4. «Хачу быць **іхтыёлагам*,** як закончу школу», — прамовіла дзяўчынка *(«Бярозка»)*.

**24.** Прачытайце сказы. Назавіце словы са спалучэннямі галосных. Растлумачце іх правапіс.

1. Пакланюся бастыёнам Брэсцкай крэпасці суровай, гераічныя імёны ўспомню светлым, шчы-

рым словам *(П. Панчанка)*. 2. Ва ўсіх пад'ездах жывуць людзі, але два пакойчыкі адведзены пад бібліятэку *(А. Кулакоўскі)*. 3. У выхадныя дні ў парку шмат бацькоў з дзецьмі: вабяць разнастайныя атракцыёны* *(«Звязда»)*. 4. Тут расла чараўніца-фіялка *(І. Грамовіч)*. 5. Паўлюк раптам захапіўся біёнікай* *(Н. Тулупава)*. 6. Грандыёзныя тунэлі прарэзвалі горныя хрыбты *(З. Астапенка)*.



**25.** Спішыце, устаўляючы патрэбныя літары. Растлумачце правапіс слоў з гэтымі літарамі.

Гэта было ў 1934 годзе. Я выконваў напісаныя мною вар..цыі* для фартэп..на на беларускую народную т..му. У перапынку да мяне падышоў Янка Купала.

— Скажыце, як гэта можна на простую п..сню зрабіць такія розныя, складаныя вар..цыі?..

Янка Купала быў ч..лавекам в..лікай культуры: інт..лігентам, featured ўнабакова адукаваным. Я імкнуўся яму расказаць пра кампазітараў: Бетховена, Берліёза, Глінку, якія не меў нават спец..льнай музычнай адукацыі. *(Паводле А. Багатырова)*

● Якія беларускія народныя песні вы ведаеце? Каго з беларускіх кампазітараў вы можаце назваць?

## § 5. Зычныя гукі. Звонкія і глухія, свісцячыя і шыпячыя

**26.** Вымаўце гучна і выразна гукі кожнай пары.

[б]—[п] [б]—[д]
[д]—[т] [п]—[т]

## АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. Пры вымаўленні якіх гукаў выдыхаемае паветра сустракае перашкоду ў поласці рота (змыкаюцца губы, язык прыціскаецца да зубоў)?

2. Пры вымаўленні якіх гукаў чуецца голас і шум, а пры вымаўленні якіх — толькі шум?

Паводле ўдзелу голасу і шуму зычныя гукі падзяляюцца на звонкія і глухія.

Зычныя гукі, якія ўтвараюцца з шуму пры ўдзеле голасу, называюцца **звонкімі.** Гэта гукі: [б], [б′], [в], [в′], [г], [г′], [д], [д͡з], [д͡з′], [д͡ж], [ж], [з], [з′], [й′], [л], [л′], [м], [м′], [н], [н′], [р], [ў].

Гукі, якія ўтвараюцца толькі з шуму без удзелу голасу, называюцца **глухімі** зычнымі. Да іх адносяцца гукі [к], [к′], [п], [п′], [с], [с′], [т], [ф], [ф′], [х], [х′], [ц], [ц′], [ч], [ш].

Большасць звонкіх і глухіх гукаў утвараюць пары па звонкасці-глухасці. Некаторыя звонкія зычныя гукі не маюць парных глухіх, а глухія — парных звонкіх.

| Парныя зычныя гукі | | Не маюць парных зычных гукаў | |
|---|---|---|---|
| звонкія | глухія | звонкія | глухія |
| [б], [б′] | [п], [п′] | [в], [в′] | [к], [к′] |
| [г], [г′] | [х], [х′] | [л], [л′] | [ф], [ф′] |
| [д] | [т] | [м], [м′] | |
| [ж] | [ш] | [н], [н′] | |
| [з], [з′] | [с], [с′] | [р] | |
| [д͡ж] | [ч] | [й′] | |
| [д͡з], [д͡з′] | [ц], [ц′] | [ў] | |

Звонкія і глухія зычныя вымаўляюцца выразна і на пісьме абазначаюцца «сваімі» літарамі:

1) перад усімі галоснымі гукамі: [**д**а**р**о**г**а], [**н**′эба], [**с**ады];

2) перад няпарнымі звонкімі зычнымі: [**с**лова], [**с**′л′іва], [**з**мова], [**к**рок], [а**б**й′ава].

**27.** У прыведзеных словах зычны гук замяніце адпаведным яму парным звонкім ці глухім гукам, каб атрымалася новае слова. Дакажыце, што гэтыя гукі адрозніваюць розныя па значэнні словы.

[ж]ыць — ...
[б]от — ...
[х]олад — ...
[з]ала — ...
[п′]ітон — ...
ха[дж]у — ...
[д]ам — ...
[дз′]ерці — ...
[б]аравы — ...

**28.** Прачытайце. Вызначце тэму і асноўную думку тэксту. Пра якія гукі і што гаворыць пісьменнік?

Наша мова вечная, бо ўся яна, як наш характар. Здаецца, кволая ад пяшчотнай мяккасці, яна раптам кідае наверх схаваную ад усіх жалезную мужнасць і сілу. І, як быццам дамогшыся свайго, б'е, як перапёлка ў жытах, — мякка, а за тры вярсты чуваць... [Дз′] — як шкляной палачкай па крышталю, мяккі [с′] — як соннае ціўканне сінічкі ў гняздзе. І побач [р], як гарошына ў свістку. І доўга, пявуча, адкрыта гучаць галосныя...

Дык што ж лепей за цябе, мова мая, мова наша?! За цябе, даўняя, за цябе, вечна жывая, за цябе, неўміручая?! *(Паводле У. Караткевіча)*

**29.** Прачытайце і вызначце асноўную думку тэксту. Назавіце звонкія і глухія зычныя ў выдзеленых словах і адпаведныя ім парныя гукі (калі ёсць).

Узор. *Гук* [д] — *звонкі, парны глухі — гук* [т]; *гук* [л] — *звонкі, парнага глухога не мае.*

**Айчына. Бацькаўшчына. Радзіма.** Словы высокія, быццам неба над роднаю зямлёю. Як ні называй, яна застаецца тваёй сутнасцю, без яе ты нішто. І няма ў жыцці больш глыбокага і **святога** пачуцця, чым любоў да роднага кутка, да мілай Бацькаўшчыны, да любімай нашай Радзімы. Ад веку ў век з гэтым пачуццём паўставалі людзі на яе абарону, мацавалі яе сілу і магутнасць, множылі **доблесць** і славу.

● Спішыце. У апошнім сказе падкрэсліце галоўныя члены сказа і растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку.

⊙ **30.** Падумайце, які гук павінен быць на месцы пытальніка. Чаму?

[б] : [п] = [д͡з] : [?]
[?] : [ш] = [д] : [т]
[з] : [?] = [г] : [х]

● Назавіце ўсе пары звонкіх і глухіх зычных гукаў.
● Назавіце няпарныя звонкія зычныя гукі.

**31.** Прачытайце. Вызначце, якія гукі перадаюць скрып снегу, а якія — шум колаў машыны.

1.

Сенажацямі, лясамі
За санямі сані самі
Сцелюць сцежку.
Заскрыпелі, зарыпелі
Палазы ў лазе, запелі.

*М. Чарот*

2. Шуршыць ізноўку на шашы
Пятровіча машына.
Нідзе нікога, ні душы,
Адно гамоняць шыны.

*П. Броўка*

● Вымавіце гукі [з], [с] і [ш], [ч]. Чым адрозніваецца вымаўленне гукаў [з], [с] ад вымаўлення гукаў [ш], [ч]?

Зычныя гукі [з], [з′], [с], [с′], [д͡з], [д͡з′], [ц], [ц′] называюцца **свісцячымі**, а гукі [ж], [ш], [д͡ж], [ч] — **шыпячымі.**

**32.** Спішыце і падкрэсліце літары, якія абазначаюць свісцячыя гукі, адной рыскай, а шыпячыя — дзвюма. Чаму паэт падабраў словы з гэтымі гукамі?

Вецер рэзкі і пявучы
Часта свішча пад акном,
Снегам жорсткім тне балюча
І скуголіць за акном.
Рэкі ўсё яшчэ, азёры
Закаваны моцна ў лёд.
Ды ўжо сніцца ціха зорам
Крыгаход і веснаход.

*М. Машара*



**33.** Прачытайце. Вызначце, з дапамогай якіх гукаў В. Вітка стварыў вобразны малюнак зімовага досвітку. Падкрэсліце літары, якімі абазначаны гэтыя гукі.

Дзівосны сон сасонцы сніцца
Перад світаннем на зары.
У срэбны бубен б’юць сініцы,
На флейтах свішчуць снегіры.

## § 6. Вымаўленне звонкіх і глухіх, свісцячых і шыпячых зычных гукаў. Абазначэнне іх на пісьме

**34.** Прачытайце выразна словы і скажыце, якія гукі абазначаны выдзеленымі літарамі.

| | |
|---|---|
| гры**б**ы — гры**б**кі — гры**б** | б — [б—п—п] |
| бя**г**у — бе**г**чы — бе**г** | г — [г—х—х] |
| са**д**ок — у са**д**ку — са**д** | д — [д—т—т] |
| пра**с**іць — про**с**ьба | с — [с′—з′] |
| мала**ц**іць — мала**ц**ьба | ц — [ц′—дз′] |
| ва**з**ок — во**з**чык | з — [з—ш] |
| рэ**ч**анька — на рэ**ч**цы | ч — [ч—ц] |

**ручні́к [чн]**

АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. У якіх словах выдзеленыя літары абазначаюць «свае» гукі? У якой пазіцыі знаходзяцца гэтыя гукі?

2. Якія гукі «хаваюцца» за выдзеленымі літарамі ў астатніх словах? Чым гэта тлумачыцца?

У вымаўленні парныя звонкія і глухія зычныя гукі могуць замяняць адзін аднаго:

1) звонкія зычныя вымаўляюцца глуха (аглушаюцца) перад глухімі зычнымі і на канцы слова: *дубкі* — *ду*[п]*кі*, *дуб* — *ду*[п];

2) глухія зычныя вымаўляюцца звонка (азванчаюцца) перад звонкімі зычнымі: *просьба* — *про*[з′]*ба*.

У многіх словах свісцячыя перад шыпячымі вымаўляюцца як шыпячыя, а шыпячыя перад свісцячымі — як свісцячыя: *перапісчык* — *перапі*[ш]*чык*, *на кладачцы* — *на клада*[ц]*цы*.



Каб не памыліцца ў выбары літары для абазначэння парных звонкіх і глухіх зычных гукаў у сярэдзіне і ў канцы слоў, трэба падабраць праверачнае слова. У праверачным слове пасля зычнага павінен стаяць галосны або няпарны звонкі гук: *касьба (касіць), стог (стагі), перапісчык (перапісаць), кладка (кладачка, накладны), на печцы (пячы), ножка (ножанька, нажны)*.

Правапіс слоў, у якіх напісанне звонкіх і глухіх зычных нельга праверыць, вызначаецца па арфаграфічным слоўніку: *айсберг, баскетбол, вакзал, футбол, экзамен, Афганістан*.

**35.** Прачытайце. Знайдзіце ў першым і трэцім, другім і чацвёртым выдзеленых словах зычны гук, абазначаны рознымі літарамі. Якія розныя зычныя гукі ў першым і чацвёртым словах абазначаны адной і той жа літарай?

**Адкрылася**
Мне ісціна бясспрэчная:
Гуляючы, не **пройдзеш** па жыцці.
І кожны дзень,
Як **тое** поле вечнае,
Якое **неабходна** перайсці.

*С. Басуматрава*

**36.** Прачытайце словы ў адпаведнасці з правіламі вымаўлення. Дакажыце, што яны напісаны правільна.

Дарожка, казка, малацьба, снег, просьба, трубка, холад.

У з о р. У слове *даро*[ш]*ка* перад [к] вымаўляецца парны глухі зычны [ш]. Каб правільна выбраць літару для яго абазначэння, трэба падабраць праверачнае слова, каб гэты гук стаяў перад галосным ці няпарным звонкім гукам: *дарожанька, дарожны*. Значыць, у слове *дарожка* трэба пісаць літару ***ж***.

**37.** Прачытайце. Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары. Растлумачце іх выбар (гл. узор да практ. 36).

1. А хле.. здабываецца ця..ка, яму самы ні..кі паклон *(П. Панчанка)*. 2. Лё..ка і мякка ступаюць мае босыя ногі па асеннім ворыве *(І. Грамовіч)*. 3. Весела на рэ..цы і траве, і кве..цы *(Якуб Колас)*. 4. Я стаў уяўляць чаро..кі ластавак там, на сваёй радзіме *(А. Кулакоўскі)*. 5. Маладой бяро..цы павязала восень жоўтую хусцінку з белай павуцінкай[сн] *(Я. Пушча)*. 6. Лес то густы, непралазны, то рэ..кі, я праз яго, як праз казку, іду *(М. Шахавец)*.



**38.** Спішыце, выбіраючы патрэбныя літары.

1. Сухі брусёнічнік, мяккі мох, чу*(б/п)*кі сало*(д/т)*кіх траў між дрэў лось выбіраў *(К. Кірэенка)*. 2. А па рэ*(ц/ч)*цы па Арэсе бегае маторка *(Янка Купала)*. 3. Я хачу збера*(г/х)*чы цябе, ма*(т/ч)*чына песня *(Н. Гілевіч)*. 4. Надышла ка*(зь/сь)*ба — звіняць косы і сакочуць касілкі на сенажаці *(Т. Хадкевіч)*. 5. На ўзбярэжжы, пад белай таполяй, залатыя пя*(с/ш)*чынкі, як зоркі *(М. Шахавец)*. 6. Наш хле*(б/п)* — жыцця аснова, праця*(г/х)* і бара*(дзь/ць)*ба *(П. Панчанка)*.

● Якія розныя зычныя гукі ў словах *пясчынка* і *аснова* абазначаны адной і той жа літарай?

## § 7. Цвёрдыя і мяккія зычныя гукі

**39.** Выразна вымавіце словы, якія абазначаюць намаляваныя прадметы.





АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. Чым адрозніваюцца гукі, якія вымаўляюцца ў пачатку першага і другога слоў?
2. Якія зычныя гукі чуюцца на канцы другога і трэцяга слоў? Якая розніца паміж гэтымі гукамі?

У беларускай мове адрозніваюцца **цвёрдыя** і **мяккія** зычныя гукі. Большасць цвёрдых і мяккіх зычных утвараюць пары:

| | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| [б] | [в] | [г] | [д] | [з] | [к] | [л] | [м] | [н] | [п] | [с] | [т] | [ф] | [х] |
| [б′] | [в′] | [г′] | [дз′] | [з′] | [к′] | [л′] | [м′] | [н′] | [п′] | [с′] | [ц′] | [ф′] | [х′] |

Не маюць парных гукаў цвёрдыя зычныя [ж], [дж], [ч], [ш], [р], [ц], [ў] і мяккі зычны [й′].

**40.** Прачытайце пары слоў. Якімі гукамі яны адрозніваюцца? Запішыце словы і гукі паводле ўзору.

У з о р: *нагода* — *нягода:* [н]—[н′].

Воз — вёз, лук — люк, пэўны — пеўні, напісаны — няпісаны, рыс — рысь, вугал — вугаль.



Мяккасць зычных на пісьме абазначаецца двума спосабамі:

1) з дапамогай мяккага знака;

2) з дапамогай літар ***е, ё, ю, я, і***.

**41.** Прачытайце словы, выразна і працяжна вымаўляючы першы склад. Ці можна на прыкладзе гэтых слоў сказаць, што цвёрдыя і мяккія гукі дапамагаюць адрозніваць словы?

Баліць — бяліць, выток — віток, васковы — вясковы, ласун — лясун, мішка — мышка, плітка — плытка, сіпкі — сыпкі, сядок — садок.

● Як абазначаецца мяккасць зычных на пісьме?

**42.** Выразна прачытайце словы, змешчаныя справа. Скажыце, перад якімі зычнымі гукамі (цвёрдымі ці мяккімі) гукі [з], [с] вымаўляюцца мякка. Складзіце з гэтымі словамі пяць словазлучэнняў і запішыце іх. Абазначце галоўнае слова ў кожным словазлучэнні.

*<u>з</u>біраць* [з′]
*<u>с</u>вята* [с′]

А л е перад [г′], [к′], [х′]:
*<u>з</u>гінуць* [з]
*<u>с</u>кінуць* [с]
*<u>с</u>хіліць* [с]

Зычныя гукі [з], [с] перад наступнымі мяккімі зычнымі, акрамя [г′], [к′], [х′], вымаўляюцца мякка.

**43.** Спішыце. Падкрэсліце літары, якімі абазначаны мяккія зычныя гукі. Назавіце гук, які не мае парнага цвёрдага.

Сцяжынка лясная, за рэчкаю хата,
Уранні над лугам плывуць туманы...
Ніколі, Радзіма, чужой не была ты,
Ніколі журбой* не прыходзіла ў сны.

І што б ні было там — чужыны не трэба,
З маленства навекі душой палюбіў
Зялёнае поле, блакітнае неба,
Світанні над лесам і золата ніў.

*А. Бачыла*

● Вызначце асноўную думку тэксту.



Адрознівайце гукі **[д͡ж]** і **[д], [ж]:** [хад͡**ж**у], [па**дж**аць].

**44.** Прачытайце словы. Скажыце, як вымаўляюцца зычныя гукі, абазначаныя выдзеленымі літарамі. Ці маюць гэтыя гукі ў беларускай мове адпаведныя мяккія гукі?

| | | |
|---|---|---|
| **ж**ывы | **ж**алеза | **ж**оўты |
| агаро**дж**а | дож**дж**ык | ура**дж**ай |
| **р**ака | ста**р**ы | за**р**эчны |
| **ц**ана | авія**ц**ыя | а**ц**энка |
| **ч**ысты | па**ч**эсны | **ч**арніцы |
| **ш**осты | вяр**ш**ыня | пара**ш**ут |

У беларускай мове зычныя гукі [ж], [д͡ж], [р], [ц], [ч], [ш] вымаўляюцца заўсёды цвёрда і не маюць адпаведных мяккіх зычных. Гэта няпарныя цвёрдыя гукі.

На пісьме іх цвёрдасць абазначаецца літарамі ***а, о, у, ы, э:*** *р**а**ка, ж**о**луд, паж**у**рыць, ц**ы**ркуль, ш**э**лест.*

Заўвага. У беларускай мове ёсць мяккі гук [ц′], але ён утварае пару толькі з цвёрдым гукам [т]: *ха**т**а — у ха**ц**е, палё**т** — у палё**ц**е.*

**45.** Выпішыце з арфаграфічнага слоўніка 5 слоў, кожнае з якіх пачынаецца іншым няпарным цвёрдым гукам.

**46.** Прачытайце пары слоў, напісаных па-руску і па-беларуску. Скажыце, у якіх словах няпарны цвёрды гук [ц], а ў якіх — мяккі гук [ц′].

| | |
|---|---|
| циркуль — цыркуль | тишина — цішыня |
| солнце — сонца | тень — цень |
| оценка — ацэнка | тёмный — цёмны |

● З трыма словамі складзіце развітыя сказы.

**47.** Выразна прачытайце словы, змешчаныя справа, і растлумачце іх значэнне. Вусна складзіце сказы з гэтымі словамі.

***брашура***
***журы***
***парашут***

**48.** Прачытайце і дайце загаловак тэксту. Якімі вы ўяўляеце Лёніка, дзеда Змітрука і дзядзьку Сцяпана? Дакажыце гэта, карыстаючыся тэкстам.

Лёнік добра перакусіў і шпурнуў акраец хлеба ўздоўж па дарозе.

— Ай-яй, нядобра! — кажа дзед Змітрук. — Навошта ж так: хлеб жа!

Дзядзька Сцяпан коратка кідае хлопцу:

— Ану, падбяры!

— Хэ, падумаеш, скарынка! Мала вам хлеба, ці што?! — абыякава адгаворваецца Лёнік.

— Падбяры хлеб, лайдак! — сурова ўжо выкрыквае дзядзька Сцяпан і не зводзіць позірку з Лёніка...

Лёнік неахвотна падыходзіць да акрайчыка ў каляіне, азіраецца, супраць сваёй волі нахіляецца і паднімае хлеб з дарогі.

— Нягожа, нягожа так хлеб шпурляць, — нязлосна кажа Змітрук. — Ад хлеба, брат, жыццё на зямлі... Маладота — дурнота, хіба яна цяміць...

Дзядзька Сцяпан на тое злосна паварочваецца да дзеда і кідае коратка і сурова, як прысуд:

— Разумець трэба! Не маленькі! *(Паводле В. Быкава)*

● Складзіце план і напішыце пераказ.



**49.** Спішыце. Падкрэсліце галосныя літары, якія пішуцца пасля літар, што абазначаюць няпарныя цвёрдыя гукі.

Даўным-даўно, аж 500 гадоў таму, у старажытным Полацку ў сям'і мясцовага купца Лукі нарадзіўся чалавек. Ён сваім духоўным подзвігам на стагоддзі праславіў родны горад і нашу Бацькаўшчыну. Яго імя — Францыск Скарына. Сёння ім справядліва ганарыцца беларускі народ.

● Скажыце, чаму пасля літар ***ж, дж, р, ч, ш*** у беларускай мове не пішуцца літары ***е, ё, ю, я, і***.

● Якія кнігі, выдадзеныя Францыскам Скарынам, вы ведаеце?

## § 8. Мяккі знак

**50.** Прачытайце выразна сказы.

1. І колькі ёсць сілы,
Ары, барануй, засявай.
*Янка Купала*

2. Ударыў колкі і густы,
Нібы іголкі, дождж.
*П. Броўка*

## АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. Якімі гукамі адрозніваюцца паміж сабой словы *калькі* і *колкі*?

2. Чаму ў першым слове пасля літары ***л*** пішацца мяккі знак, а ў другім — не пішацца.

Мяккі знак пішацца для абазначэння мяккіх зычных [з′], [с′], [дз′], [ц′], [л′], [н′]:

- у канцы слова: *бол**ь**, алень**ь**, княз**ь**, лос**ь**, мядзведз**ь**, шэсц**ь**, кін**ь**, дзес**ь***;
- у сярэдзіне слова перад цвёрдымі, а пасля [л′], [н′] і перад мяккімі зычнымі: *Куз**ь**ма, кас**ь**ба, дзядз**ь**ка, бац**ь**ка, вол**ь**ны, аган**ь**кі, пал**ь**цы, Мал**ь**віна*. Выключэнне: словы з дзвюма ***л, н, з, с***: *вясе**лл**е, ра**нн**е, пало**зз**е, памя**цц**ю*.



Каб не памыліцца пры напісанні мяккага знака ў сярэдзіне слова паміж зычнымі, трэба кіравацца наступным. Калі пры змене слова ці ў аднакаранёвых словах наступны мяккі змяняецца на цвёрды зычны, а папярэдні застаецца мяккім, трэба пісаць мяккі знак: *ваз**ь**мі (ваз**ь**му), вас**ь**мёрка (вос**ь**мы), дзядз**ь**кі (дзядз**ь**ка), бац**ь**кі (бац**ь**ка)*. Калі ж пры змене слова ці пры замене яго аднакаранёвым словам наступны мяккі не змяняецца на цвёрды, то тады мяккі знак не пішацца: *песня — песні — пясняр, чацвер — чацвяргом, дзверы — дзвярэй.*

**51.** Прачытайце і скажыце, чаму ў адных словах мяккі знак пішацца, а ў другіх — не пішацца. Запішыце словы ў алфавітным парадку.

Просьба, **песня,** дзверы, **змена,** вазьму, зборы, позні, выказнік, лісце, спазніцца, сядзь, сядзьце, сустрэць, сустрэньце, **радасць.**

А л е: ***дзве носьбіт****

● З выдзеленымі словамі складзіце і запішыце сказы, падкрэсліце граматычную аснову.

> Мяккі знак не пішацца ў с я р э д з і н е і ў к а н ц ы слоў пасля літар, якія абазначаюць няпарныя цвёрдыя гукі [ж], [д͡ж], [ч], [ш], [р], [ц], цвёрдыя [д], [т] і губныя [б], [в], [м], [п], [ф]: *залеж, дождж, мыш, мышшу, печ, печчу, цар, Сібір, жолуд, голуб, вераб'і, В'етнам, інтэрв'ю, сем, восем, стэп, п'едэстал, верф.*

**52.** Прачытайце пары слоў. Вымавіце гукі, якімі адрозніваюцца словы кожнай пары. Запішыце словы з мяккімі зычнымі гукамі ў два слупкі ў адпаведнасці са спосабамі абазначэння мяккасці.

Быў — біў, бэз — без, ваду — вяду, сын — сінь, вугал — вугаль, кон — конь, лук — люк, рыс — рысь, сок — сёк.

● Якую ролю выконвае ***ь*** і літары ***е, ё, ю, я***?

**53.** Запішыце тэкст пад дыктоўку. Падкрэсліце ў апошнім сказе ўсе літары, якія абазначаюць мяккасць зычных гукаў.

Хутка прабеглі дні залатой восені. Пачарнеў лес, скінуўшы на дол апошняе сваё залатое ўбран-

не. Асірацелі голыя палеткі. З дня ў дзень губляла блакітную празрыстасць неба. Яно ўсё часцей хмурнела і як бы ніжэй апускалася да зямлі.

Але здараліся і пагодлівыя дзянькі, калі зямля, здавалася, дыхала цеплынёй. Навокал стаяла такая яснасць, што сумнае курлыканне жураўоў чутна было ў небе на многія вёрсты. *(Паводле У. Краўчанкі)*

● Зрабіце сінтаксічны разбор 1-га сказа.



**54.** Спішыце. Падкрэсліце словы, у якіх усе зычныя мяккія.

Мінск! Ты на вякі запомніў гарачы дзень трэцяга ліпеня 1944 года. Наўкол гарэла зямля. Скрываўленыя дарогі і палі, лясы і акопы. А па тваіх патрушчаных камянях лязгалі гусеніцы запыленых танкаў. На іх гарэлі чырвоныя зоркі. І адразу пасвятлела на вуліцах. Людзі крычалі: «Слава вызваліцелям!» *(Паводле С. Грахоўскага)*

## § 9. Раздзяляльны мяккі знак і апостраф

**55.** Выразна прачытайце наступныя пары слоў:

| | |
|---|---|
| поле — палье | рыба — бязрыб’е |
| канём — шампіньён | бёрда* — аб’ём |
| палю — палью | сямю — сям’ю |
| міля — мільянер | абяцаць — аб’яднаць |
| маліна — Ільінскі | сямі — сям’і |
| лён — паштальён | прыляж — грыльяж |

**пяць** **мя́са** **мя́та**

## АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. У якіх словах літары ***е, ё, ю, я, і*** абазначаюць адзін гук?

2. У якіх словах тыя ж літары абазначаюць два гукі? Назавіце гэтыя гукі.

3. Пасля якіх зычных у словах перад літарамі ***е, ё, ю, я, і,*** калі яны абазначаюць два гукі, пішацца мяккі знак, а пасля якіх — апостраф?

Раздзяляльны мяккі знак пішацца пасля мяккіх зычных перад літарамі ***е, ё, ю, я, і,*** калі яны абазначаюць гукі [й′э], [й′о], [й′у], [й′а], [й′і]: *Марэ**сье**ў, пашта**льё**н, **салью**, мі**ль**-**я**рд, І**льі**нскі.*

Апостраф пішацца пасля прыставак і ў сярэдзіне слоў пасля цвёрдых зычных перад ***е, ё, ю, я, і:*** *ра**з’е**зд, па**д’ё**м, ра**з’ю**шаны, а**б’я**ва, а**б’і**нец, надво**р’е**, ку**п’ё**, вера**б’ю**, ся**м’я**, Ма**р’і**.*

З а ў в а г а. Пасля ***ў*** (*у* нескладовага) апостраф не пішацца: *здаро**ўе**, сала**ўё**м, аба**ўю**ць.*

**56.** Выпішыце ў левы слупок словы з мяккім знакам, які абазначае мяккасць зычных, а ў правы — словы з раздзяляльным мяккім знакам. У чым асаблівасць вымаўлення слоў другога слупка?

Аркадзьеў, Арсеньеў, вольны, дзядзька, **канферансье*, павільён***, палью, **парцьера***, песенька, пісьменнік, цьмяны, кампаньён, пальма.

● Растлумачце значэнне выдзеленых слоў. Складзіце з імі простыя сказы. Запішыце іх і падкрэсліце галоўныя і даданыя члены сказа.

**57.** Прачытайце. Растлумачце напісанне раздзяляльнага мяккага знака і апострафа.

1. Зноў ты будзеш, Беларусь, квітнець з сям'ёй народаў вольных *(Максім Танк)*. 2. А навокал ззяюць далячыні, льецца сонца мірнае з нябёс *(С. Басуматрава)*. 3. Пры дарозе б'е нізкі паклон кучаравы лянок валакністы *(М. Хведаровіч)*. 4. Лістоту жоўтую з двара віхор раз'юшаны змятае *(У. Папковіч)*. 5. Серабрыцца снег, мігацяць незлічоныя мільёны брыльянцістых іголак *(М. Лынькоў)*.

● Ахарактарызуйце зычныя гукі ў словах *сняжынках, змоўк.*

**58.** Падрыхтуйцеся пісаць пад дыктоўку. Растлумачце напісанне раздзяляльных знакаў у словах.

Аб'ехаць на машыне, **з'есці мятную цукерку,** з'явіліся **вераб'і,** дзядзька Дзям'ян, Кандрацьева Дар'я Ільінічна, льецца песня над прасторам, працавітая **сям'я,** птушынае пер'е, салаўіны пошчак, Амудар'я, Сырдар'я, мільярды прамянёў, куп'істая дрыгва, моцнае здароўе.

⊙ Зрабіце гукавыя запісы выдзеленых слоў у адпаведнасці з тым, як яны вымаўляюцца ў літаратурнай мове і ў гаворцы вашай мясцовасці. Чым адрозніваецца мясцовае вымаўленне гэтых слоў ад літаратурнага?



**59.** Спішыце, устаўляючы замест кропак, дзе патрэбна, мяккі знак ці апостраф.

1. Міл..ярды агеньчыкаў адс..вечваліся ў сняжынках белага покрыва зямлі *(Якуб Колас)*. 2. Дзядз..ка Куз..ма змоўк, і мы доўга ішлі і

маўчалі *(У. Аляхновіч)*. 3. Сіняватая вада б..е ў берагі, хвалі як бы гамоняц.. адна з другой *(Р. Сабаленка)*. 4. Заплакала зіма пад капяжамі міл..ёнамі слёз *(Якуб Колас)*. 5. Першы жоўты лісток на бярозе з..яўляецца вельмі рана *(Кузьма Чорны)*. 6. Над рачулкай гаманлівай заводзяць пес..ню салаў..і *(Якуб Колас)*.

## § 10. Зычныя [д]—[дз′], [т]—[ц′]

**60.** Выразна прачытайце пары слоў і назавіце ў адным і другім слупку зычныя гукі, парныя па цвёрдасці-мяккасці. Спішыце гэтыя словы і падкрэсліце літары ***дз, ц*** разам з наступнымі галоснымі.

| | |
|---|---|
| згода — у згодзе | хата — у хаце |
| іду — ідзём | вахта — на вахце |
| дубок — дзюбка | студзень — сцюжа |
| вада — вадзяны | табе — у цябе |
| малады — маладзік | мост — мосцік |

### АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. Перад якімі літарамі не пішацца ***д, т,*** а пішацца ***дз, ц***?

2. Якую ролю выконваюць літары ***е, ё, ю, я, і*** ў прыведзеных словах?

Гукі [д]—[дз′] і [т]—[ц′] з’яўляюцца парнымі па цвёрдасці-мяккасці: *вада — у ва**дз**е, кот — ко**ц**ік*.

Гукі [д], [т] пры змякчэнні пераходзяць у [дз′], [ц′], якія на пісьме перадаюцца праз ***дз*** і ***ц***.

***Дз*** і ***ц*** пішуцца:

- перад літарамі ***е, ё, ю, я, і:*** *у гора**дз**е, вя**дз**ём, **ц**юльпан, **ц**ясляр, **ц**ікавы*;
- перад літарамі ***в, м,*** калі яны абазначаюць мяккія гукі [в′] і [м′]: ***дз**ве, ба**ц**вінне, **Дз**мітрый*; а л е: *бітва — у бі**т**ве, клятва — кля**т**ве, Літва — у Лі**т**ве.*



Гук [д] у канцы прыстаўкі і гук [т] у складзе суфікса вымаўляюцца цвёрда і перад мяккім [в′], таму на пісьме захоўваюцца літары ***д*** і ***т:*** *па**д**везці, у таварыс**т**ве.*

**61.** Прачытайце і вызначце асноўную думку тэксту. Дайце яму загаловак. Растлумачце правапіс ***дз, ц*** у выдзеленых словах.

**Знайдзі** з усіх
адно сваё прызванне,
Знайдзі сваю сярод другіх дарог.
І **шчасце будзе,**
нібы хлеб **надзённы,**
Заўсёдным **госцем** за тваім сталом;
Павагай да **людзей**
і ў **дзень будзённы,**
І ў святы хай напоўніцца твой дом.
Тады парог не пераступяць беды,
Сяброўскіх рук адчуеш ты **цяпло**;
Жыві,
твары і мудрасць продкаў ведай:
Пасей дабро — тады пажнеш дабро.

*А. Руцкая*

● Ахарактарызуйце 1-ы сказ па мэце выказвання і растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў ім. Назавіце гукі і літары ў слове *заўсёдным*.

**62.** Прачытайце іншамоўныя словы і скажыце, якія гукі абазначаюць выдзеленыя літары ***д, т*** у рускай і беларускай мовах.

**д**евиз — **д**эвіз **т**еатр — **т**эатр
**д**испут — **д**ыспут ар**т**ист — ар**т**ыст

У беларускай мове ў многіх іншамоўных словах гукі [д] і [т] вымаўляюцца цвёрда і перадаюцца на пісьме літарамі ***д, т***: ***д**ыялог, **д**эталь, ан**т**эна, **т**эрмін.*

Толькі ў асобных словах [д], [т] змякчаюцца і пераходзяць у [дз′], [ц′]: *ак**ц**ёр, **дз**юны**, ***ц**юль, увер**ц**юра*, мун**дз**ір, ар**ц**ель, на**ц**юрморт, **ц**юльпан.*

**63.** Спішыце, растлумачце правапіс выдзеленых літар.

На с**ц**эне калек**т**ыў спевакоў. Узмах чара**дз**ейнай **д**ырыжорскай палачкай — і паліліся, паплылі чароўныя мела**д**ычныя гукі. У перапоўненай зале гледачы з затоеным дыханнем слухаюць беларускія народныя песні. Іх выконвае **Дз**яржаўная ака**д**эмічная капэла Беларусі *(«Звязда»)*.



**64.** Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары ***дз, д, ц, т*** і адпаведныя галосныя.

Калісьці славу Міхаілу Савіцкаму прынесла кар..на «Пар..занская мадонна». І вось выпала мастаку напісаць «Чарнобыльскі шлях».

Палатно «Відушчы». Ідуць лю.., прыкрыўшы галовы ад ра..яцыйнага дажджу з аблокаў. Яны — сляпыя, бо не ўсведамляюць усяго жаху свайго становішча. Ра..яцыя не мае паху і колеру. Відушчы толькі пава..р — у спе..яльным камбінезоне, з дазіметрам у руках.

Кар..на заклікае нас памятаць Чарнобыль. Заклікае абыхо..цца з прыродай ас..рожна, з розумам, цярпеннем і любоўю *(П. Васілеўскі)*.

● Вам выпала магчымасць наведаць выстаўку карцін ці фатаграфій. Чаму вы аддасце перавагу?

## § 11. Гутарковы стыль

**65.** Прачытайце. Адносна чаго ўдзельнікі гутаркі абменьваюцца думкамі?

— Ну і мяцеліца разгулялася. Жудасць. Свету не відаць, хоць вока выкалі. Вецер з ног збівае.
— І то праўда. Такой кудасы даўно не было.

У штодзённым жыцці людзі звычайна абменьваюцца думкамі, паведамляюць ці пытаюцца пра што-небудзь. Адбываецца гэта ў непасрэднай, жывой гутарцы.

Такая разнавіднасць маўлення, што мае звычайна форму дыялога і выкарыстоўваецца ў непасрэднай, жывой гутарцы з мэтай абмену думкамі, адносіцца да **гутарковага стылю**.

**66.** Прачытайце тэкст. Перакажыце змест размовы Мірона і Віктара. Прачытайце гэту размову без слоў аўтара з адпаведнай інтанацыяй.

— Ды не хістай! Бачыш, што...

Віктар, які стаяў і кіраваў чоўнам, не паспеў скончыць і паваліўся на дно. Душагубка яшчэ больш захісталася, зачарпнула вады.

— Ну вось, бачыш, што ты зрабіў! — сказаў Віктар.

— Ды ты ж сам вінаваты, — агрызнуўся Мірон. — Перад кім было фанабэрыцца, што спрытна спраўляешся з гэтай душагубкай?

— Ну і справіўся б, каб ты сядзеў ціха.

— Я ж і сядзеў, а вось ты забыўся, у якім чэрапе едзеш. Навошта стаяў на ўвесь рост? Давай лепш вычарпаем ваду.

— А чым будзеш вычэрпваць? Чарпак узяў?

— А ты ўзяў?

— Ды хто ж ведаў, што гэта калода будзе цячы. *(Паводле Янкі Маўра)*

● Ці можна аднесці гэты тэкст да гутарковага стылю?

## АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. Якую ацэнку (станоўчую ці адмоўную) даюць адпаведным дзеянням словы *агрызнуўся* і *фанабэрыцца*?

2. Які прадмет і як характарызуюць словы *душагубка, чэрап, калода*?

3. Ці паўтараюцца ў размове Віктара і Мірона адны і тыя ж словы?

4. Зачытайце сказы з простай мовай і растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў іх.

5. Назавіце пытальныя, пабуджальныя і клічныя сказы.

Асноўнымі моўнымі сродкамі гутарковага стылю з'яўляюцца:

а) словы, што выражаюць пачуцці, даюць ацэнку тым ці іншым з'явам і падзеям *(агрызнуцца, фанабэрыцца, душагубка)*;

б) словы з пераносным значэннем і адпаведнай эмацыянальнай ацэнкай *(чэрап, калода)*;
в) розныя па мэце выказвання сказы;
г) сказы са зваroткамі і простай мовай.

**67.** Скажыце, што такое дыялог і чаму ён характэрны для гутарковага стылю маўлення. З улікам прыведзеных адказаў сфармулюйце пытанні і запішыце дыялогі (па варыянтах).

1. — ...?
— Не, яшчэ не чытаў.
— ...?
— Гэты часопіс мы не выпісалі, а ў бібліятэцы на яго чарга.

2. — ...?
— На жаль, сёння не магу.
— ...?
— Іду да бабулі. Дроў накалоць трэба.

**68.** Прачытайце. Скажыце, якія з прыведзеных слоў часцей выкарыстоўваюцца ў гутарковым стылі.

Нарваць, налаташыць *(яблыкаў)*; легчы, заваліцца *(спаць)*; прачытаць, праглынуць *(кнігу)*; прагледзець, празяваць *(аўтобус)*.

**69.** Прачытайце тэкст спачатку са словамі аўтара, а потым — па асобах.

Весць аб арышце Панаса глыбока ўсхвалявала Талаша. Ён сядзеў пануры і думаў.
— Адзін спосаб выбавіць Панаса, — ціха, разважліва сказаў ён, — самому аддацца ў іх рукі.
— Ведаеш, дзядзька Рыгор, — падняў Мартын вочы на дзеда Талаша, — заяўляцца да іх не

трэба. І да каго заяўляцца? Да гэтых прахвостаў? Няможна ім, паганцам, веры даваць. Пайсці — гэта значыць пакарыцца ім. А скулу ім у бок!

— Вось жа і я так мяркую, голубе! Ці так, ці сяк, а жыць нам спакойна не дадуць. Ні ты, ні я аставацца дома не можам.

— Эх, стрэльбы добрай няма ў мяне! — пажалкаваў дзед Талаш. *(Паводле Якуба Коласа)*

**70.** Прачытайце дыялог. Звярніце ўвагу на формы і вымаўленне некаторых слоў. Скажыце, як яны вымаўляюцца ў вашай вёсцы (горадзе).

Моўчкі думалі кожны пра сваё. Зайчык першы разбіў думную маўчанку:

— То ж, мабуць, шчэ ніколі не було, штоб столькі сыходзілася на якую работу разам!

— Праўду казалі — галава еты Апейка!

— У етым уся рацыя, штоб народ падняць! А як народ паднімецца, дак усё зробіць!

— От жа, кеб можна було тое, што Міканор на сходзе казаў, — з юначым захапленнем загаварыў Алёша. — Кеб асушыць балото. Ды жыто, і авёс, і ўсё другое пасеяць! Ето ж зямлі було б! *(І. Мележ)*.

**71.** Прачытайце. Як звычайна называюцца такія дыялогі?

— Вось каб мне такія доўгія вушы, як у зайца, — марыць Пеця. — Я вельмі лоўка лавіў бы падказкі.

— Ой не згодны, — пярэчыць Коля. — Доўгія ж вушы патрэбна і доўга мыць...

● Ці можна аднесці гэты тэкст да гутарковага стылю?



**72.** Уважліва разгледзьце малюнак і скажыце, што на ім адлюстравана. Пра што маглі гаварыць хлопчык і незнаёмы чалавек? Напішыце невялікі тэкст паводле гэтага малюнка і ўключыце ў тэкст размову хлопчыка з незнаёмым.



## § 12. Правапіс *у*, *ў*

**73.** Параўнайце прыведзеныя пары слоў.

**у**вага — ня**ў**вага
**у**мелы — ня**ў**мелы
сла**в**а — сла**ў**ны
прасі**л**ася — прасі**ў**ся

АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. Чаму гук [у] называецца складовым, а гук [ў] — нескладовым?
2. На месцы якіх гукаў з’яўляецца гук [ў]?

Галосны гук [у] утварае склад і называецца **складовым**, а зычны гук [ў] складу не ўтварае і называецца **нескладовым.**

Нескладовы зычны гук [ў] з'яўляецца на месцы гукаў [у], [в], [л] і перадаецца на пісьме літарай ***ў***: *вельмі **ў**важлівы, сла**ў**ны, хадзі**ў**.*

Літара ***ў*** пішацца пасля галосных:

- у пачатку слоў: *свята **ў**раджаю, позна **ў**вечары, каля **ў**ніверсітэта, вельмі **ў**далы*;
- у сярэдзіне слоў: *во**ў**к, гало**ў**ка, пра**ў**да, а**ў**дыторыя, па**ў**за, шо**ў**к, фа**ў**на, Ка**ў**каз, Ро**ў**да*; а л е: *полка, памылка, Волга, полк, сеялка*;
- у канцы слоў: *брата**ў**, кро**ў**, веда**ў***;
- пасля двукосся і злучка, калі папярэдняе слова канчаецца на галосны: *саўгас «Радзіма» **ў**жо закончыў жніво; паўночна-**ў**сходні.*

**74.** Прачытайце. Растлумачце напісанне літары ***ў***.

Жыгар уваткну**ў** кассё **ў** зямлю і абудзі**ў** ранішнюю цішыню нязвыклым звонам мянташкі аб **касу.** І потым узмахну**ў** **касой,** адчу**ў**, як яна мякка і напорыста **ў**вайшла **ў** траву. Вільготная, мяккая трава рэзалася лёгка і густа клалася **ў** **пракос.** Такую траву прыемна **касіць.** Гэта не цімафееўка з цвёрдымі, як дрот, сцяблінамі. І пахне тая **пакоша** не так.

Лёгка і плаўна хадзіла **каса.** Пад узмахі касы хораша думалася. У **пракосе** ішлося вольна, і Жыгар толькі зрэдку спыняўся, каб падмянціць **касу.** *(Паводле А. Жука)*

● Падзяліце словы *ўваткнуў*, *абудзіў* на склады і для пераносу.

Гук [у] не чаргуецца з [ў] і пішацца літара ***у***:

- у пачатку і ў сярэдзіне слоў, калі на ***у*** падае націск: *каля* ***у****рны, даносіцца* ***у****ханне, а****у****л, а****у****каць, сакса****у****л, тры****у****мф*;
- у канцы запазычаных слоў, у тым ліку тых, якія заканчваюцца на ***-ум, -ус***: *фра****у****, ток-шо****у****, Ланда****у****, акварыі****ум****, прэзіды****ум****, рады****ус****, стра****ус****, со****ус***;
- у пачатку ўласных імён: *да* ***У****ладзі, ва* ***У****ручча, на* ***У****краіне*.
- пасля знакаў прыпынку (; : — ,).

Заўвага. Двукоссе і злучок (дэфіс) не з'яўляюцца знакамі прыпынку.

**75.** Прачытайце. Растлумачце напісанне літар ***у, ў***.

зімой, у студзені
у горадзе Узда
працаваць па-ўдарнаму
ва ўніверсітэце
жанчына-ўрач
ордэн «Знак пашаны» ўручаны
кансіліум
аўдыторыя

**76.** Спішыце, устаўляючы літару ***у*** ці ***ў***. Растлумачце іх напісанне.

Ст..дзеньскі дзянёк як на заказ. Цёплы, сонечны, сапра..ды святочна-..рачысты. У полі, ... лесе — ..сюды снег. До..га мы бл..калі ... бялюткім ма..клівым царстве.

Дамо.. вярталіся няспешна. У двух кроках на камлі елкі я ..бачы.. шэраньк..ю пт..шачку з бе-



лымі крапінкамі на спіне. Прызнаюся: ..першыню мне пашанцавала с..стрэць пішч..ху. Мы асцярожна ст..пілі да яліны. Пт..шка пераляцела на с..седняе дрэва. А мы, каб не перашкаджаць лясной санітарцы, пайшлі далей. *(Паводле У. Ягоўдзіка)*

● Назавіце птушак, што не адлятаюць у вырай?

**77.** Падрыхтуйцеся пісаць пад дыктоўку. Растлумачце напісанне літар ***у***, ***ў***.

Міхаіл Андрэевіч Савіцкі — адзін з самых выдатных мастакоў краіны. Яго таленавітай рукой на неўміручую тэму ўсенароднага подзвігу беларускіх партызан напісаны карціны «Партызанская мадонна», «Кара», «Поле». Карціны з серыі «Лічбы на сэрцы» выкрываюць і абвінавачваюць крывавыя злачынствы фашыстаў. Гэтую серыю мастак стварыў на аснове ўласнага вопыту. Савіцкі быў вязнем фашысцкіх канцлагераў і прайшоў усе кругі гітлераўскага пекла. *(Паводле В. Быкава)*



**78.** Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары. Назавіце правілы, якімі вы кіраваліся пры ўжыванні гэтых літар.

1. Знаёмцеся з помнікамі культуры, архіт..ктуры, з творчасцю нашых м..сцовых майстроў-..мельцаў *(«Звязда»)*. 2. У **вырай** сабраліся гусі, і жора.. азва..ся пад небам *(Янка Купала)*. 3. Дзе сажалка, дзе гай, дзе аз..рцо — ..сё **лагодзіць** вока

*(П. Броўка)*. 4. Я змалк.. веда.., як г..моняць р..кі, як ціха плач..ць вербы над вадой *(П. Прыходзька)*. 5. Скарынава «Біблія» была крыніцай веда.., яе чыталі на Беларусі і ..краіне. Няда..на адзін экз..мпляр гэтай кнігі знайшлі ў ..жгарадзе *(У. Караткевіч)*.

● Вусна зрабіце фанетычны разбор выдзеленых слоў (узор разбору гл. на форзацы).
● Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў 2-м сказе.

## § 13. Падоўжаныя зычныя

**79.** Прачытайце выразна пары слоў і скажыце, ці ёсць розніца ў вымаўленні гукаў, абазначаных выдзеленымі літарамі.

бера**ж**ок — узбяр**эжж**а
пала**з**ы — пало**зз**е
су**дз**іць — су**ддз**я

кры**л**о — кры**лл**е
камя**н**і — каме**нн**е
кала**с**ы — кало**сс**е

жы**ц**ь — жы**цц**ё
су**ч**ок — су**чч**а
заці**ш**ак — заці**шш**а

***юнна́ты***
***раса́да***

АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. Якія гукі абазначаюць выдзеленыя літары?
2. У якіх словах гэтыя гукі вымаўляюцца з большай працягласцю (падоўжана) і як такое вымаўленне перадаецца на пісьме?

Зычныя гукі [ж], [ч], [ш], [з′], [с′], [дз′], [ц′], [л′], [н′] у становішчы паміж галоснымі могуць вымаўляцца падоўжана.

Падаўжэнне зычных гукаў на пісьме перадаецца **дзвюма літарамі:** *падарожжа, раздолле, узвышша, Наталля, Таццяна, Усцінне* і інш.; а л е: *Ілья, Касьян, Ульяна, Юльян* і вытворныя ад іх: *Ілын, Емельянаў, Ульянаў, Касьянаў* і інш.

Падоўжаны гук [дз′] на пісьме перадаецца літарамі ***ддз:*** *меддзю, разводдзе, стагоддзе*.

У словах іншамоўнага паходжання зычныя гукі не падаўжаюцца: *каса, алея, група, калона, Ала, Эма.* В ы к л ю ч э н н е: *ванна, мадонна, манна, панна, саванна, Жанна, Ганна, Сюзанна.*

**80.** Прачытайце і скажыце, чаму ў адных словах гук [ц′] падаўжаецца, а ў другіх — не падаўжаецца.

Багацце — шчасце, вільгаццю — адлегласцю, жыццё — трысцё, сенажаццю — радасцю.

● З першымі двума словамі складзіце сказы і запішыце іх. Падкрэсліце граматычную аснову сказаў.

**81.** Прачытайце і скажыце, чаму так названы тэкст. Растлумачце падвоенае напісанне літар у выдзеленых словах. Ці супадае ў гэтых словах колькасць гукаў і літар?

### Сааўтар фантазія

Дзеці вельмі любяць паходы ў лес. І не дзіўна: тут для іх столькі **адкрыццяў**! Сярод сухоха **сучча** замаскіраваліся розныя чалавечкі-лесавікі. А якой дзіўнай[ф] формы бывае **карэнне**!

Пасля з вялікім **задавальненнем** бачыш, як у дзіцячых руках кавалачкі дрэва, кары, шышак, жалудоў ператвараюцца ў цікавыя скульптуры, казачныя вобразы *(«Раніца»)*.



Неабходна адрозніваць падаўжэнне зычных ад іх падваення, якое таксама перадаецца на пісьме дзвюма літарамі. Падваенне адбываецца:

- на стыку прыстаўкі і кораня: ***аддаляцца*** (адзін гук [д] адносіцца да прыстаўкі ***ад-***, а другі — да кораня ***-дал-***);
- на стыку кораня і суфікса: ***асенні*** (адзін гук [н′] адносіцца да кораня ***асен-***, а другі з’яўляецца суфіксам).

**82.** Спішыце. Вызначце, у якіх з выдзеленых слоў адбылося падаўжэнне зычных гукаў, а ў якіх — падваенне.

Ледзь не з-пад самых ног Людвіка ўзняўся жаўранак і заліўся **трэллю.** У вышыні, пад самымі воблакамі, ён **аддаліўся.** І ўжо задорная песня даносілася з **паднябесся.** Але Шэўчык усё сачыў за **вясенняй** птушкай.



**83.** Спішыце, раскрываючы дужкі і ўпісваючы адну ці дзве літары.

1. Трымаючы над Белай Ру*(с/сс)*ю неба, паўстаў перада мной былі*(н/нн)*ы дуб *(М. Башлакоў)*. 2. Сустрэну ў полі вес*(н/нн)*яе світа*(н/нн)*е — запахне хлебам свежая ра*(л/лл)*я *(М. Шахавец)*. 3. Працуюць лоўка, дружна ад золку да зары з Павол*(ж/жж)*а і Прыбу*(ж/жж)*а, з Наднёма*(н/нн)*я сябры *(В. Шымук)*. 4. Хлапчукі разышліся гру*(п/пп)*амі і рабілі ўсё а*(к/кк)*уратна і старанна *(П. Кавалёў)*. 5. Аднаго я не знаў у жы*(ц/цц)*і — гэта страху, маладу*(ш/шш)*а і літас*(ц/цц)*і к ворагам *(М. Гамолка)*. 6. Над заснежанай рэчкай трубіць ме*(дз/ддз)*ю ліс*(ц/цц)*ё *(Г. Пашкоў)*.

# § 14. Прыстаўныя гукі

**84.** Прачытайце выразна словы.

**в**о́зера — азёрны  
**в**о́блака — аблачы́нка  
**в**у́чань — **в**учо́ба  
**в**у́гал — за**в**уго́лле

АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

***нао́гул***

***уво́гуле***

1. Перад якімі галоснымі гукамі вымаўляецца гук [в]?
2. У якім выпадку з'яўляецца прыстаўны гук [в] перад [о]?
3. Ці залежыць ад націску наяўнасць прыстаўнога [в] перад [у]?

Прыстаўны гук [в] вымаўляецца і перадаецца на пісьме літарай ***в***:

- у пачатку слова перад націскнымі галоснымі [о], [у]: ***в****о́блака*, ***в****о́дпуск*, ***в****о́цат*, ***в****у́ліца*, ***в****у́праж*, ***в****у́стрыца*. Калі пры змяненні месца націску [о] пераходзіць у [а], то прыстаўная літара ***в*** не пішацца: ***в****о́блака* — *аблачы́нка*, ***в****о́сень* — *асе́нні*, ***в****о́зера* — *азёрны*;
- пасля прыставак перад каранёвымі галоснымі [о], [у]: *за****в****о́блачны*, *на****в****учы́цца*;
- у сярэдзіне некаторых слоў перад [о], [у]: *на****в****о́бмацак*, *на****в****о́ддаль*, *па****в****о́дле*, *кара****в****у́л*, *еса****в****у́л*, *ці****в****у́н*, *На****в****у́м*, *па****в****у́к*, *Ля****в****о́н* і вытворных ад іх незалежна ад націску: *На****в****умо́віч*, *па****в****уці́нне*;
- у словах ***вока***, ***востры***, ***вакол*** і вытворных ад іх незалежна ад націску: ***в****о́ка*, ***в****ачэ́й*, ***в****ачаня́ты*, *за****в****о́чны*, *у****в****ачаві́дкі*; ***в****астры́ць*, ***в****астрэ́йшы*, *на****в****астры́ць*, *на****в****о́страны*; ***в****ако́л*, ***в****ако́ліца*, *на****в****ако́лле*.

**85.** Прачытайце. Растлумачце напісанне прыстаўной літары ***в***.

Высока-высока заружавела лёгенькае воблачка. Вузкая хмарка ўсё больш ды больш налівалася чырванню. Вогненны круг прарэзаўся з хмаркі-смугі. Возера заззяла радасцю! А над усёй такой прыгажосцю, у чыстым небе, трохі воддаль ад воблачка, стаіць поўны месяц. *(Паводле Я. Брыля)*

Прыстаўны гук [в] не вымаўляецца, і літара ***в*** не пішацца ў пачатку імён, прозвішчаў, геаграфічных назваў і іншамоўных слоў перад галоснымі [о], [у]: *Осіп, Осіпаў, Орша, Ульяна, Узда, ордэн, опера, урна*; а л е: ***В****ольга,* ***В****огненная Зямля.*

Прыстаўны гук [г] вымаўляецца і перадаецца на пісьме ў словах ***гэты, гэтак, гэтулькі, гэй, го, га, адгэтуль, пагэтуль, Г****анна.*

**86.** Прачытайце сказы і вызначце, у якіх словах на месцы пытальніка неабходна вымаўляць прыстаўны гук [в] ці [г]. Растлумачце наяўнасць ці адсутнасць прыстаўных гукаў.

1. Душой я вольны чалавек і *(?)*эткім буду цэлы век! *(Янка Купала)*. 2. Тры баявыя *(?)*ордэны ўпрыгожылі грудзі Ваўчка *(Т. Хадкевіч)*. 3. *(?)*осень прала кужаль тонкі — па*(?)*уціння белы лён *(Якуб Колас)*. 4. *(?)*асеннія сады як *(?)*огнішчы палаюць *(П. Панчанка)*. 5. *(?)*остры боль прайшоў ужо, чалавек расплюшчыў *(?)*очы *(В. Быкаў)*. 6. *(?)*эта быў ён — *(?)*Озераў, разведчык *(І. Мележ)*. 7. Пад яркім сонцам радасна іскрыцца *(?)*озера *(В. Вольскі)*.

**87.** Запішыце наступныя словы па-беларуску і скажыце, чаму ў адных выпадках літара ***в*** пішацца, а ў другіх — не пішацца.

Образ, озеро, окно, оконный, осенний, острый, внук, угол, урожай, наука, околица, обсерватория, участок.

У беларускай мове перад збегам зычных гукаў, дзе першымі з'яўляюцца [л], [м], [р], узнікаюць прыстаўныя галосныя [і], [а], якія на пісьме перадаюцца літарамі ***і, а***:

1) перад [л], [р], калі словы са збегам зычных:

- пачынаюць сказ: ***І****ржуць коні.* ***А****ржаное поле бяскрайняе*;
- стаяць пасля слова, якое канчаецца на зычны: *мінуў* ***а****ржанішча, білет* ***і****льготны*;
- стаяць пасля знака прыпынку: *кашулі з шоўку,* ***і****льну; хлеб пшанічны,* ***а****ржаны*;

2) перад [м] — у любым становішчы: ***а****мшэлы,* ***і****мжа, шпарка* ***і****мчаў*.

З а ў в а г і.

1. Калі папярэдняе слова канчаецца на галосны, то ў наступным слове перад збегам зычных на [л], [р] літары ***і, а*** не пішуцца: *на льнішчы, поле ржаное*.

2. Пасля прыставак і першай часткі складаных слоў, якія заканчваюцца на галосную, прыстаўныя ***і, а*** перад ***л, м, р*** не пішуцца: *заржавець, зардзецца, замшэлы, прымчацца, вокамгненна*.

**88.** Растлумачце правапіс слоў з прыстаўнымі гукамі.

1. Холадна свяцілі ў імгле белыя ствалы бяроз *(У. Караткевіч)*. 2. Палі рассцілаюцца бледнажоўтымі плямамі ржышча *(Т. Хадкевіч)*. 3. Андрэй аглядаў ствалы дрэў, каб па амшэлых баках пазнаць, дзе поўнач *(П. Пестрак)*. 4. Людзі прыспешвалі крок, каб хутчэй выйсці з вузкага завулка на брукаваную вуліцу *(В. Адамчык)*. 5. У вушах цокат жняяркі і шоргат іржышча *(Я. Брыль)*. 6. Хмары імгненна сплылі з неба *(Я. Галубовіч)*.

**89.** Спішыце, устаўляючы патрэбныя літары. Растлумачце іх напісанне. Падкрэсліце словы з прыстаўнымі гукамі.

Чалавецтва не выпа..кова выдумала ..эты цуд — кнігу. Спачатку чалавек пісаў на кам..нях, на гліняных чарапах, на папірусе, на б..розавай кары. Край як трэба было перадаць будучым пакале..ям свой жы..ёвы ..опыт, свой р..зум. Кніга в..дзе нас па таемных сце..ках мінулага, на ..мклівым зоркал..це ..мчыць у будуч..ню. Вучыць аддана служыць Радзіме, любіць р..дную з..мля, сваіх бацькоў, ..учыць працаваць і сябраваць.

Любіце ж кнігу — ..эты неац..нны скарб. Сябруйце з ёй. Яна робіць усіх нас лепш..мі. *(Паводле Л. Дайнекі)*



**90.** Спішыце. Устаўце прапушчаныя літары і растлумачце іх правапіс.

Пры по..най ..ішыні залы замірае апошні акорд. Напружаная па..за, і раптам — гром ап-

лад..смента.. . Ужо не адно пакале..е гл..дачоў не проста гл..дзіць балет Я. Глебава «Альпійская балада». Гл..дачы пераж..ваюць кароткую і хвалюючую траге..ыю кахання і смерці. Балет «Альпійская балада» — гонар беларускага нац..янальнага мастацтва.

● Зрабіце фанетычны разбор слоў *замірае, глядзіць*.

## Кантрольныя пытанні і заданні

1. Ад чаго залежыць падзел гукаў на галосныя і зычныя? Назавіце спачатку галосныя, а потым зычныя гукі.

2. Як вызначыць колькасць складоў у слове? Прывядзіце прыклады.

3. Чаму пасля літар ***ж, дж, р, ч, ш*** не пішуцца літары ***е, ё, ю, я, ї***?

4. Назавіце зычныя гукі, якія не маюць парных звонкіх ці глухіх.

5. Чым адрозніваюцца паміж сабой гукі і літары?

6. Якімі літарамі абазначаецца мяккасць зычных гукаў на пісьме?

7. Якая розніца паміж мяккім знакам і раздзяляльным мяккім знакам? Прывядзіце прыклады.

8. Раскажыце аб правапісе галосных ***о, э, а; е, ё, я.*** Прывядзіце прыклады.

9. У якіх выпадках [д], [т] пераходзяць у [дз′], [ц′]?

10. Ці адпавядае напісанне слоў *рэзчык, бясшумны, на рэчцы, вучышся* іх вымаўленню? Чым гэта тлумачыцца?

11. Растлумачце напісанне выдзеленых літар у словах: *стago**ддз**е, бага**цц**е, раздо**лл**е, узбярэ**жж**а.*

12. У якіх словах з’яўляюцца прыстаўныя гукі [в], [г], [і], [а]? Прывядзіце прыклады.

# ЛЕКСІКА. ФРАЗЕАЛОГІЯ

## § 15. Слова як назва рэчаў, з’яў, паняццяў. Лексічнае і граматычнае значэнне слова

**91.** Прачытайце.

Каб карыстацца мовай, гэта значыць гаварыць і пісаць, неабходна ведаць словы. **Слова — асноўная адзінка мовы.** З дапамогай слоў мы расказваем пра розныя прадметы, рэчы, з’явы, апісваем іх. Словамі мы выказваем свае думкі і выражаем пачуцці, праз словы ўспрымаем думкі і пачуцці іншых людзей.

Словы — гэта будаўнічы матэрыял мовы, таму нельга ведаць мову, не ведаючы слоў.

**Усе словы беларускай мовы складаюць яе слоўнікавае багацце, яе лексіку.**

### АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. Для чаго служаць словы?
2. Што такое лексіка?
3. Ці можна ведаць мову без ведання слоў і разумення іх значэння? Абгрунтуйце сваё меркаванне.

Тое, што абазначае слова, з’яўляецца яго **лексічным значэннем.** Напрыклад: слова *акно* абазначае *зашклёную раму ў сцяне будынка для святла і паветра.* Гэта і ёсць лексічнае значэнне слова *акно*.

**92.** Прачытайце прыказкі і прымаўкі пра слова і скажыце, як вы разумееце іх сэнс.

1. Слова — не верабей, выпусціш — не зловіш. 2. Рынуў слаўцом як пярцом. 3. Калі слова прыроднае, дык яно і добрае. 4. Куляй пацэліш у аднаго, у двух, а трапным словам — у тысячу.

**93.** Прачытайце тэкст. Прывядзіце прыклады слоў, якія абазначаюць прадметы, дзеянні, прыметы.

Голас цымбал то пяшчотна-сумны, то гарэзлівы*. Ён лашчыць слых, зачароўвае, весяліць. Колькі цудоўных мелодый для цымбал створана нашым народам! Слухаеш іх і ўяўляеш то маляўнічыя карціны прыроды роднага краю, то гераічныя старонкі беларускай гісторыі, то шумныя кірмашы і святы.

Вельмі многа для захавання народнай музычнай спадчыны зрабіў кампазітар І. Жыновіч. Апрацаваныя ім мелодыі для цымбал прыгожыя і мілагучныя *(«Культура»)*.

● Ахарактарызуйце першыя тры сказы па інтанацыі.

● Запішыце ў алфавітным парадку вядомыя вам музычныя інструменты. Скажыце, як называюць выканаўцаў музыкі на гэтых інструментах.

**94.** Прачытайце тэкст заснавальніка беларускага мовазнаўства Я. Ф. Карскага і скажыце, якую ролю слова ў мове ён падкрэслівае.

Словы ў мове з’яўляюцца абазначэннямі ўяўленняў і паняццяў аб прадметах. Ёсць у мове слова для абазначэння якога-небудзь паняцця, значыць, народу вядомы і сам прадмет, увайшоў у яго свядомасць. Няма слова ў народа, няма і ўяўленняў

аб прадмеце, апошні не ўсвядомлены ім, хоць ён і існуе ў рэчаіснасці.

Лексічныя значэнні слоў раскрываюцца (тлумачацца) у тлумачальным слоўніку рознымі спосабамі: а) падборам блізкіх па значэнні слоў; б) спасылкай на слова таго ж значэння; в) пералікам прымет прадмета ці з'явы; г) тлумачэннем праз часткі слова, з якіх яно складаецца.

**95.** Запішыце значэнні слоў паводле прыведзеных узораў.

1. Барвовы — густа-чырвоны, пурпуровы;
адважны — ...
2. Краска — тое, што і кветка;
васілёк — ...
3. Бабка — грыб з цёмна-бурай шапкай на высокай ножцы;
абаранак — ...
4. Дабрадзей — той, хто робіць (дзее) дабро;
сталявар — ...

## ДА ВЫТОКАЎ СЛОВА

***Краска.*** Як назва кветак слова *краска* сустракаецца ў розных народаў, што сведчыць пра яго старажытнасць. *Краска* — аднаго кораня са словам *краса*. Краса — гэта бессмяротная, заўсёды ўваскрасаючая прырода, цвіценне. Адсюль становяцца зразумелымі і беларускія назвы кветак — *краскі,* і назва месяца — *красавік,* і выраз *жыта красуе.*

Слова мае **лексічнае** і **граматычныя значэнні.** Напрыклад, граматычныя значэнні для назоўніка і прыметніка — гэта значэнні роду, ліку і склону; для дзеяслова — значэнні часу, асобы, ліку і інш.



**96.** Прачытайце. Вызначце лексічныя значэнні слоў, што ў дужках. Спішыце сказы, выкарыстоўваючы адно з гэтых слоў.

1. Над вадою *(калыша, трасе)* траву ве**ц**ярок, з неба ў **в**озера *(ляцяць, падаюць)* зоркі. 2. Над хатай Біруковых *(шумела, гудзела)* р**а**біна, бо ве**ц**ер *(пабольшаў, павялічыўся)*, і **в**осеньская **і**мгла пачынала пераходзіць у *(дробны, малы)* дождж. 3. Звіняць к**а**сілкі, свішчуць к**о**сы ў летняй *(маладой, юнай)* траве. 4. *(Глiністая, гліняная)* **в**уліца паволі спаўзала да р**а**кі, дзе абрывалася *(высокім, вялікім)* *(камяністым, каменным)* берагам.

- Вызначце граматычныя значэнні слоў 3-га сказа.
- Растлумачце правапіс выдзеленых літар.

## § 16. Агульнаўжывальныя словы і словы абмежаванага ўжывання

**97.** Прачытайце дыялог.

— Схадзіў бы ты, унучак, да рэчкі і прынёс жульвіцы. Бачыш, кошык мой зусім прадзіравіўся. Трэба было б падплесці.

— Чаго прынесці, бабуля?

— Жульвіцы.

— А што гэта такое?

— Ды ракіта, унучак. А па-нашаму — жульвіца.

### АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. Чаму ўнук спачатку не зразумеў бабулю?
2. Якое слова агульнавядомае, а якое ведаюць толькі жыхары пэўнай мясцовасці?

Словы сучаснай беларускай мовы ўжываюцца ўсімі, хто гаворыць і піша па-беларуску.

Словы, якія аднолькава ўжываюць і разумеюць усе, хто карыстаецца беларускай мовай, называюцца **агульнаўжывальнымі,** напрыклад: *мама, рука, хата, журавель, клён, блакітны, ісці, дзесяць* і інш.

У беларускай мове побач з агульнаўжывальнымі ёсць такія словы абмежаванага ўжывання, якімі карыстаюцца не ўсе беларусы, а толькі жыхары пэўнай мясцовасці.

Словы, якія ўжываюцца толькі ў мове жыхароў пэўнай мясцовасці, адносяцца да **дыялектных,** напрыклад: *галень* (дзяркач), *лахачы* (буякі).

Дыялектныя словы выкарыстоўваюцца, як правіла, у вуснай размове. Такія словы сустракаюцца і ў творах мастацкай літаратуры, дзе яны дапамагаюць аўтару больш дакладна і праўдзіва апісаць жыццё і быт людзей пэўнай мясцовасці, а таксама падкрэсліць і перадаць асаблівасці іх мовы.

**98.** Прачытайце тэкст. Растлумачце сэнс назвы.

### Музей слоў

Жыў некалі на Беларусі Іван Іванавіч Насовіч. Ён нарадзіўся на Магілёўшчыне, пражыў 89 гадоў. Быў педагогам, мысліцелем, вучоным. У сваім жыцці ён здзейсніў подзвіг: сабраў звыш 30 тысяч жывых беларускіх слоў. Гэта духоўнае багацце надрукавана ў «Слоўніку беларускай мовы». Зірнем на некаторыя яго старонкі:

Баўкала — жартоўная назва звона.

Вавула — павольны чалавек.

Жыг — імгненны скачок, укус, нечаканы ўдар.

Запісвайце, сябры, цікавыя словы, і ў вас будзе свой музей слоў *(«Вясёлка»)*.

● Прыведзеныя са слоўніка І. І. Насовіча словы агульнаўжывальныя ці дыялектныя?

**99.** Параўнайце агульнаўжывальныя і дыялектныя назвы прадметаў і з'яў і скажыце, чаму яны так названы. Дапоўніце гэтыя рады назваў іншымі словамі, вядомымі ў вашай мясцовасці.

Верабей — канаплюк, прасянік, ... . Галалёдзіца — аблой, аблівень, ... . Дрыгва — дыхавіца, трасіна, ... . Дзяркач — галяк, раскол, ... . Падасінавік — асавік, краснюк, ... .

**100.** Прачытайце слоўнікавыя артыкулы з тлумачальных слоўнікаў. Скажыце, з якімі паметамі фіксуюцца ў іх дыялектныя словы.

**Бац**, -а, *м*. Пацук. *Збудаваў я палац, многа фабрык, мастоў. Сам жа голы, як бац, — пары дзве рызманоў.*

⊙ **101.** Прачытайце. Звярніце ўвагу на дыялектныя формы слоў. Як гэтыя словы вымаўляюцца ў вашай мясцовасці?

Сустрэлі пастухоў. Скардзяцца.

— Лесу шкода. Вуньдзека ён, за польдэрам*... Сохнэ, бедалага. Альшына, дуб, ясэнь, клён — усё сохнэ. А сохнэ таму, што запынь зробілы. Колы вода з Горыні почнэ подпіраты, залівае лес. От того і сохнэ!.. Вот мы і думаемо, шчо ж тоды ждаты, колы так робіцца. *(Паводле Я. Пархуты)*

● Запішыце тэкст, ужываючы словы ў такой форме, якую яны маюць у літаратурнай мове.

**102.** Прачытайце. Выпішыце з кожнага сказа спачатку агульнаўжывальнае, а потым дыялектнае слова паводле ўзору. Што дапамагло вам вызначыць дыялектнае слова?

У з о р: *рэха — яха.*

1. — То хадзем на лаўку, пад май, — прапанаваў дзядок.

— Пад які май? — недаўменна спытаў Вінцэсь.

— Пад клён, — сказаў дзядок. — У нас кляны маем завуць *(П. Ламан)*.

2. Страшныя і ў той жа час радасныя думкі апанавалі Андрэйку. Якое шчасце, што ён праскочыў гэтую паніўку. Час ісці дамоў: нацешыўся, накатаўся, а як успомніў палонку, у якую ледзьве не ўваліўся, дык аж здрыгануўся *(Л. Левановіч)*.

3. Дарога скрозь пахла чаромхаю. Водар густы, салодкі, хмельны, ажно галава ідзе кругам. «А чаму гэтак позна дурыць калакалуша?» — пытаецца Насця *(В. Карамазаў)*.

4. А ў нас аер завецца ярай *(В. Ярац)*.

⊙ **103.** Складзіце тлумачальны слоўнік з 8—10 дыялектных слоў, вядомых у вашай мясцовасці. Прыклады ўжывання гэтых слоў запішыце з захаваннем асаблівасцей вымаўлення мясцовых жыхароў.



**104.** Спішыце, замяняючы дыялектныя словы агульнаўжывальнымі.

1. Аднакіх дрэў колькі хочаш — крывых ці ў струнку *(А. Русецкі)*. 2. Каля стала стаялі заслоны* і некалькі крэслаў *(Кузьма Чорны)*. 3. Я збіраў паземкі* і чарніцы^ф *(У. Папковіч)*. 4. Ба-

зыль узяў у гаспадыні з рук галень і выцягнуў з яго дубец *(Р. Яўсееў)*. 5. «Што ты мяне баішся?» — прысядаючы на корпушкі, пытаў Пятро *(Р. Сабаленка)*. 6. Цяпер увесь лог* быў белы — усеяны раманамі *(І. Пташнікаў)*.

## § 17. Прафесійныя словы. Навуковыя тэрміны

**105.** Прачытайце дыялог.

— Тата, і я хачу быць трактарыстам, — гаворыць Віцька.

— Тады за справу. Для пачатку памагай мне. Я буду фрыкцыёны змазваць, а ты — хадавую частку. Потым прачысцім жыклёр і паспрабуем завесці трактар. Згода?

— Згода. Толькі што такое фрыкцыён і жыклёр?

### АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. Якіх слоў не ведаў Віцька?
2. Людзі якой прафесіі выкарыстоўваюць гэтыя словы ў сваёй мове?
3. Ці можна лічыць такія словы агульнаўжывальнымі?

Словы, якія выкарыстоўваюцца людзьмі той ці іншай прафесіі ці спецыяльнасці, называюцца **прафесійнымі.**

Прафесійныя словы ўжываюцца пераважна ў калектывах людзей, аб'яднаных пэўнай працоўнай дзейнасцю, спецыяльнасцю, заняткам, прафесіяй.

Да прафесійных слоў як слоў абмежаванага ўжывання прымыкаюць **навуковыя тэрміны,** г. зн. словы, якія абазначаюць паняцці з розных галін навукі, тэхнікі, мастацтва, напрыклад: *выказнік, назоўнік, суфікс; дзельнік, перпендыкуляр, біном; песцік, суквецце, тычынка.*

Прафесійныя словы і навуковыя тэрміны могуць выкарыстоўвацца і ў творах мастацкай літаратуры. Такія словы дапамагаюць пісьменніку праўдзіва і дакладна адлюстраваць працоўныя будні, стварыць вобразы людзей пэўнай прафесіі ці спецыяльнасці.

**106.** Назавіце прафесію свайго бацькі (маці, брата, сястры) і запішыце некалькі прафесійных слоў, якія ён (яна) выкарыстоўвае ў сваёй мове.

**107.** Разгледзьце малюнак. Каго і што вы бачыце на ім? Якія інструменты і матэрыялы патрэбны для таго, каб зрабіць рамку, намаляваць карціну? Запішыце іх назвы і растлумачце, што яны абазначаюць.



**108.** Спішыце. Падкрэсліце прафесійныя словы. Скажыце, на якім заводзе працуе маці Аленкі.

— Глядзі, — сказала маці. — Гэта — бабіна, ці шпулька. А там — замасліваецель, ад яго струменьчыкаў ніць і ахалоджваецца. А гэта — фільеры, у якіх сто танюткіх дзірачак. Праз іх цячэ расплаўленае шкло. Зводзіш ніці ў адну — і на бабіну. Ну, паспрабуй!

Аленка ўзяла шкляную палачку, ціха звяла танюткія празрыстыя ніці з бліскучымі кропелькамі шкла ў адзін пук і падвяла да шпулькі. Шпулька нечакана падхапіла ніці і закруцілася. *(Паводле А. Савіцкага)*

● Якіх слоў, агульнаўжывальных ці прафесійных, больш у гэтым тэксце?

**109.** Прачытайце. Выпішыце прафесійныя словы і побач запішыце назву чалавека той прафесіі, які ўжывае гэтыя словы ў сваёй мове.

У з о р: *барэльеф, манумент, статуя — скульптар.*

1. У ложы зайгралі музыкі, і адразу на манеж пачалі выходзіць і выбягаць артысты *(А. Асіпенка)*.

2. Навучу вас, таварышы, моцна трымаць у руках гэбель, спраўна працаваць фуганкам, дзяўбаць долатам, лоўка забіваць цвікі малатком *(В. Дубінка)*.

3. То звініць, то глуха грукоча барабан, гудзіць вентылятар, стукае саламатрэс. Няспынна сыплецца ў бункер збожжа *(І. Шамякін)*.

4. Колеравыя тоны В. Цвірка ўмее аб'яднаць у адзіную маляўнічую гармонію. Шырокі мазок,

расплывістасць колеру ствараюць непаўторны каларыт і той эфект, які характэрны для яго акварэляў *(А. Бяспалы)*.

**110.** Прачытайце. Назавіце навуковыя тэрміны і вызначце, спецыялісты якой галіны ведаў іх ужываюць у сваёй мове.

Разгледзім кветку вішні. У цэнтры добра відаць песцік, ці плоднік, падобны на таўкачык маленькай ступкі. Ён абкружаны шматлікімі тычынкамі. Песцік і тычынкі — галоўныя часткі кветкі. Іх ахоўвае вяночак. Ён складаецца з пяці беласнежных пялёсткаў. Пад пялёсткамі знаходзіцца чашачка з пяці зялёных чашалісцікаў. Вяночак і чашачку называюць калякветнікам. Кветка трымаецца на тонкай сцяблінцы — кветаножцы.



**111.** Спішыце тэкст і падкрэсліце навуковыя тэрміны. У якой галіне ведаў яны выкарыстоўваюцца?

Француз Дамінік вынайшаў ручку, якая робіць вылічэнні ў час пісьма.

Запіс лічбаў і матэматычных знакаў робіць фотаэлемент, і яны трапляюць на ўнутранае вылічальнае прыстасаванне. Дастаткова чалавеку паставіць знак роўнасці — і на экранчыку ручкі з'яўляецца канчатковы вынік.

Ручка выконвае чатыры асноўныя арыфметычныя дзеянні, а таксама знаходзіць квадратны корань *(«Раніца»)*.

● Напішыце, якія чатыры арыфметычныя дзеянні выконвае ручка.

## § 18. Устарэлыя словы і неалагізмы

**112.** Прачытайце тэкст і адшукайце ў ім словы, якія называюць намаляваныя прадметы.

Малады Алекса дзяжурыў каля самага галоўнага склада. Там беражліва было схавана ўсё, што можа спатрэбіцца для войска: шлемы, шчыты, мячы, коп'і, шаблі, стрэлы... Ляжалі кальчугі і кальчужныя сеткі, якімі закрываюць твар лучнікі. Асобна мясціліся харугвы, а таксама бубны і трубы.



Пры князю Брачыславу не вельмі адпачывала ад крывавых сечаў усё, што ляжала тут. *(Паводле В. Іпатавай)*

### АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. Ці ёсць на ўзбраенні сучасных воінаў гэтыя віды зброі?

2. Чаму выйшлі з актыўнага ўжывання і ў сучаснай беларускай мове не выкарыстоўваюцца словы *кальчуга, кап'ё, меч, страла, шабля*?

3. Якія яшчэ словы ў тэксце абазначаюць прадметы і паняцці, уласцівыя для мінулых эпох?

**113.** Звярніце ўвагу на наступны малюнак і скажыце, якімі словамі былі заменены іх ранейшыя назвы *аэраплан, лятун.* Запішыце новыя назвы.



● Чаму словы *аэраплан, лятун* устарэлі?

Словы, якія выйшлі з актыўнага паўсядзённага ўжывання, лічацца **ўстарэлымі.**

Устарэлыя словы адлюстроўваюць мінулае ў жыцці народа. Таму яны выкарыстоўваюцца пісьменнікамі ў творах на гістарычную тэматыку з мэтай праўдзівага паказу падзей той ці іншай эпохі. Такія словы падаюцца ў тлумачальных слоўніках з паметай *уст.* (г. зн. устарэлае).

Акрамя таго, пры тлумачэнні некаторых устарэлых слоў адзначаецца: «*у старажытнай Русі*», «*даўнейшая мера*», «*у дарэвалюцыйны час*» і да т. п.

**114.** Спішыце. Падкрэсліце ўстарэлыя словы. Скажыце, што яны абазначалі і чаму выйшлі з актыўнага ўжывання.

«Спыніцеся!» — з апошніх сіл крычу —
распачынаецца ўсё роўна сеча.
І радасныя ўсе звіняць мячы,
і, нібы бубны, іх вітаюць латы.
Надрыўны кліч не чуюць ваяры.

*Ю. Голуб*

**115.** Прачытайце тэкст. Вызначце, да якога стылю ён адносіцца. Пра які занятак апавядае аўтар. Назавіце спецыяльныя словы і скажыце, якія з іх з'яўляюцца ўстарэлымі.

— Гэта ж учора сабраў кросны. Глядзі, матка, ці ўсё ёсць? І чаўнок зрабіў, і цэвак нарабіў, і сукала. Усё, кажа, а сёння агледзелася, панажы́ не тыя. Я зрабіў ёй панажы на двое нітоў, а ёй трэба на чатыры. Кажу, хопіць і такіх. Дык не. І слухаць не хоча. На чатыры ніты і толькі.

— А як жа? — умяшалася ў гаворку маці. — Я ж хачу посцілак наткаць. А іх можна ткаць сама меней у чатыры ніты *(А. Гаўрылкін)*.

⊙ **116.** Прачытайце тэксты і скажыце, які з іх апавядае пра падзеі больш далёкіх часоў. Па чым вы гэта вызначылі?

1. Алекса быў воем. Яго можна было ўявіць толькі на полі сечы. Толькі з дзідай* ці мячом у руцэ, і нават кальчуга абвівала яго цела асабліва ладна і зграбна. *(Паводле В. Іпатавай)*

2. «Наперад, касінеры*!» — камандаваў Урублеўскі. Агаліўшы шаблю, ён першы бяжыць насустрач небяспецы. Каліноўскі трымаецца побач. У руцэ ў яго — рэвальвер. За касінерамі кідаюцца ў атаку і стральцы. А коннікі ляцяць на карнікаў з фланга *(В. Вольскі)*.

**117.** Прачытайце. З якімі новымі словамі вы сустрэліся? Скажыце, у сувязі з чым у мове з'яўляюцца новыя словы.

1. На змену мапеду, які забруджвае паветра выхлапнымі газамі, хутка прыйдзе электрапед — веласіпед з электрарухавікам *(«Звязда»)*.

2. Лекатэка (ад шведскага leko — «цацка» і грэчаскага theke — «сховішча») якраз і перакладаецца «бібліятэка цацак». Мэта лекатэк — прадставіць дзецям з асаблівасцямі развіцця і іх сем'ям месца для сустрэчы са спецыялістамі, а спецыялістам — магчымасць для распрацоўкі праграм развіцця *(«Настаўніцкая газета»)*.

Новыя словы, якія ўзніклі ў мове нядаўна для абазначэння новых прадметаў і з'яў, адносяцца да **неалагізмаў.**

Новыя словы лічацца неалагізмамі да таго часу, пакуль яны не страцілі адцення навізны, незвычайнасці.

**118.** Спішыце. Скажыце, у сувязі з чым з'явіліся ў беларускай мове выдзеленыя словы. Ці адносяцца яны ў наш час да неалагізмаў?

1. Да **саўгаса** «Сосны» па балоце — рэйкі, — гэта ад **камуны** ідзе **вузкакалейка** *(Янка Купала)*. 2. У час выпрабаванняў **аэробуса** пілоты не раз ляталі ў горад-курорт *(«Звязда»)*. 3. Гэты горад пакуль што не мае назвы. Архітэктары і будаўнікі называюць яго **атамградам.** Ён знамянуе ўзнікненне ў нас атамнай энергетыкі *(«Звязда»)*. 4. Марсіянскі **сфераход** — незвычайны транспартны сродак для перасоўвання па паверхні Марса *(«Звязда»)*.



**119.** Спішыце, раскрываючы дужкі. Падкрэсліце неалагізмы, якія з'явіліся ў сувязі з асваеннем космасу.

4 кастрычніка 1957 года ўпершыню ў свеце на каляземную арбіту быў выведзены апарат, зроб-

лены рукамі чалавека. Палёт першага штучнага спадарожніка Зямлі паклаў пачатак касмічнай эры чалавецтва. А 12 красавіка 1961 года свет быў здзіўлены і бясконца ўражаны нечуванай падзеяй: Юрый Аляксеевіч Гагарын здзейсніў беспрыкладны аблёт Зямлі на касмічным караблі «Усход». Першапраходца космасу зрабіў адзін віток вакол Зямлі *(П. Клімук)*.

## § 19. Спрадвечна беларускія і запазычаныя словы

**120.** Прачытайце. Вызначце тып тэксту.

Прыпамінаю адзін выпадак.

У хаце партызаны. На стале чыгун з гарачай варанай бульбай.

— Мамаша, сделайте пюре. Вот тушёнка, — кажа адзін партызан.

Я сяджу на ложку. Бабуля таўчэ бульбу. Мама падыходзіць да мяне.

— Чаму ты не спіш, дачушка?

— Мама, я хачу пюрэ, — шапчу я.

Мама прыносіць мне ў місачцы тоўчанай бульбы, запраўленай тушонкай. Я ем. Калі мама падыходзіць забраць пустую місачку, ціхенька шапчу ёй:

— Мама, а дзе пюрэ? *(М. Цілінская)*.

### АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. Як вы думаеце, чаму дзяўчынка не ведала значэння слова *пюрэ*?
2. Якую назву яна ведала?
3. Якая з гэтых назваў беларуская, а якая іншамоўная?

Словы, якія спакон вякоў існуюць у беларускай мове, называюцца **спрадвечна беларускімі,** напрыклад: *пляменнік, сястра, асілак, працаўнік, сасна, гара, вецер, бусел, буйны, гаманіць* і інш.

Словы, якія ўвайшлі ў беларускую мову з іншых моў, называюцца **запазычанымі,** напрыклад: *анатомія, тэарэма* (грэчаскія), *дэлегат, інерцыя* (лацінскія), *мітынг, камбайн* (англійскія), *гвардыя, паліто* (французскія), *абцугі, бутэрброд* (нямецкія), *свіран, сцірта* (літоўскія) і інш.

Сярод запазычаных слоў большасць складаюць тэрміны розных галін навукі, тэхнікі, мастацтва.

Кароткія звесткі пра паходжанне запазычаных слоў даюцца ў тлумачальным слоўніку, а таксама ў «Слоўніку іншамоўных слоў» А. М. Булыкі.

**Акардэон**, -а, *м.* Храматычны гармонік з клавіятурай фартэпіяннага тыпу для правай рукі. [фр. accordeon]

**121.** Прачытайце запазычаныя словы і растлумачце іх значэнне шляхам падбору спрадвечна беларускіх слоў.

Альянс *(фр.)*, аналогія *(грэч.)*, аргумент *(лац.)*, бар’ер *(фр.)*, ваяж *(фр.)*, дэкада *(грэч.)*, каментарый *(лац.)*, кантракт *(лац.)*, фантазія *(грэч.)*, абзац *(ням.)*, дэфект *(лац.)*, дыспут *(лац.)*.

Словы для даведкі: *аб’яднанне, дагавор, дзесяцідзёнка, доказ, падабенства, падарожжа, перашкода, тлумачэнне, уяўленне, чырвоны радок, недахоп, спрэчка.*

**122.** Прачытайце. Назавіце словы, якія маюць аднолькавае ці блізкае значэнне. Якія з гэтых слоў спрадвечна беларускія, а якія запазычаныя?

Тым часам Бародка на ўздыме, з пафасам скончыў свой даклад. Ён, безумоўна, чакаў грому апладысментаў, таму і затрымаўся каля трыбуны, але пачуліся асобныя, нясмелыя воплескі *(І. Шамякін)*.

● Ці можна на прыкладзе гэтых запазычаных слоў сказаць, што яны ўзбагачаюць лексіку беларускай мовы?

**123.** Прачытайце тэкст і вызначце яго асноўную думку. Ці згодны вы з народным паэтам Беларусі П. Панчанкам?

Усе сыны усіх народаў
На памяць помняць родны верш.
І ганарацца песняй роднай,
З якой з калыскі ты жывеш...

Мілей мне «кнігаўка», чым «чыбіс»,
Бо голас кнігаўкі ў душы.
І бульбу смажаную чыпсам
Ты зваць па модзе не спяшы.

І я на «клюкву» «журавіны»
Не прамяняю, не аддам.
І светлы край наш жураўліны
Я дзецям ціха перадам.

**124.** Прачытайце і скажыце, ці падзяляеце вы думку Кандрата Крапівы ў адносінах да іншамоўных слоў.

Мы не прапануем выкідаць з нашай мовы іншамоўную лексіку. Тое, што прыйшло ў нашу

мову натуральным шляхам, падпарадкавалася яе законам і стала агульнанародным здабыткам, — гэта наша. Выкідаць гэтыя словы — значыць растрачваць народнае дабро. Мы толькі супраць тых запазычанняў, якіх народ не прымае, бо ў народзе ёсць свае, родныя, даўно абжытыя словы для абазначэння тых жа паняццяў.

**125.** Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары. Падкрэсліце запазычаныя словы і растлумачце іх значэнне. Паспрабуйце выказаць думку без запазычаных слоў.

Пл..ценне — вельмі старажытнае рамяство. Яно і сёння застаецца кананічным*. Да мат..матычнай дакладнасці выв..рана т..хніка пл..цення. Мінімум мастацкіх ма..чымасцей, практычна ніякай імправізацыі*. Пэўна, таму саломапл..ценне даўжэй за ўсё рамёствы затрымалася ў калысцы народнага мастацтва. Раслінныя мат..рыялы і прыклады іх мастацкага пераўтварэння застаюцца па-за сф..рай в..лікага мастацтва *(«Мастацтва Беларусі»)*.



**126.** Спішыце і падкрэсліце запазычаныя словы.

Жанглёры тым часам завязалі вочы чорнымі хусцінкамі, сталі жангліраваць усляпую. За жанглёрамі на памост выйшаў музычны эксцэнтрык*, за ім — эквілібрыст* на катушках. Потым зноў той жа музычны эксцэнтрык, толькі ў ролі клоўна *(А. Асіпенка)*.

## § 20. Навуковы стыль

**127.** Прачытайце тэксты і вызначце, у якім з іх ствараецца вобразны малюнак залатой восені, а ў якім даецца дакладны пералік прымет гэтай пары года.

1. У наш край прыйшла залатая ліставейная пара. Дзе б сёння мы ні апынуліся, на кожным кроку ўбачым задумлівыя, прыгожыя старонкі восені. Бярозы, асіны, клёны, быццам дзяўчаты на маскарад, апранулі яркія сукенкі і красуюцца ў пераліўнай іскрыстасці вясёлкавых убранняў. Сярод лёгкай паветранай дымкі бегаюць таямнічыя сполахі*, навакольную цішыню парушаюць жаўталістыя завеі *(У. Бутараў)*.

2. Для 2-га падсезона, так званай залатой восені, характэрна далейшае паніжэнне тэмпературы паветра і глебы. У канцы яго сярэднясутачная тэмпература паветра пераходзіць праз 5 °С. Пара самай густой асенняй размалёўкі лісця, масавы лістапад у дрэў і кустоў. Дзікія жывёлы заканчваюць падрыхтоўку да зімоўкі. Працягваецца адлёт птушак. Часцей замаразкі не толькі на глебе, але і ў паветры. *(Энцыклапедыя прыроды Беларусі)*

### АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. У якім тэксце ўжываюцца словы з прамым і пераносным значэннем, а ў якім — толькі з прамым?

2. Якія прыметы залатой восені адлюстраваны ў першым тэксце і якія — у другім?

3. Які тэкст вызначаецца маляўнічасцю апісання, а які — дакладнасцю і сціслasцю?

4. У якім тэксце адносіны аўтара да апісання пары года, яго пачуцці выказаны, а ў якім — не выказаны?

Пра адзін і той жа прадмет, з'яву ці падзею расказваюць ці пішуць па-рознаму. Так, з дапамогай слоў можна стварыць яркі, вобразны малюнак таго, пра што расказваецца, і выказаць свае адносіны, пачуцці. А можна ў сціслай форме толькі дакладна паведаміць усе асноўныя звесткі пра адпаведны прадмет ці з'яву і не выразіць пры гэтым ніякіх сваіх пачуццяў.

**Навуковы стыль** выкарыстоўваецца ў падручніках, навуковых працах, выступленнях і паведамленнях на розныя навуковыя тэмы.

Для гэтага стылю характэрныя:

а) дакладнасць у перадачы асноўных прымет таго, пра што расказваецца;

б) сцісласць у пераліку гэтых прымет;

в) адсутнасць слоў з пераносным значэннем.

Адносіны аўтара да таго, пра што паведамляецца, не выражаны.

**128.** Прачытайце. Вызначце тып і стыль тэксту. Для каго ён напісаны: для аднаго чалавека ці для ўсіх, хто цікавіцца тэхнікай?

Даследчыкі Нагайскага ўніверсітэта распрацавалі шарыкавую ручку, якая запамінае ўсё, што ёю пішуць.

У корпусе ручкі акрамя стрыжня ўстаноўлены аптычны датчык — звышмініяцюрная камера. Дзесяць разоў у секунду яна здымае тое, што выходзіць «з-пад пяра». Усе даныя накіроўваюцца ў блок памяці ёмістасцю адзін мегабайт (прыкладна 500 старонак тэксту). Ручку можна непасрэдна

падключыць да камп'ютара і перавесці тэксты ў яго памяць *(«Родны край»)*.

● Падлічыце, колькі ў тэксце ўжыта назоўнікаў, прыметнікаў і дзеясловаў. Якіх часцін мовы больш?

**129.** Прачытайце. Вызначце, якія з гэтых тэкстаў адносіцца да навуковага стылю. Дакажыце гэта, карыстаючыся табліцай «Стылі маўлення».

1. Зараз вясна. Над усёй нашай краінай, наставіўшы белыя ветразі крылаў, плануюць буслы. Ветразі іхнія раскрылены над дрэвамі, пушысты хвост, як веерам, накрыў выцягнутыя ногі. А мне пад іхні палёт[ф] асабліва добра думаецца пра Беларусь, нашу з вамі Радзіму *(У. Караткевіч)*.

2. Белы бусел — птушка атрада галянастых. Даўжыня да 110 см, размах крылаў да 225 см. Апярэнне белае з чорным на крылах. Прылятаюць у пачатку красавіка. У вырай ляцяць у другой палове жніўня. Гняздуюцца на дахах будынкаў, радзей на высокіх дрэвах. *(Беларуская энцыклапедыя)*

**130.** Прачытайце тэкст. Уявіце, што гэта адказ вучня. Ці ўсё ў тэксце адпавядае навуковаму стылю. Прапануйце свой варыянт адказу.

Як утвараецца дождж? Ну, гэта, калі награваецца зямля ў гарачы летні дзень. І вада награваецца. Ад іх ідзе пара. А гарачае паветра, як мы ведаем, рухаецца ў вышыню. А там яно можа сустрэць воблака. Тады гэтае гарачае паветра пагоніць воблака так высока, дзе вельмі холадна.

А на холадзе кропелькі вады замёрзнуць і статнуць крышталікамі лёду. Ну, а гарачае паветра ўсё паднімае і паднімае пару. Яна зноў становіцца кропелькамі. Яны асядаюць на крышталіках лёду. Ну, ад гэтага тыя не вытрымліваюць і падаюць. А паветра-то ўнізе гарачае. Вось крышталікі і стануць кроплямі дажджу.

**131.** Прачытайце. Вызначце стыль тэксту. Перакладзіце яго на беларускую мову.

Литературное произведение может иметь простую стилистическую структуру или сложную.

Простую стилистическую структуру — одностильную — имеют научные произведения. Например, труды по математике, биологии пишутся в строгом научном стиле.

Произведения художественной литературы обычно бывают сложными по стилистической структуре. Например, в рассказе «Бежин луг» И. С. Тургенев передаёт беседу с крестьянскими мальчиками и их разговор между собой. При этом он пользуется разговорным стилем. Для описания красоты летней ночи и утра находит великолепные средства книжной поэтической речи. *(По В. К. Лотареву, Л. П. Федоренко)*



**132.** Спішыце тэкст, устаўляючы прапушчаныя літары. Зрабіце фанетычны разбор слова *ягадная*.

Найбольш распаўсюджаная ягадная расліна Палесся — буякі. Рас..е на заб..лочаных, бедных і кіслых глебах. Кусты выш..нёй 30—120 сант..метраў, аднак сустракаюцца экз..мпляры выш..нёй

да 170 сант..метраў. Галінкі ц..ліндрычныя, ш..рыя. Лісце эліптычнае, суц..льнае. Кветкі дробныя, б..лаватыя з ружовым адце..ем. Плады — сін..ва-та-чорныя яг..ды з шызым налётам, кісла-с..лодкія (*«Родная прырода»*).

## § 21. Адназначныя і мнагазначныя словы

**133.** Разгледзьце малюнкі і дайце ім назвы.



### АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. Якое слова абазначае адзін прадмет, а якое — тры.

2. Колькі лексічных значэнняў мае адно і другое слова?

Словы, якія маюць адно лексічнае значэнне, называюцца **адназначнымі:** *авадзень, адвага, дзяцел, зубіла, комін.*

Словы, якія маюць некалькі лексічных значэнняў, называюцца **мнагазначнымі:** ***брыдкае*** (г. зн. непрыгожае) *качаня,* ***брыдкі*** (г. зн. дрэнны) *учынак; жалезны* ***серп, серп*** *месяца.*

**134.** Прачытайце сказы. Звярніце ўвагу на выдзеленыя словы і вызначце, ужыты яны ў адным і тым жа значэнні ці ў розных.

1. **Ідуць** дажджы, і нават пасеянае на пясках жыта добра **ідзе** ў рост *(І. Навуменка)*. 2. Чалавека **сляды** ў стагоддзях не гінуць... Гэта помні заўжды, перш чым **след** свой пакінуць *(Е. Лось)*. 3. Я падаў бы тапOne **руку**, ды ў яе перабітыя **рукі** *(І. Арабейка)*. 4. **Ядро** арэха смачнае, лясное, ды смерць не дрэмле ў атамным **ядры** *(Р. Барадулін)*. 5. Мармыча цёмная **вада**, **вада** празрыстая спявае *(А. Разанаў)*.

● Спішыце сказы, у якіх словы маюць рознае значэнне.

⊙ **135.** Прачытайце тэкст і скажыце, ці можна палічыць яго казкай. Назавіце ў першых двух сказах адназначныя і мнагазначныя словы.

Расла пры дарозе маленькая сцяблінка і радавалася сонцу. Ішоў злы чалавек і прыбіў ботам сцяблінку да зямлі. Пачала вянуць сцяблінка, пакрывацца прыдарожным пылам. Мабыць, быў бы ёй канец. Але па той дарозе ішоў з кійком добры чалавек і заўважыў бедную сцяблінку. Спыніўся, уткнуў свой кіёк, падняў і падвязаў да яго сцяблінку. Зямлю падрыхліў і вадзіцай паліў.

— Дзякуй табе, добры чалавек, век не забуду тваёй дабрыні, — адазвалася сцяблінка.

— Расці вялікая! — адказаў добры чалавек і пайшоў далей.

Прайшлі гады. З той маленькай сцяблінкі вырасла вялікая прыгожая яблыня... *(Паводле І. Сычыка)*

● Як бы вы прадоўжылі казку?

**136.** Прачытайце словазлучэнні. Вызначце, у якіх значэннях ужыта ў іх слова *хлеб*.

Пшанічны хлеб, абмалочаны хлеб, ехаць між хлябоў, на бацькавым хлебе.



**137.** Прачытайце тэкст. Дайце яму загаловак і спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары. Падкрэсліце словы, якія з'яўляюцца мнагазначнымі.

Каб сп..чы хлеб, дастаткова адных сутак. А вырасціць яго — каштуе в..лікай і ця..кай працы хлебароба, працы ў цэлы год. Таму, адразаючы свежы духмяны акраец, заўсёды пам..тай пра тых, хто расціў і песціў для цябе гэта дзіва, не спаў начамі. Шануй і беражы хлеб! Не дай змарнавацца і загінуць ніводнаму каласку ў полі. Хлеб — самае найвялікшае багацце чалавека *(К. Камейша)*.

## § 22. Прамое і пераноснае значэнне слова

**138.** Прачытайце смяшынку. Скажыце, чаму так склаўся дыялог.

Зося пытае ў сяброўкі:

— Люда, ты скакала цераз казла на ўроку фізкультуры?

— Што ты! Нам казла не прыводзілі.

**139.** Прачытайце.

Конь плыве, качка плыве, камень плыве, месяц плыве, туман плыве.

● Скажыце, у якіх выпадках спалучэнне слоў мае сэнс, а ў якіх не мае (не адпавядае сапраўднасці).

Словы ў мове спалучаюцца па сэнсе. Так, словы *конь* і *качка* спалучаюцца са словам *плыве*, таму што яны абазначаюць жывых істот, якія ўмеюць плаваць. Слова *плаваць* ужыта тут у сваім прамым значэнні (перамяшчацца ў вадзе).

Словы *камень* і *плыве* нельга спалучаць, таму што камень цяжэйшы за ваду і ў вадзе ён адразу апусціцца на дно, а не паплыве.

Месяц і туман таксама не плаваюць у вадзе. Але месяц так плаўна перамяшчаецца ў небе, а туман — у прасторы, што ствараецца ўражанне, нібы яны плывуць. Гэта і дазваляе спалучыць словы *месяц* і *туман* са словам *плыве*. Так з'явілася пераноснае значэнне ў слове *плысці* (плаўна рухацца, перамяшчацца ў прасторы).

У тлумачальным слоўніку пераноснае лексічнае значэнне пазначаецца паметай *перан.*, напрыклад:

**Лавіна,** -ы, *ж.* 1. Маса падаючага з гор снегу; снежны абвал. 2. *перан.* Імклівая, нястрымная маса каго-, чаго-н. *Лавіна коннікаў. Лавіна танкаў.*

**140.** Параўнайце сказы і скажыце, у якіх з іх выдзеленыя словы маюць пераноснае значэнне. Абгрунтуйце свой адказ.

1. **Беглі** салдаты з насілкамі і лапатамі *(М. Лынькоў)*.

   **Беглі** дні, і памалу канчалася восень *(У. Краўчанка)*.

2. Першым снегам іскрыцца **абрус** на стале *(П. Броўка)*.

   Зіма снягоў **абрусы** сцеле *(А. Бачыла)*.

3. Высокі ордэн **залаты** дзявочыя ўпрыгожыў грудзі *(К. Буйло)*.

Над дарогай клён мой **залаты** — мой адвечны сум па прыгажосці *(М. Арочка)*.

4. Белявыя **вусы** былі заядла падкручаны *(Кузьма Чорны)*.

А там ячмень тапырыць свае калючыя **вусы** *(А. Якімовіч)*.

**Прамое значэнне** — гэта асноўнае лексічнае значэнне слова: ***бронзавы*** *бюст* (г. зн. бюст з бронзы), ***касіць*** *траву* (г. зн. зразаць касой ці касілкай).

**Пераноснае значэнне** — гэта такое лексічнае значэнне, якое ўзнікае пры пераносе ўласцівасцей аднаго прадмета на другі: ***бронзавы*** *загар* (г. зн. які колерам падобны на бронзу, а не з бронзы), ***касіць*** *ворага* (г. зн. нішчыць, а не зразаць касой ці касілкай).

**141.** Спішыце і падкрэсліце словы, якія дапамагаюць больш выразна ўявіць апісаныя з'явы прыроды. Скажыце, у прамым ці ў пераносным значэнні ўжыты гэтыя словы.

1. Ціха шэпча асака, між ракітаў спіць рака *(А. Астрэйка)*. 2. Вяслуюць крыламі буслы, плывуць, плывуць над светам *(Р. Барадулін)*. 3. Заглядзелася астра ў садочку ля ганка і схавала свой тварык за чуб касача *(М. Арочка)*. 4. Мыецца краска расой, уціраецца цёплага сонца святлом *(Якуб Колас)*. 5. Гарыць бярозка пад маім акном запозненай асенняю красою *(Т. Мельнікава)*.

! Перанос назвы з аднаго прадмета на другі адбываецца:

1) калі гэтыя прадметы чым-небудзь падобныя паміж сабой: ***медны** самавар* і ***медны** ліст* (падобныя колерам); ***іголка** з ніткай* і ***іголка** хвойная* (падобныя формай);

2) калі адным і тым жа словам называецца дом, памяшканне і тыя, хто ў ім жывуць, працуюць: ***дом** высокі* і ***дом** дружны*;

3) калі прыпадабняюцца дзеянні жывых і нежывых прадметаў: ***свішча** хлопчык* і ***свішча** вецер*;

4) калі адно слова называе цэлае і яго частку: ***вішня*** (дрэва) і ***вішня*** (плод).

**142.** Прачытайце і растлумачце значэнні выдзеленых слоў. Скажыце, чаму адным словам названы розныя прадметы, дзеянні.

1. А па хвалях белы месяц **скача** *(А. Астрэйка)*. — На адталым дзірване* **скача** верабей *(Е. Лось)*. 2. За астачай мёду ў кветках прыляцеў пчаліны **рой** *(А. Александровіч)*. — Закружыўся паміж дрэў **рой** таго лісця, якое восень ужо спаліла сваім дыханнем *(І. Шамякін)*. 3. Трэба часцей **вандраваць** па роднай краіне, трэба больш яе вывучаць *(В. Вольскі)*. — Вунь нават месяц — і той **вандруе**[ф] па-над **вёскай:** прыемна і яму пагуляць у такую светлую ноч *(Кандрат Крапіва)*. — У той жа дзень уся наша **вёска** пабегла ў лес *(А. Бялевіч)*.

● Выпішыце сказы, у якіх выдзеленыя словы ўжыты ў пераносным значэнні.

● Назавіце граматычныя значэнні слова *вёска*.



**143.** Утварыце словазлучэнні ці складзіце сказы і запішыце іх. Словы з прамым значэннем падкрэсліце прамой лініяй, а з пераносным — хвалістай.

Залаты (пярсцёнак, месяц), клас (светлы, здольны), гараць (шчэпкі, кветкі), галоўка (дзіцяці, капусты), кіпіць (вада, работа), светлыя (валасы, успаміны).

## § 23. Мастацкі стыль

**144.** Прачытайце тэкст Я. Пархуты і дайце загаловак.

Спакойна клалася на зямлю ноч. Думалася, што пройдзе нейкі час і на небе выскачыць месячык. Навісне над лесам і пачне высвечваць ласіныя сцежкі. Аднак ён не выскакваў.

Недзе апоўначы з'явіўся вецер. Пагойдаўся ў верхавінах дрэў, апусціўся на дол і загуляў у верасе. І якраз у гэты час уздумалі апускацца на зямлю пухкія сняжынкі. Вецер узрадаваўся і пачаў ганяцца за імі ды сукаць белую кудзелю.

І тады толькі месячык выскачыў. Выгляд у яго быў вінаваты, разгублены. Бег да лесу напрасткі, пераскокваючы з воблака на воблака, і не пераставаў здзіўляцца: «Як жа гэта я спазніўся?» Ён не мог дараваць сабе, што праспаў нараджэнне зімы.

**АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ**

1. З дапамогай якіх слоў пра ноч, вецер і месяц гаворыцца, як пра жывыя істоты? У прамым ці пераносным значэнні ўжыты гэтыя словы?

2. Якія пачуцці аўтара перадаюцца ў гэтым тэксце?

3. Як вы разумееце выраз *вецер пачаў сукаць белую кудзелю*?

Перад намі тэкст, у якім вобразна і маляўніча апісана наступленне зімы. Вобразнасць і маляўнічасць дасягаюцца дзякуючы выкарыстанню:

а) слоў з пераносным значэннем, калі з'явы прыроды паказваюцца як жывыя істоты (*клалася ноч; месячык выскачыў, бег; вецер пагойдаўся, апусціўся, загуляў, узрадаваўся, пачаў сукаць белую кудзелю*);

б) слоў, якія не толькі называюць прадметы, з'явы, дзеянні і прыметы, але і выражаюць настрой, пачуцці (*месячык, загуляць, здзіўляцца, узрадавацца, вінаваты, разгублены, спакойна*).

Такая разнавіднасць маўлення, з дапамогай якой ярка, вобразна, маляўніча расказваецца пра якія-небудзь прадметы, з'явы і пры гэтым перадаюцца пачуцці аўтара, адносіцца да **мастацкага стылю**. Гэты стыль характэрны для мастацкіх твораў.

⊙ **145.** Прачытайце і вызначце стыль тэксту. Карыстаючыся табліцай «Стылі маўлення», ахарактарызуйце сродкі мовы, уласцівыя для мастацкага стылю.

Прайшоў цёплы красавіцкі дожджык. У зямлі заварушыліся незлічоныя карэньчыкі. Праклюнуліся, зацвілі астравы блакітных пралесак. Пацягнулася да сонца сон-трава. Таполі прыбраліся ў зялёныя бярэцікі, а бярозы — у касынкі.

У бяздонным блакіце малюсенькімі кропачкамі вісяць жаўрукі. Адтуль срэбным званочкам ліецца на зямлю песня.

Над лугам кружацца буслы. А на ім залаціста-жоўтымі сонейкамі цвітуць адуванчыкі. *(Паводле Я. Галубовіча)*

**146.** Разгледзьце малюнкі і скажыце, якія сітуацыі яны адлюстроўваюць.




● Тэксты якіх стыляў можна стварыць на аснове гэтых малюнкаў? Складзіце тэкст абранага вамі стылю.



**147.** Прачытайце і скажыце, да навуковага ці мастацкага стылю адносіцца тэкст. Растлумачце, на падставе чаго вы зрабілі сваё заключэнне.

### Черёмуха

На опушках лесов, по берегам рек и ручьёв прежде всего распускается и цветёт черёмуха.

Это очень приятное, зелёное и весёлое деревцо. Оно всегда улыбается. А весною, когда пахучие белые цветы сплошь его покрывают, даже смеётся. Любуешься цветущей черёмухой и сам невольно начинаешь улыбаться.

Даже в самых глухих северных лесах можно увидеть цветущую черёмуху. И там она радует глаз своей красотой. *(По И. Соколову-Микитову)*

● Вусна перакладзіце тэкст на беларускую мову. Пры неабходнасці карыстайцеся руска-беларускім слоўнікам.

# § 24. Сінонімы

**148.** Разгледзьце малюнкі і скажыце, адзін і той жа ці розныя грыбы называюцца чатырма рознымі словамі.


падбярозавік


абабак


бабка


чашчавік

**149.** Прачытайце. Выпішыце словы, якія абазначаюць адно і тое ж дзеянне ці прымету.

1. І ўсё прыціхла, анямела, што непакоіла раней *(А. Пысін)*. 2. Але раса — аж адчуваецца за спінаю — яшчэ халодная, сцюдзёная *(Г. Далідовіч)*. 3. Яна тады нешта б прыдумала, нешта б змаргеліла, каб павярнуць усё ў лепшы бок *(А. Савіцкі)*.

- Параўнайце словы і адкажыце:
  1. *Прыціхла, анямела.* — Якое слова абазначае поўнае заспакаенне, а якое — частковае?
  2. *Халодная, сцюдзёная.* — Якое слова абазначае больш адчувальны холад?
  3. *Прыдумала б, змаргеліла б.* — Якое слова часцей ужываецца ў гутарковай мове?

Словы адной і той жа часціны мовы, якія па-рознаму вымаўляюцца і пішуцца, але абазначаюць адзін і той жа прадмет, з'яву ці прымету, называюцца **сінонімамі:** *лапата, рыдлёўка; мяцеліца, завіруха, пурга; абрывісты, круты.*

Сінонімы могуць адрозніваццца адзін ад аднаго адценнямі значэння ці ўжывання ў мове.

**150.** Прачытайце рады слоў, у кожным з іх назавіце словы-сінонімы. Абгрунтуйце свой адказ.

Адуванчык, васілёк, дзьмухавец.
Загад, каманда, камандаванне, распараджэнне.
Загарэцца, закружыцца, успыхнуць.
Ліпавы, ліпкі, клейкі.

⊙ **151.** Запішыце прыметнікі і дзеясловы ў такім парадку, каб ступень праяўлення прыметы ці дзеяння ўзрастала.

У з о р: *вялікі, агромністы, гіганцкі.*

Адважны, бясстрашны, смелы; даўні, незапамятны, старажытны; балець, смылець, шчымець; глядзець, паглядаць, цікаваць.

● З сінонімамі аднаго рада (на выбар) складзіце сказы і запішыце іх. Падкрэсліце галоўныя члены сказаў.

**152.** Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары. Падкрэсліце сінонімы.

Пасля кожнай кнігі Жуля Верна я кроч..ў па тых самых сце..ках, што і яго г..роі. Для ..этага хапала ўяўлення, фантазіі. Родныя б..ры і б..рэзнікі ператвараліся ў непралазныя трапічныя зараснікі ці ў непраходную сібірскую тайгу. Нев..лікая р..чулка, якая віляла, п..тляла па с..нажаці, рабілася то блакітным Нілам, то бурнаю горнай ракой.

У часы такіх вандровак забываліся ўсе крыўды і ўсе згрызоты. Я адчуваў сябе найв..лікшым уладаром, які раздае людзям толькі радасць і шчасце. *(Паводле І. Навуменкі)*

**153.** Прачытайце тэкст і скажыце, чаму выдзеленыя словы можна лічыць сінонімамі і чым яны адрозніваюцца паміж сабой.

— Ніхто з архітэктараў не падтрымлівае пасадку хімкамбіната ў Белым Беразе. Адзін ты. Хто ж ты? Геній ці...

— **Дурань**, — падказала Ніна, хоць ён, Максім, хацеў сказаць **«невук»,** слова не менш моцнае, але, бадай, інтэлігентнае *(І. Шамякін)*.

У беларускай мове шмат сінонімаў, якія не толькі называюць прадметы, дзеянні, прыметы, але і выражаюць нашы адносіны да іх, нашы пачуцці. Такія сінонімы ў творах мастацкай літаратуры, у вуснай народнай творчасці дапамагаюць ярка і вобразна адлюстроўваць розныя з'явы і падзеі.

**154.** Спішыце. Падкрэсліце сінонімы. Як яны характарызуюць асоб і падзеі, якія пачуцці выражаюць?

1. Суседзі хваляць і жорны*, і мяне: «Талковы ў цябе хлопец, Матрона, галаваcты» *(І. Сяркоў)*. 2. «Кацюшы» трушчылі, палілі ворагаў, вылюдкаў, звяруг *(І. Новікаў)*. 3. От жа вісус, гэты Данік! От жа гарэза! Увесь час да Лагуціна ляпіўся, цяпер да Куляша чэпіцца! *(А. Савіцкі)*.

**155.** Прачытайце тэкст і дакажыце, што ён адносіцца да гутарковага стылю.

Дзед сказаў мне аднойчы, калі мы сядзелі з ім на прызбе:

— Хацеў бы ты, Уладзік, дзічак улежаных пад'есці, га?

— Ого! — згадзіўся я.

— Яны як паляжаць, — уголас марыў дзед, — дык вельмі ж хораша ідуць, такія кісленькія, пахнуць... Паласавацца б нам з табой... *(Я. Брыль)*.

● Ці з'яўляюцца сінонімамі словы: а) *пад'есці* і *паласавацца;* б) *сказаў, згадзіўся, марыў*?

● Чаму аўтар выкарыстаў розныя словы?

⊙ **156.** Прачытайце тэкст. Вызначце, якія з выдзеленых слоў маюць блізкае значэнне і з якой мэтай яны выкарыстоўваюцца.

Кожная сустрэча з **творамі** Нінэлі Іванаўны Шчаснай — гэта адкрыццё дзівоснага, непаўторнага свету мастацтва. Хочацца затрымацца каля **палотнаў мастачкі,** каб адчуць хараство быцця. Штосьці няўлоўнае прысутнічае ў кожнай **карціне майстра.** Быццам гучыць цудоўная музыка, шчырая, хвалюючая і шырокая, якая дорыць чалавеку казачнае хараство і замілаванне жыццём *(П. Карнач)*.

**157.** Прачытайце тэкст і скажыце, якія словы часта паўтараюцца. Ці можна з дапамогай слоў з даведкі пазбегнуць такога паўтору? Пры спісванні тэксту ўвядзіце ў яго словы-сінонімы.

Яшчэ ў школьныя гады на радзіме, у вёсцы Нізок, Паўлюк Трус далучыўся да песні. Ён выступаў у вясковых народных клубах з песнямі і сатырычнымі куплетамі. Паўлюк Трус жыў паэзіяй, пісаў кожную вольную хвіліну.

У 1923 годзе з'явіліся ў друку першыя вершы Паўлюка Труса. Светлыя фарбы, урачыста-прыўзнятыя інтанацыі спалучаюцца з жаданнем Паўлюка Труса паскорыць рытм жыцця.

Паўлюк Трус не паспеў, як імкнуўся, «золата дум падарыць на карысць Беларусі». *(Паводле У. Кісялёва)*

Словы для даведкі: *юнак, паэт, сялянскі хлопец, пясняр.*

## § 25. Антонімы

**158.** Уважліва разгледзьце малюнак і скажыце, якія са слоў характарызуюць левы бераг ракі, а якія — правы.



высокі
круты
нізкі
пакаты

● Складзіце з гэтымі словамі сказ, запішыце яго і назавіце словы з супрацьлеглым значэннем.

Словы адной і той жа часціны мовы, якія маюць супрацьлеглае значэнне, называюцца **антонімамі:** *дзень — ноч, лёгкі — цяжкі, плакаць — смяяцца.*

Антонімы ўжываюцца ў мове пры апісанні ці характарыстыцы прадметаў і з'яў, супрацьлеглых па якіх-небудзь прыметах.

Антонімы надаюць мове выразнасць, служаць сродкам сувязі сказаў у тэксце ці частак сказа, напрыклад: *Вада ў рацэ разлілася шырока, заліла ўвесь **нізкі левы** бераг. **Правы** бераг **высокі**, на ім расце хвойны лес* (Кузьма Чорны). ***Родная** зямля — маці, **чужая** старонка — мачаха.* (Прыказка)

**159.** Выпішыце пары слоў з супрацьлеглым значэннем, якія абазначаюць *час, колер, памер, вагу, дзеянне, стан чалавека.*

У з о р: *час: ранні — позні, ...; колер: ... .*

Высокі — нізкі, весяліцца — сумаваць, чорны — белы, вялікі — малы, любіць — ненавідзець, лёгкі — цяжкі, далёка — блізка, ноч — дзень, адкрываць — закрываць, раніцай — вечарам.

**160.** Да слоў з левага слупка падбярыце словы з супрацьлеглым значэннем з правага слупка і запішыце іх парамі. Растлумачце свой выбар.

| | |
|---|---|
| доўгі | кароткі, смачны |
| закрыць | адарваць, адкрыць |
| кіслы | гарачы, салодкі |
| мір | адвага, вайна |
| поўдзень | поўнач, усход |

● Да адной ці да розных часцін мовы адносяцца антонімы?

**161.** Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары. Растлумачце сэнс прыказак і падкрэсліце антонімы.

1. Лепш горкая пра..да, чым сало..кая мана. 2. Ранняя птушка зерне клюе, а п..зняя вочкі трэ. 3. Дзе шч..рая праца, там густа, а дзе л..нота, там пуста. 4. Гультаю ўсё некалі: яму раніцай росна, у поў..ень млосна, а ўвечары к..мары кусаюць. 5. Новых с..броў набывай, але і стар..х не забывай. 6. Згодаю дом збудуеш, а н..згодаю — зруйнуеш.

● Назавіце правілы, якімі вы карысталіся пры напісанні прапушчаных літар.

**162.** Прачытайце. Растлумачце значэнне выдзеленых слоў. Падбярыце да іх словы з супрацьлеглым значэннем і запішыце.

**стары** паляўнічы — ...
**стары** дом — ...
**горкая** вестка — ...
**горкі** смак — ...
**свежы** вецер — ...
**свежы** хлеб — ...

⊙ **163.** Спішыце. Падкрэсліце антонімы і вызначце іх ролю ў тэксце.

Моцная рука пана над яго мастацтвам была і салодкая і горкая. Салодкая тым, што кідала жмені залатых дукатаў налева і направа. Горкая, бо пятлёю душыла тыя мастацкія ідэі рэжысёра, якія ён хацеў самастойна праводзіць у працы студыі *(Змітрок Бядуля)*.

**164.** Прачытайце тэкст і назавіце антонімы. Скажыце, чым абумоўлена іх выкарыстанне.

Хлопцы былі аднагодкі і мелі абодва разам гадоў трыццаць пяць. Але выгляд, а таксама і характары іх былі зусім адметныя. Мірон быў худы, цыбаты дзяцюк з блакітнымі вачыма, доўгім птушыным носам і доўгімі светлымі валасамі. Віктар, наадварот, — прысадзісты, карчасты, чарнявы, з круглым пляскатым тварам.

Мірон быў больш разважлівы, спакойны хлопец, а Віктар — жвавы, імклівы *(Янка Маўр)*.

**165.** Двое хлопчыкаў разважаюць пра ману і праўду. Адзін з іх даводзіць, што ёсць мана ў імя дабра, у імя выратавання. Паразважайце пра гэта ў класе.

**166.** Складзіце некалькі сказаў на тэму «Прыход вясны». Выкарыстайце прыведзеныя і іншыя словы з супрацьлеглым значэннем.

Дзень, раніцай, увечары, цяплець, халадаць, паўднёвы, паўночны, падмярзаць, падтайваць, ноч, лядок, вада, ясна, хмурны.

## ДА ВЫТОКАЎ СЛОВА

***Вясна.*** Слова вельмі старажытнае. Адны мовазнаўцы лічаць, што ўтворана яно пры дапамозе суфікса ***-н-*** ад кораня **вес-** (г. зн. ‘свяціць, ззяць, зіхацець’). Іншыя паходжанне слова **вясна** звязваюць са словам **вясёлы** (**весель,** г. зн. ‘буйны, пышны, паўнакроўны; каляровы, які іграе жывымі, яснымі колерамі, які радуе, вясёлы’).

Спачатку слова **вясна** ўжывалася ў значэннях ‘цёплая пара года’ (у процілегласць зіме) і ‘пачатак цёплага перыяду’. Пазней у першым значэнні стала ўжывацца слова **лета.**



**167.** Спішыце, замяняючы выдзеленыя словы антонімамі.

**Увосень,** калі ў лесе **жаўцее** лісце, мне рабілася **сумна** ад таго, што сонца як быццам **слабела,** рабілася **нядужым. Надакучае** быць у полі са статкам у **пахмурны** дзень *(І. Грамовіч)*.

## § 26. Амонімы

**168.** Прачытайце тэкст і разгледзьце малюнкі. Чаму іх два? Які малюнак, на ваш погляд, ілюструе тэкст?

— Дзядзечка, глядзіце пад ногі, лісічак не падушыце!

Я не адразу ўцяміў, што пачуў. Асцярожна ступаючы, прайшоў крокаў сем і натрапіў на вялікую сямейку лісічак. Здавалася, што ў траве пахаваліся не лісічкі, а маленькія сонейкі. Доўга стаяў над імі і любаваўся.





**169.** Прачытайце сказы і адкажыце, што абазначаюць выдзеленыя словы.

Паабапал **гасцінца** ляжала неагляднае поле залацістага жыта *(Цішка Гартны)*.

Я зусім забыўся, што ў вас дзяўчынка. Я прывёз бы ёй **гасцінец** *(Кузьма Чорны)*.

● Ці аднолькава гучаць і пішуцца выдзеленыя словы?

Словы адной і той жа часціны мовы, якія аднолькава вымаўляюцца і пішуцца, але не маюць нічога агульнага ў лексічным значэнні і абазначаюць розныя прадметы і з'явы, называюцца **амонімамі:** *бабка (бабуля)* і *бабка (страва з бульбы); гасцінец (шлях, дарога)* і *гасцінец (падарунак)*.

**170.** Спішыце. Падкрэсліце амонімы і растлумачце іх значэнне.

1. Люстра і настольная лямпа гарэлі цьмяна *(І. Шамякін)*. — Ён падыходзіць да шафы і раз-

глядае сябе ў люстра *(В. Гардзей)*. 2. Двор увесь зарос падарожнікам, густым, цёмным *(І. Пташнікаў)*. — І вось нашы падарожнікі апынуліся ў чоўне сярод бязмежнага мора *(Янка Маўр)*.

У тлумачальным слоўніку кожны амонім падаецца асобна і пазначаецца парадкавым нумарам зверху справа, напрыклад:

**Лата**[1], -ы, *дав., месн.* лаце, *ж.* Кусок матэрыі або скуры, якім зашываюць дзірку ў адзенні, абутку і інш.

**Лата**[2], -ы, *дав., месн.* лаце, *ж.* Адна з жэрдак, якія радамі прыбіваюцца да крокваў і на якія кладзецца дах, страха.

Амонімы неабходна адрозніваць ад мнагазначных слоў.

Амонімы абазначаюць нічым не падобныя адзін да аднаго прадметы: *аўсянка* (крупа) і *аўсянка* (птушка).

Мнагазначныя словы абазначаюць падобныя чым-небудзь прадметы і з'явы: *крыло* (птушкі) і *крыло* (самалёта) — прадметы падобныя формай і размяшчэннем.

**171.** Прачытайце. Скажыце, якія з выдзеленых слоў мнагазначныя, а якія словы з'яўляюцца амонімамі.

1. На паляне, нібы ў святліцы,
Ружавеюць густа суніцы.
Яны сёлета рана **паспелі.**
Іх дзяўчынкі сабраць не **паспелі.**

*І. Калеснік*

2. Дзе **раслі** ў пустэлях травы,
Слаўся дзікі мох —
Там **расце** ў вялікіх справах
Радасць перамог.

*А. Куляшоў*

● Вызначце, да якой часціны мовы адносяцца амонімы, растлумачце іх значэнне.

● Вусна зрабіце лексічны разбор слова *радасць* (парадак разбору гл. на форзацы).

**172.** Складзіце сказы з наступнымі амонімамі.

Малінаўка[1]. Невялічкая светла-шэрая птушка.

Малінаўка[2]. Яблыня з ружовымі салодкімі пладамі.



**173.** Спішыце загадкі Кандрата Крапівы. Разгадайце іх і скажыце, якую ўласцівасць слоў выкарыстаў аўтар пры іх складанні.

**Бабкі**

Розных бабак шмат на свеце.
Тры з іх добра я прымеціў:
Біў адну я малатком,
Еў другую з малаком,
А трэцяя бабка — карэньчык ды шапка.

**Бугаі**

Вам вядома рэч такая,
Што бугай раве, рыкае,
А часамі бугаі
Растуць ціха у гаі.
Здзівіць вас і вестка тая,
Што бугай яшчэ й лятае.

## § 27. Фразеалагізмы, іх роля ў маўленні

**174.** Прачытайце і вызначце стыль тэксту. Скажыце, чаму Уладзік не зразумеў дзеда.

— Хутчэй бы іх, Уладзік, — гаварыў дзед, — спляжыла з гэтага свету.

— Каго спляжыла? Што гэта спляжыла, дзеду?

— Ну, спляжыла... Каго ж, — паноў. Каб не сядзелі на мужыцкім карку.

— А як яны, дзеду, сядзяць на карку, га? *(Паводле Я. Брыля)*

### АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. Як вы разумееце спалучэнне слоў *сядзець на карку*?

2. Ці можна апусціць якое-небудзь слова або замяніць яго іншым, не змяняючы значэння выразу?

**175.** Прачытайце сказы парамі і вызначце, якія з выдзеленых спалучэнняў слоў з'яўляюцца непадзельнымі па значэнні, а якія падзяляюцца на асобныя словы з самастойным лексічным значэннем.

1. На свеце толькі той шчасце мае, хто сябе **ў руках трымае**. *(Прыказка)*

Дзяўчынка **трымае ў руках** невялікі збаночак *(П. Пестрак)*.

2. Заданне тваё, Васілёк, не лёгкае. Але ці варта нам **апускаць рукі**? *(А. Якімовіч)*.

Мама прысела на край ложка, стомлена **апусціла рукі** на прыпол *(А. Кудравец)*.

3. Кравец **закінуў вуду** і прымасціўся сесці над самай вадой *(Кузьма Чорны)*.

«Ты да нас у калгас ідзі, дык мы табе змалоцім збожжа», — **закінуў вуду** Юзік *(Г. Далідовіч)*.

**176.** Прачытайце сказы і растлумачце значэнне выдзеленых спалучэнняў слоў.

1. Над Радзімай сокал узляцеў высока і **акінуў вокам** даль зямлі навокал *(Язэп Пушча)*. 2. Дык яны ж **аднаго поля ягады** *(А. Макаёнак)*. 3. Сталіся ўсе і ішлі **нага за нагу** *(П. Пестрак)*.

● На якія пытанні адказваюць і якімі членамі сказа з'яўляюцца выдзеленыя спалучэнні?

У мове акрамя асобных слоў існуюць устойлівыя спалучэнні слоў, якім уласціва пэўнае значэнне.

Устойлівыя непадзельныя спалучэнні слоў, якія існуюць у мове як адно сэнсавае цэлае, называюцца **фразеалагізмамі.**

Фразеалагізм, як і слова, можа называць прадмет (*бярозавая каша* — 'розгі'), прымету (*стрэляны верабей* — 'бывалы'), *у свіныя галасы* — 'позна'), дзеянне (*збіцца з панталыку* — 'зблытацца', 'памыліцца').

Паколькі фразеалагізмы маюць адзінае, цэласнае значэнне, выражаюць адно паняцце, то і ў сказе яны з'яўляюцца адным якім-небудзь членам сказа.

Значэнне фразеалагізмаў раскрываецца ў фразеалагічным слоўніку.

**177.** Прачытайце. Растлумачце значэнне фразеалагізмаў з дапамогай сінанімічных слоў з правага слупка.

| | |
|---|---|
| абуць у лапці | ашукаць, падмануць, падвесці |
| лёгкі на язык | балаваць, песціць |
| мазоліць вочы | балбатлівы, гаваркі |
| насіць на руках | блізка, недалёка, побач |
| рукой падаць | дакучаць, назаляць |

**178.** Да прыведзеных фразеалагізмаў падбярыце сінанімічныя словы і запішыце паводле ўзору. Для даведкі выкарыстайце фразеалагічны слоўнік беларускай мовы.

У з о р: *задзіраць нос — задавацца.*

Аршын з шапкаю, даць драпака, даць у косці, зарубіць сабе на носе, кот наплакаў, на кожным кроку, сунуць нос, хоць вока выкалі.

**179.** Спішыце, замяняючы выдзеленыя словы фразеалагізмамі. Падкрэсліце фразеалагізмы як члены сказа.

***гнуць спі́ну***
***звесці вочы***
***кляваць носам***
***навастрыць вушы***
***непачаты край***
***паставіць на калені***

1. Гадзіны са тры хлопчык трымаўся, а потым пачаў **драмаць.** 2. Усю ноч Віктар не **заснуў**, чакаў прыезду брата. 3. Юрась зноў забраўся на печ, улёгся жыватом на чарэнь, **прыслухаўся.** 4. Работы **многа**, а дзень кароткі. 5. Але наш народ нельга было **скарыць** і прымусіць пакорліва **працаваць** у прыгонніцкім ярме.

Фразеалагізмы часцей за ўсё выкарыстоўваюцца ў вуснай размове паміж людзьмі, а таксама ў гутарковым і мастацкім стылях маўлення. Фразеалагізмы ажыўляюць мову, надаюць ёй асаблівую выразнасць, дапамагаюць ствараць непаўторныя малюнкі з жыцця людзей і яркія вобразы.

**180.** Прачытайце сказы.

1. Павіснуў на тэлефоне і вісіць. А ў мяне задачка не атрымліваецца. 2. Рытвінскага вельмі злавала думка, што нейкі хлапчук колькі часу вадзіў яго за нос *(С. Баранавых)*. 3. Са мною было так: дзе служыў, там і кінуў якар, дадому не паехаў *(М. Кусянкоў)*.

**181.** Разгледзьце малюнкі і скажыце, чаму вучань зрабіў такія ілюстрацыі?







● На аснове аднаго з малюнкаў складзіце гумарыстычны дыялог.

**182.** Прачытайце і растлумачце значэнне фразеалагізмаў. У якіх стылях яны могуць быць выкарыстаны?

Абое рабое, варон лавіць, задаваць тон, з’ехаць з глузду, зорка першай велічыні, зубы скаліць, галава забіта.

● Складзіце сказы з 2 фразеалагізмамі і падкрэсліце члены сказа.

**183.** Спішыце. Падкрэсліце фразеалагізмы і вызначце, з якой мэтай яны выкарыстаны. Дакажыце гэта, замяняючы фразеалагізмы сінанімічнымі словамі.

1. Г р у ш э ў с к і. Выйшлі праветрыцца пасля лазні. Бачу — святло ў цябе ў вокнах. Вось і завярнуў.

Я к а в е ц. Быў у лазні?

Г р у ш э ў с к і. Быў. На сходзе далі мне лазню *(Кандрат Крапіва)*.

2. На зямлі і між аблокаў
Горды будзь за родны край —
Галаву трымай высока,
Толькі нос не задзірай.

*А. Ставер*

3. Ціхі і маўклівы, сам дзядзька Рыгор, здаецца, і мухі б не пакрыўдзіў *(А. Якімовіч)*.



**184.** Падбярыце да наступных фразеалагізмаў рускай мовы адпаведныя па значэнні фразеалагізмы беларускай мовы і запішыце іх парамі.

Без задних ног — ...; бить баклуши — ...; два сапога пара — ...; от горшка два вершка — ... .

С л о в ы д л я д а в е д к і: *біць лынды, аднаго поля ягады, кату па пяту, як пшаніцу прадаўшы.*

## Кантрольныя пытанні і заданні

1. Што такое лексіка?

2. Што называецца лексічным значэннем слова і якія значэнні з'яўляюцца граматычнымі? Растлумачце гэта на прыкладзе слова *сонца* са сказа: *Прысядае сонца нізка і глядзіць у вочы рэк* (А. Пісьмянкоў).

3. Якія значэнні слова называюцца пераноснымі? Прывядзіце прыклады.

4. Чаму словы *брат, дом, раніца, вясёлы, гаварыць* адносяцца да агульнаўжывальных?

5. У чым асаблівасць лексічнага значэння сінонімаў, антонімаў, амонімаў? Пакажыце гэта на прыкладах.

6. Якія фразеалагізмы меў на ўвазе вучань, малюючы такія ілюстрацыі?





# СКЛАД СЛОВА. СЛОВАЎТВАРЭННЕ І АРФАГРАФІЯ

**Словаўтварэнне** — раздзел навукі аб мове, у якім вывучаюцца:

1) склад слова (значымыя часткі, з якіх складаецца слова);

2) утварэнне слоў (ад якой асновы і з дапамогай чаго ўтвараюцца словы).

**Арфаграфія** — раздзел навукі аб мове, у якім вывучаюцца правілы напісання слоў.

## § 28. Змяненне і ўтварэнне слоў

**185.** Прачытайце словы. Вызначце, якімі часцінамі мовы яны з'яўляюцца. Выпішыце спачатку словы, якія скланяюцца, потым — якія спрагаюцца.

Вандраваць, пісьменнік, чароўны (гук), зайздросціць, абавязак, чырванець, блакітны (колер).

**186.** Прачытайце. Выпішыце з тэксту ўсе формы слова *мама*. Ці змяняецца ў гэтых формах яго лексічнае значэнне?

Ніхто нас так не шкадуе і не любіць, як мама. Для кожнай мамы яе дзеці — самыя лю́быя і дарагія. Люба́я наша дра́піна баліць маме нясцерпным болем, наша няўдача становіцца яе пакутай. Трэба берагчы, шанаваць і любіць сваю маму, ганарыцца мамай, прыносіць ёй не гора, а толькі радасць і кветкі. Самыя светлыя нашы

пачуцці, самыя лепшыя нашы думкі — пра маму. *(Паводле С. Грахоўскага)*

● Растлумачце лексічнае значэнне слоў *шкадаваць, пакута, шанаваць.*

● Назавіце аднародныя члены сказа.

Трэба адрозніваць змяненне і ўтварэнне слоў.

Пры **змяненні** (пры скланенні назоўнікаў, прыметнікаў, займеннікаў, лічэбнікаў, пры спражэнні дзеясловаў) утвараюцца граматычныя формы аднаго і таго слова: *цішыня — цішыні, цішынёй, у цішыні; вандраваць — вандрую, вандруеш, вандруе, вандруеце.* Лексічнае значэнне ў формах слова не змяняецца: *плысці — плыве, плыла, плылі.*

Пры **ўтварэнні** з'яўляюцца аднакаранёвыя (роднасныя) словы, якія маюць агульную значымую частку. Лексічнае значэнне аднакаранёвых слоў рознае: *апавядаць* 'расказваць', 'паведамляць' — *апавядальнік* 'той, хто апавядае'; *пчала* 'насякомае, якое перапрацоўвае нектар на мёд' — *пчаляр* 'той, хто даглядае пчол'.

**187.** Запішыце спачатку роднасныя словы, потым — формы аднаго і таго слова.

1. Лес, лесу, лесам, у лес.
2. Лес, ляснік, лясісты, пералесак, лясны.
3. Горны (луг), горнага (лугу), горнаму (лугу), на горным (лузе).
4. Гара, узгорак, горац, гарысты, горны.
5. Госць, гасцініца, гасціць, гасцяваць, гасцінны (гаспадар).
6. Гасцюю, гасцюеш, гасцюе, гасцюем, гасцююць.

● У адзін слупок выпішыце формы слова *лес*, у другі — роднасныя словы. Абазначце іх значымыя часткі.

**188.** Карыстаючыся табліцай, раскажыце правіла «Змяненне і ўтварэнне слоў». Запішыце прыклады, якія вы скарыстаеце падчас адказу.

| Утварэнне слоў | Змяненне слоў |
| --- | --- |
| 1. Лексічнае значэнне слоў рознае | 1. Лексічнае значэнне слова не змяняецца |
| 2. Словы адносяцца да адной ці розных часцін мовы | 2. З'яўляюцца адной часцінай мовы |
| 3. Адрозніваюцца суфіксамі, прыстаўкамі, якія надаюць словам іншае лексічнае значэнне | 3. Адрозніваюцца канчаткамі |

⊙ **189.** З мастацкага тэксту выпішыце па 2—3 сказы, у якіх ужыты розныя граматычныя формы адных і тых жа слоў, а потым — сказы з аднакаранёвымі словамі.



**190.** Вучань прапусціў урок на тэму «Змяненне і ўтварэнне слоў». Ці правільна выканаў ён дамашняе практыкаванне? Выканайце гэтае заданне без памылак.

| *Формы слова* | *Аднакаранёвыя словы* |
| --- | --- |
| белы (колер) | беламу (колеру) |
| белізна́ | у белым (колеры) |
| бялі́зна | бель |
| пабяліць | з белым (колерам) |
| пабелка | пра белы (колер) |
| золата | бялець |
| пазалочаны | залаты (пярсцёнак) |
| залацінка | залаціць |
| залатога (пярсцёнка) | залатому (пярсцёнку) |
| пазалота | пра залаты (пярсцёнак) |
| | залацісты (колер) |

## § 29. Марфемная будова слова. Аснова і канчатак

Словы маюць свой састаў, будову. Будаўнічым матэрыялам для слова з'яўляюцца **марфемы.** Кожная марфема ў слове выконвае сваю ролю, мае сваё значэнне. Марфема — значымая частка слова.

**191.** Умоўныя абазначэнні якіх марфем выкарыстаны на малюнку?



● Прачытайце словы, выпішыце тыя, структура якіх адпавядае ўмоўным абазначэнням на малюнку. Пры неабходнасці карыстайцеся «Школьным марфемным слоўнікам беларускай мовы» (аўтары А. М. Бардовіч, Л. С. Мормыш, Л. М. Шакун).

Вожык, працуюць, акрэплі, ападкі, асабовы, рассылка, перанесці, пералётны, перакладчык, вараслі, расказаць, паштоўка.

Слова можа складацца з наступных марфем (значымых частак): ⌐ — прыстаўка, ⌒ — корань, ∧ — суфікс, □ — канчатак, ∨ — постфікс:

*вуч-ан-іц-а*, *вуч-н-ёў-ск-і*,

*неда-вуч-ы-ць*, *вуч-ы-ц-ца*.

Напрыклад, у слове *носікі* кожная марфема мае значэнне. Корань ***нос-*** паказвае, што слова мае адносіны да 'часткі твару чалавека', суфікс — ***-ік*** надае слову значэнне ласкальнасці.

Канчатак -*і* паказвае, што назоўнік ужыты ў форме множнага ліку назоўнага або вінавальнага склону.

**192.** З прыказак выпішыце формы слова *Радзіма*, вызначце склон. Адкажыце на пытанне: *З дапамогай чаго ўтвараюцца граматычныя формы слоў*?

1. Радзіма — маці, чужая старонка — мачаха.
2. Чалавек без Радзімы, як салавей без песні.
3. Жыць — Радзіме служыць.
4. Толькі таму пашана будзе, хто Радзіму не на словах любіць.

● Запішыце па памяці прыказкі на тэму «Радзіма».

**193.** З наступных слоў складзіце сказ.

Мы, любіць, свой, Радзіма.

● Якая частка слова дапамагла звязаць словы ў сказе?
● Пастарайцеся самастойна адказаць на пытанне: *Якая частка слова называецца канчаткам*?

**194.** Разгледзьце запіс.

Р. — *-ага*
Д. — *-аму*
Т. — *-ым*
М. — *(у) -ым*

## АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. Якія часціны мовы могуць мець такія канчаткі? Прывядзіце прыклады.
2. Ці можна вызначыць род гэтых слоў? А лік?
3. Пра што нам расказаў канчатак?

У зменным слове выдзяляецца **аснова** і **канчатак:** *зямл|я|*, *прыгож|ы|*.

**Аснова** — частка слова без канчатка, у якой заключана **канкрэтнае лексічнае значэнне**. Напрыклад: *Праз акн- мы бач- сумн- дзяўчынк-*. Нават без канчаткаў *(акн-о, бач-ым, сумн-ую, дзяўчынк-у)* мы пазнаём лексічнае значэнне ўжытых слоў.

**Канчаткам** называецца зменная значымая частка, якая служыць для ўтварэння формаў слова і для сувязі слоў у словазлучэнні або ў сказе: *у цікав|ай| кніз|е|, цікавіцца кніг|амі|*.

Канчатак перадае граматычнае значэнне роду, ліку, склону, асобы. Каб правільна вызначыць канчатак, трэба праскланяць *(дарога, дарогай, (у) дарозе)* або праспрагаць слова *(іду, ідзеш, ідзём)*. Нязменныя словы і нязменныя формы слоў канчаткаў не маюць: *цішэй*, *несучы*.

**195.** Прачытайце. Якое граматычнае значэнне перадаюць канчаткі ў наступных словах?

Узгоркі — узгорак, (на) небасхіле — небасхіл, гаманілі — гаманіў, у змесце — змест, бачыла — бачыў, вішня — вішань, ляжалі — лёг, неслі — нёс.

● Ці можна сказаць, што словы *ўзгорак, гаманіў, бачыў* не маюць канчаткаў? Чаму?

**Канчатак,** які не выражаны гукамі, называецца нулявым: *лес*□, *стаяў*□, *нос*□, *вёз*□, *чытаў*□.

Нулявы канчатак вызначаецца ў тым выпадку, калі ў іншых формах слова ёсць канчатак, выражаны гукамі: *спяваў*□, *спявал*[*а*], *спявал*[*і*].

**196.** Прачытайце верш. Выпішыце словы з нулявымі канчаткамі.

Вычытаў кот-грамацей,
Што пара лавіць мышэй.
Паглядзеў — аж мышка скача.
Кот ад страху як заплача:
— Ой, ратуйце, я ж не знаю,
Як лавіць — з якога краю —
Ці за хвост, а ці за вушы?
Я пра ўсё дазнацца му́шу*.
Няхай мышка пагуляеф,
Пакуль кніжку дачытаюс.

*П. Варанько*

**197.** З дапамогай прыставак ***вы-, пры-, ад-, з-, пад-*** утварыце аднакаранёвыя словы да слова *ехаць*. Растлумачце іх значэнне.

**Прыстаўка** — значымая частка слова, якая стаіць перад коранем і служыць для ўтварэння новых слоў: *вучыць — вывучыць, недавучыць; парадак — беспарадак; націскны — ненаціскны.*

З дапамогай прыставак утвараюцца таксама формы слова: *лепшы — найлепшы, прыгажэй — найпрыгажэй.*

**198.** Утварыце прыметнікі з дапамогай прыставак ***без-***, ***бяз-***, ***бес-***, ***бяс-***. Падбярыце адпаведны назоўнік і запішыце словазлучэнні. Абазначце галоўнае і залежнае словы.

Працоўны *(чалавек, дзень)*, сардэчны *(прыступ, адносіны)*, гучны *(голас, слава)*, зорны *(паход, неба)*, пры́кладны *(паводзіны, тэрмін)*, адказны *(чалавек, заданне)*, месячны *(адпачынак, ноч)*.

● Растлумачце напісанне ***е, я, з, с*** у прыстаўках.

**199.** Вызначце розніцу ў лексічным значэнні прапанаваных слоў і скажыце, які суфікс гэта выражае. Суфіксы абазначце.

кіраваць — кіраўнік
парушаць — парушальнік
гаспадар — гаспадарлівы
баскетбол — баскетбаліст
Алена — Аленін
Пятрусь — Петрусёў

**Суфікс** — значымая частка слова, якая стаіць пасля кораня і служыць для ўтварэння новых слоў: *вясёл*[*ы*] — *весяльчак*[ ], *зім*[*а*] — *зімов*[*ы*]. З дапамогай суфіксаў утвараюцца формы слоў: *лёгкі* — *лягчэйшы*, *рашаць* — *рашаў*, *рашала*.

Суфікс удакладняе, дапаўняе значэнне, заключанае ў корані слова. Напрыклад, корань *чорн-ы* ўтрымлівае значэнне ‘які мае колер вугалю, які адносіцца да самага цёмнага з усіх

колераў’. Суфіксы ўдакладняюць значэнне каранёвай марфемы: *чарн-е-ць* — ‘станавіцца чорным’; *чарн-іц-ы* — ‘ягады чорна-сіняй афарбоўкі’; *чарн-іч-н-ік* — ‘кусцікі, на якіх растуць чарніцы’; *чарн-яв-ы* — ‘які мае цёмныя (чорныя) валасы, смуглы твар’.

**Постфікс** (г. зн. прымацаваны) — значымая частка, якая знаходзіцца пасля канчатка ці суфікса. Постфікс мае наступнае графічнае абазначэнне: *смяялі-ся*, *паспяшаў-ся*, *хавац-ца*, *мые-цца*, *распрані-ся*, *чаго-сьці*. У словах з постфіксам аснова можа быць перарванай: *смяял і ся*.

**200.** Выпішыце спачатку сказы, у якіх выдзеленыя словы маюць памяншальна-ласкальнае адценне, а потым сказы, у якіх словы маюць павелічальнае адценне. Абазначце аснову і суфікс у выдзеленых словах, назавіце канчаткі.

1. Перад равеснікамі ганарыліся адно адным: Косцік — што ў яго такая прыгожая **сястрычка**, а Ніна — што ў яе добры і ласкавы **брацік** *(І. Новікаў)*. 2. Шорстка шапацеў гнаны **вятрыскам** снег *(В. Блакіт)*. 3. **Сонейкам цёпленькім**, зеленню вабнаю абдаравала **зямельку** вясна[сн] *(Янка Купала)*. 4. У хаце стаяла такая **халадэча**, што бадай цяплей было на двары *(Б. Сачанка)*. 5. О, як жа ўсё тут сэрцу міла: узгорак, сцежка, ніва, гай, **рачулка**, звонкая **крынічка**, і **азярцо**, і груша-дзічка, і воддаль — рэдкі **саснячок** *(А. Бялевіч)*.



**201.** У адзін слупок выпішыце назвы асоб, у другі — назвы прадметаў. Абазначце суфіксы. Якое значэнне яны надаюць словам?

Кветнік, ажыннік, садоўнік, лічнік, субяседнік, дапаможнік, жартаўнік, маліннік, алешнік, вартаўнік, градуснік, праваднік, прадстаўнік, ельнік.

## § 30. Корань слова

**202.** Разгледзьце ўважліва «слоўнае дрэва», коранем якога з'яўляецца слова *лес*.




● Запішыце прыклады слоў з гэтага дрэва, марфемны састаў якіх адпавядае наступным схемам:

⌒□, ⌒∧□, ¬⌒∧□.

● Ці можна корань лічыць нязменнай часткай слова? Дакажыце гэта на прыкладах.

● Намалюйце «слоўнае дрэва», коранем якога было б слова *дарога, дом, рака* (на выбар).

**203.** Прачытайце тэкст, сфармулюйце і запішыце асноўную думку.

Стрыжнем слова, асноўнай яго часткай з'яўляецца корань. Ад яго словы «растуць», як галіны на дрэве. Чым «магутнейшы» корань, чым больш ён жыццяздольны і ўжывальны, тым больш у яго галін, тым велічней узвышаецца «слоўнае дрэва». Вось адно з такіх дрэў.

Ад слова *вада* «вырасла» цэлая група слоў: *падводнік, падводны, бязводны* і іншыя.

Ад гэтага слова з'явілася і другая галіна: *вадзяны, вадзянка, вадзяністы* і іншыя.

На гэтым дрэве выраслі і дзеяслоўныя «галіны»: *абвадніць, абязводзіць, вадзянець...*

Ёсць і ласкальныя словы: *вадзіца, вадзічка*.

А колькі складаных слоў утварылася ад слова *вада!* Вось толькі некаторыя з іх: *вадакачка, вадалаз, водаправод, водаправодчык, вадавоз, вадамер...*

Правільныя словы аднаго з герояў Максіма Горкага: «Словы, дружа, як лісце на дрэве, каб зразумець, чаму ліст такі, а не іншы, трэба ведаць, як расце дрэва, трэба вучыцца». *(Паводле В. Івановай)*

● Выпішыце аднакаранёвыя словы да слова *вада*. Зрабіце іх марфемны разбор (парадак марфемнага разбору глядзіце на форзацы). Чаму гэтыя словы называюць яшчэ роднаснымі?

Зрабіць **марфемны** разбор (або разабраць слова па саставе) — гэта значыць выдзеліць, назваць яго значымыя часткі.

**Корань** — галоўная значымая частка роднасных (аднакаранёвых) слоў: *дум-а, дум-аць, дум-ка, за-дум-енны.*

У корані заключаецца агульнае лексічнае значэнне роднасных слоў: *мароз — мароз-ны, мароз-іць, мароз-на, марож-анае* (значэнне ўсіх слоў звязана са словам *мароз*).

Каб вызначыць корань, трэба падабраць роднасныя словы:

*гора — гараваць, гаротны, гаротнік;*

*гара — гарысты, узгор'е, узгорак.*

**204.** Да наступных слоў падбярыце роднасныя. Абазначце ў словах корань.

Сіні, трава, ноч, хмара, вечар.

Словы для даведкі: *вечаровы, хмарны, пераначаваць, утравець, падсініць, сінь, бясхмарны, вячэрні, сінеча, сінява, адвячорак, хмарыцца, вячэраць, вячэра, начаваць, травянець, начнік, травяны, сінець, начны, сінька, заначаваць, травяністы.*

**205.** Прачытайце.

Адзін хлопчык на просьбу настаўніцы — падабраць аднакаранёвыя словы — прывёў наступныя, на яго думку, роднасныя: *косці — касцюм, кошка — кашмар.* Хлопчык сцвярджаў, што гэтыя словы маюць агульную частку *косц- — касц-, кош- — каш-*... Ці так гэта?

- Вызначце, у чым памылка вучня.



1. Падбіраючы роднасныя словы, трэба памятаць, што іх павінна аб'ядноўваць не толькі агульная частка. Гэтая частка павінна перадаваць агульны сэнс, асноўнае значэнне аднакаранёвых слоў.

2. Аднакаранёвыя словы нельга блытаць з сінонімамі. Сінонімы блізкія па значэнні, але яны не маюць агульнай часткі, як роднасныя словы. Таму *вучы́ць, выклада́ць* — сінонімы, але не роднасныя словы.

3. Каб правільна вызначыць корань, трэба падабраць як мага больш роднасных слоў з рознымі прыстаўкамі, суфіксамі і без іх.

*Чуць — пачуць, адчуваць, недачуць, адчуванне.*

*Спыніць — прыпынак, перапынак, перапыніць.*

4. Падбіраючы аднакаранёвыя словы, трэба памятаць пра чаргаванне галосных і зычных гукаў. Інакш можна не пазнаць кораня, прыняць слова за чужое, няроднаснае.

*Дзень — дня, дзённік.*

*Вуха — вушанка, завушніцы.*

*Свет — светла, светлячок, свечка, падсвечнік, асвяціць.*

**206.** Вызначце, ці з'яўляюцца роднаснымі наступныя словы?

Горная *(рака)* і гора *(бяда, няшчасце)*; ножка *(дзіцячая)* і нож *(кухонны)*.

У з о р: *носік і насільшчык.*

***Носік*** *— ласкальная або памяншальная назва да слова* ***нос****. Аднакаранёвыя словы:* ***насаты, насавы****.*

***Насільшчык*** *— чалавек, які носіць грузы. Роднасныя словы:* ***насіць, насілкі****.*

*Значыць, у словах* ***носік, насільшчык*** *карані розныя. Роднаснымі гэтыя словы не з'яўляюцца.*

**207.** Прачытайце тэкст. Выпішыце аднакаранёвыя словы. Растлумачце іх лексічнае значэнне.

Адкуль узнікла слова *стол*? Хутчэй за ўсё ад дзеяслова *ставіць*. Бо ў даўнія часы сям'я ўсаджвалася на траве ці долу ў хаце перад рассцеленым абрусам, на які ставіліся розныя стравы. Месца, якое было прызначана, каб ставіць стравы, і называлася *стол*.

Пасля, каб было зручней, гэтае месца прыўзнялі на падпоркі (ножкі) і назвалі сталом, а ўсе члены сям'і ўсаджваліся каля яго на лавы. Так утварылася *застолле*, месца для прыёму ежы, для частавання гасцей ці проста для бяседы, каб пасядзець ды пагаманіць. Засцілалі стол кавалкам палатна, які называлі *настольнікам*. Пад'еўшы і сабраўшы посуд са стала, на ім пакідалі толькі хлеб, які прыкрывалі тым жа настольнікам *(У. Юрэвіч)*.

● Дакажыце, што словы *настольнік* і *абрус* з'яўляюцца сінонімамі. Якое з гэтых слоў з'яўляецца «гаваркім», г. зн. само «гаворыць», «расказвае» пра сябе?



**208.** Прачытайце. У кожным радку знайдзіце лішняе слова.

1. Смешны, смяшыць, змяшаць.
2. Левы, леў, налева.
3. Вецер, віхор*, бязветраны.
4. Лес, лесвіца, лясны.
5. Сасна, дрэва, драўляны.
6. Шкадаваць, шкада, шкоднік.
7. Грубы, грубка, грубіць.

● Дапоўніце рады аднакаранёвых слоў уласнымі прыкладамі. Складзіце і запішыце сказы са словамі *шкадаваць, шкада, шкоднік*.

## § 31. Словаўтваральныя і формаўтваральныя марфемы

У залежнасці ад таго, якую функцыю (ролю) выконваюць марфемы ў слове, яны падзяляюцца на словаўтваральныя і формаўтваральныя.

**Словаўтваральнымі** называюць марфемы, з дапамогай якіх утвараюцца новыя словы. Да іх адносяцца:

● прыстаўкі, што маюць словаўтваральную функцыю: *пра-ўнук, на-зайсёды, пера-вярнуць*;

● суфіксы *чыт-ач, развед-чык, уяўл-енн-е*;

● постфіксы *што-сьці, хто-небудзь, несці-ся*.

**Формаўтваральнымі** называюцца марфемы, з дапамогай якіх утвараюцца формы слоў. Да іх адносяцца:

● суфіксы пачатковай формы дзеяслова: *пі-ць, ес-ці, пя-чы*;

● суфіксы прошлага часу дзеясловаў: *глянуў, смяя-ў-ся, смяя-л-ася, спява-л-і*.

**209.** Да прапанаваных слоў падбярыце беларускія адпаведнікі. У беларускамоўных варыянтах абазначце словаўтваральныя прыстаўкі.

| | |
|---|---|
| *соцветие — суквецце* | совладелец — ... |
| *соавтор — сааўтар* | совместный — ... |
| собеседник — ... | совместно — ... |

*внешкольный — пазашкольны*
внеплановый — ...

*безбоязненный — бязбо́язны*
безбрежный — ...
*безвкусный — нясмачны*
безвыездный — ...

● Праверце правільнасць вылучэння марфемы па «Школьным марфемным слоўніку беларускай мовы» (аўтары А. М. Бардовіч, Л. С. Мормыш, Л. М. Шакун).

**210.** Падбярыце паводле ўзору адпаведныя назвы. Абазначце ў іх суфіксы.

| | |
|---|---|
| *у каровы — цяляты* | у казы — ... |
| у авечкі — ... | у бабра — ... |
| у курыцы — ... | у зайца — ... |
| у свінні — ... | у ваўка — ... |

**211.** Прачытайце. Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары. У выдзеленых словах абазначце суфіксы. Якія гэта суфіксы: словаўтваральныя або формаўтваральныя? Якое адценне надаюць гэтыя суфіксы словам?

Дз..ўбанула **варанятка**
Носам літару:
— Кар, кар!

Мама, гэта ж не **з..рнятка.**
Ой, не сма..ны
Твой буквар!
*М. Вайнілайціс*

● Зрабіце фанетычны разбор слова *смачны*.

**212.** Прачытайце.

Сцюдзёная Студзёнка калыхала
На хвалі белай лотаці лісты.
Пясчаная Пясчанка намывала
На беражок пясочак залаты.
*С. Басуматрава*

● Спішыце і падкрэсліце аднакаранёвыя словы. Разбярыце іх па саставе.

## § 32. Чаргаванне зычных і галосных у аснове

**213.** Прачытайце. Назавіце гукі, якія змяніліся ў словах.

У з о р: *берагі — беражок:* [г]//[ж].

лугі — на лузе
магу — можаш
вадзіць — ваджу
дошка — на дошцы
крык — крычаць

насіць — нашу
сухі — сушыць
крывёй — кроў
штука — штучны
кругі — кружыць

У аснове слова можа адбывацца чаргаванне гукаў. **Чаргаванне** — гэта змена галосных або зычных гукаў у адной і той жа марфеме (у корані або ў суфіксе): [э]//[а]: *несці — нясу*, [о]//[а]: *вёска — вясковы*, *слова — славесны*, [д]//[дз′]: *хада — хадзіць*.

У некаторых словах чаргуюцца спалучэнні ***ро, ло*** з ***ры, лы***: *глотка — глытаць, крой — крывавы.*

Чаргаванне гукаў адбываецца ў аднакаранёвых словах або ў формах слова.

**214.** Змяніце словы так, каб у іх чаргаваліся зычныя гукі. Запішыце.

Узор: [л]//[ў] *касіла — касіў.*

[х]//[с′] гарох — ...
[з′]//[ж] нізенькі — ...
[к]//[ц] крышка — ...
[к]//[ч] пяку — ...
[л]//[ў] спявала — ...
[в′]//[ў] човен — ...
[г]//[з′] крыга — ...
[г]//[ж] лягу — ...

**215.** Прачытайце тэкст. Да выдзеленых слоў падбярыце і запішыце тыя, у якіх чаргаваліся б зычныя або галосныя гукі.

## Блакітныя жураўлі

Зоя выйшла з **дому** радасная, **вясёлая. Учора вечарам** тата і мама **доўга сядзелі** ля яе ложка, расказвалі **казкі.** Развітваючыся, мама пацалавала дачку і сказала:

— Хай прысніцца табе яснае сонейка.

Зоі снілася **сонейка** — яснае, **цёплае.**

Сяргейка выйшаў з **хаты** бледны, сумны.

Учора тата і мама сварыліся. Мама **плакала**. Сяргейку доўга не спалася. Заснуўшы, бачыў мацуліны **заплаканыя вочы.**

І вось **ідуць** у школу Зоя і Сяргейка. Раптам Зоя **крыкнула:**

— Паглядзі, **ляцяць**[ф] блакітныя жураўлі!

— Не блакітныя, а **шэрыя**, — **ціха вымавіў** Сяргейка.

У класе Зоя **сказала**[м] **настаўніку:**

— У небе ляцелі блакітныя жураўлі. А Сяргейка **гаварыў:** «Жураўлі шэрыя...»

**Настаўнік уважліва** і ласкава паглядзеў у **вочы** хлопчыка:

— Не сумуй, Сяргейка, прыляцяць і твае блакітныя жураўлі. *(Паводле В. Сухамлінскага)*

● Чаму жураўлі падаліся Зоі блакітнымі, а Сяргейку — шэрымі?

● Разбярыце па членах сказа 1-ы сказ.

Пры змяненні некаторых слоў галосныя гукі [а], [о], [э] могуць чаргавацца з нулём гука, г. зн. выпадаць: *сон* — *сну*, *пень* — *пня*, *касец* — *касца*.

Галосныя гукі, якія выпадаюць пры змяненні слоў, называюцца **беглымі:** *ранак* — *ранку*, *стажок* — *стажка*, *пянёк* — *пянька*, *тыдзень* — *тыдня*.

**216.** Да прыведзеных слоў падбярыце і запішыце іх формы, у якіх адбываецца чаргаванне галосных з нулём гука.

Дзянёк, рубель, вецер, дзень, касцёр, ле́жань, гарадок, кружок, касец, сон, бабёр, беражок.

● Зрабіце фанетычны разбор слова *дзянёк*.

## § 33. Правапіс прыставак, якія заканчваюцца на зычны

**217.** Прачытайце. Назавіце прыстаўкі ў словах.

**з**бегаць — **с**палохаць
бе**з**галосы — бе**с**характарны
бя**з**доказны — бе**с**турботны[л]
ра**з**думаць — ра**с**тлумачыць
ра**з**злавацца — ра**с**смяяцца
**з**жаць — **с**шыць

● Назавіце першыя гукі кораня ў парах слоў. Якія гэта гукі па звонкасці-глухасці?

● Зрабіце вывад, калі пішуцца прыстаўкі, якія заканчваюцца на ***з***, а калі — прыстаўкі, што заканчваюцца на ***с***.

Правапіс літар ***з*** і ***с*** у прыстаўках залежыць ад вымаўлення: перад звонкімі зычнымі вымаўляецца звонкі гук і пішацца літара ***з***, а перад глухімі зычнымі вымаўляецца глухі гук і пішацца літара ***с***: *бездарожжа, раззнаёміцца, бескарысны, бясстрашны.*

Правапіс літар ***б*** і ***д*** у прыстаўках не залежыць ад вымаўлення: яны заўсёды пішуцца нязменна: *абкасіць, абвязаць, падказка, надрэзаць.*

**218.** Запішыце словы з патрэбнай прыстаўкай.

***З- (с-):*** бянтэжыцца, клеіць, казаць, марозіць, кінуць, берагчы.

***Раз- (рас-):*** квітнець, трывожыць, багацець, весяліцца, ведаць, чысціць, жаваць, званіць.

***Без-/бяз- (бес-/бяс-):*** карысны, працоўны, дарожны, тактоўны, вольны, платны, сістэмны, шумны.

**219.** Растлумачце, чаму ў наступных словах трэба пісаць дзве літары ***з***, ***с***. Абазначце значымыя часткі ў словах.

Беззваротны, бессаромны, бессістэмны, беззмястоўны[с], бяззубы, бясспрэчны[с], рассмяшыць, разабраенне, расступіцца, раззлавацца, рассмяяцца.

**220.** Спішыце. Устаўце прапушчаныя літары. Растлумачце правапіс прыставак.

Б..звыніковы, б..злюдны, б..зрадасны, б..знадзейны, б..спарадак, б..спрытульны, б..скрыўдны, б..склапотны, б..сконцы, б..счалавечны, б..схмар'е[ф], б..звольны.

**221.** Разгледзьце малюнак «Воўк-грамацей». Знайдзіце памылкі ў сказе, напісаным «грамацеем». Якіх правілаў не ведае Воўк?



**222.** Назоўнікі з прыназоўнікамі замяніце прыметнікамі. Запішыце іх, выдзеліце прыстаўкі.

*вораг* ***без*** *літасці — бязлітасны вораг*
ноч **без** сну — ...
чалавек **без** волі — ...
матор **без** шуму — ...
дзень **без** радасці — ...
паводзіны **без** заган — ...



**223.** Прачытайце і скажыце, як вы разумееце сэнс прыказак і прымавак. Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары. Растлумачце правапіс прыставак.

1. На дзень станеш — на два а..станеш. 2. Паганае зелле не ..рывай, а з коранем вырывай. 3. Не а..кладвай на заўтра тое, што можна ..рабіць сёння. 4. Хто без навукі, той як бя..рукі. 5. Ласка горы ра..бівае. 6. І лапця не ..пляцеш не ўмеючы. 7. Сем разоў а..мерай, адзін раз а..рэж.

## § 34. Правапіс *й, ы* пасля прыставак

**224.** Разгледзьце табліцу. Звярніце ўвагу, на які гук — зычны ці галосны — заканчваюцца прыстаўкі.

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| над | | над**ы**сці | за | | за**й**сці |
| пад | **і**сці | пад**ы**сці | п**а** | **і**сці | па**й**сці |
| **с** | | с**ы**сці | пер**а** | | пера**й**сці |

● Сфармулюйце правіла: у якіх выпадках пасля прыставак замест пачатковай каранёвай ***і*** пішацца літара ***ы***, у якіх — літара ***й***.

Пасля прыставак замест **каранёвага** [і] вымаўляецца [й] або [ы] і перадаецца на пісьме адпаведна літарай ***й*** або ***ы.***

Пішацца ***й***, калі прыстаўка заканчваецца на галосны гук: *іграць — вы**й**граць, за**й**граць, на**й**граць.*

Пішацца ***ы***, калі прыстаўка заканчваецца на зычны гук: *іграць — с**ы**граць, раз**ы**граць, пад**ы**граць, ад**ы**граць.*

Захоўваецца ***і***, калі каранёвы гук [і] утварае склад: *за-**і**-нець, за-**і**-кац-ца, за-**і**-ка, за-**і**н-тры-га-ваць.*

Пры пераносе слова каранёвыя ***й***, ***ы*** ад прыстаўкі не аддзяляюцца: *пай-граць, абы-граць.*

Літара ***і*** пішацца пасля прыставак ***між-***, ***звыш-***, ***дэз-***, ***контр-***, ***гіпер-***: *міжінстытуцкі, звышімклівы, контрігра.*

**225.** Прачытайце. Растлумачце, дзе трэба пісаць ***і***, ***й***, ***ы***. Запішыце словы, устаўляючы прапушчаныя літары.

Пра..гравальнік, без..менны, за..нець, пера..начыць, ня..начай, на..мацць, пра..снаваць, па..менны, пра..нфармаваць, без..дэйны, без..менны[с].

**226.** Устаўце літары ***й*** або ***ы*** ў прапанаваных фразеалагізмах. Растлумачце правапіс літар і значэнне фразеалагізмаў. З трыма фразеалагізмамі складзіце сказы.

За..сці ў тупік, па..сці ўгору, вы..сці з-пад пяра, с..граць першую скрыпку, дарогі раз..шліся.

**227.** Запішыце словы, раскрываючы дужкі і выбіраючы патрэбную літару. Растлумачце іх правапіс.

Звыш*(ы/і)*дэйны, аб*(і/ы)*лгаць, раз*(ы/і)*сціся, аб*(і/ы)*мшэлы, на*(й/і)*грываць, пера*(і/й)*граць, ня*(і/й)*начай, пад*(і/ы)*сці, за*(й/і)*кацца, між*(ы/і)*нстытуцкі, дэз*(ы/і)*нфармацыя, супер*(ы/і)*гра, пед*(ы/і)*нстытут, пры*(й/і)*дзе, аўта*(і/й)*нспекцыя, за*(й/і)*скрыцца, паліт*(ы/і)*нфармацыя, звыш*(ы/і)*нтэлігентны, пера*(і/й)*маць, па*(і/й)*менна.

⊙ **228.** Запішыце па-беларуску наступныя сказы.

1. Человек никогда не должен быть безынициативным. 2. Попробовали обойти город стороной, по полю, — тоже из этого ничего не вышло. 3. Надеяться на выйгрыш. 4. Найти выход из трудного положения. 5. Донимать насмешками. 6. Пойти за водой.



**229.** Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары.

1. Вырвалася з-за хмар сонца, усё за..скрылася, заспявала, зазвінела *(К. Кірэенка)*. 2. А..гудзе завея[л], далеч ад..мгліцца, і на дрэвах белых зружавее лёд *(В. Шніп)*. 3. Пабеглі белымі лугамі мы ў за..нелыя сады *(С. Грахоўскі)*. 4. Так прывабліва пахне сасной, што ад гэтай ялінкі не хочацца ад..ходзіць *(А. Кулакоўскі)*. 5. І толькі зоркі пабялелі, у хаце дзверы зарыпелі, скрыпяць калодзежы, вароты, па..шла ра..гульвацца работа *(Якуб Колас)*. 6. У адно вуха пры..шло, праз другое вы..шла.

● Зрабіце сінтаксічны разбор першага сказа.

## § 35. Асноўныя спосабы ўтварэння слоў: прыставачны, суфіксальны, прыставачна-суфіксальны

Словы ў беларускай мове часцей за ўсё ўтвараюцца ад іншых слоў (асноў) пры дапамозе прыставак і суфіксаў.

Аснова, ад якой утвараецца іншае слова, называецца **ўтваральнай**, а ўтворанае слова — **вытворным**, напрыклад: *дасканалы* → *недасканалы* — 'які не з'яўляецца дасканалым'; *беларускі* → *беларусізм* — 'слова, запазычанае з беларускай мовы'; *ясны* → *праясні(ць)* — 'зрабіць ясным' (-***ць*** — паказчык пачатковай формы дзеяслова).

**230.** Разгледзьце табліцу на форзацы падручніка. Назавіце асноўныя спосабы ўтварэння слоў і дайце кожнаму з іх характарыстыку.

**Прыставачны спосаб** — гэта ўтварэнне слоў шляхам далучэння прыстаўкі да ўтваральнай асновы.

Прыставачным спосабам могуць утварацца назоўнікі *(парадак — беспарадак, аўтар — сааўтар)*; прыметнікі *(шматлікі — нешматлікі, адказны — безадказны)*, дзеясловы *(кінуць — акінуць* (позіркам), *сыпаць — рассыпаць)*; прыслоўі *(вакол — навокал, абапал — паабапал)*.

**231.** Прачытайце і вызначце, якое значэнне надае прыстаўка ***за-*** словам у кожным радку. Запішыце дзеясловы са значэннем 'пачаць дзеянне' і 'закончыць дзеянне'. Абазначце, як яны ўтварыліся.

У з о р: *вучыць → завучыць (закончыць дзеянне).*

Зазвінець, заспяваць, засмяяцца.
Запрацавацца, захваліць, загаварыць.
Забегчы, зайсці, заглянуць.
Завязаць, засеяць, зацвярдзець.
Загарадны, заморскі, замежны.
Замнога, занадта, загуста.

С л о в ы  д л я  д а в е д к і: *пачаць дзеянне; закончыць дзеянне; часовасць дзеяння; празмернасць дзеяння; той, які знаходзіцца за мяжой; перавышэнне пэўнай якасці.*

● Зрабіце фанетычны разбор слова *зацвярдзець.*

**232.** Выпішыце словы з прыстаўкай ***за-***.

Заахвоціць, зайка, забяліць, забываць, завітаць, заводскі, завушніца, завяшчаць, загадка, загад, зайздрасць, залежаць.

**233.** Запішыце прыказкі, утварыўшы патрэбныя словы прыставачным спосабам.

Язык да Кіева *(весці).* Ласкавае слоўца, як сонейка, *(грэць).* Рана *(гаіцца),* а злое слова ніколі. Слова — не верабей, *(пускаць — не лавіць).*

● Як прыказкі вучаць ставіцца да слова, мовы?

**234.** Прачытайце. Выпішыце з кожнага сказа аднакаранёвыя словы, абазначце ў іх галоўную значымую частку.

1. Дарога, якая праходзіць у гарах, называецца горнай. 2. Мясцовасць, дзе шмат лясоў, называецца лясістай, а дзе многа гор, — гарыстай. 3. Кветка, якая расце ў вадзе, называецца вадзяной, тая, што расце ў лесе, — лясной, а ў полі, —

палявой. 4. Насільшчык — гэта чалавек, які носіць цяжкія рэчы пасажыраў.

● Падумайце, ад якіх слоў і з дапамогай якой значымай часткі ўтварыліся словы.

Пры **суфіксальным** спосабе ўтварэння суфікс далучаецца да ўтваральнай асновы слова.

Суфіксальным спосабам могуць утварацца назоўнікі: *будаваць — будаўнік*, *рупны — рупнасць*, *Украіна — украінец*; прыметнікі: *гаспадар — гаспадарлівы*, *шаўковы — шаўкавісты*, *барада — барадаты*; дзеясловы: *друк — друкаваць*, *вясёлы — весялець*; прыслоўі: *сарамлівы — сарамліва*, *завочны — завочна*.

Словы, утвораныя з дапамогай суфікса, могуць адносіцца да той жа часціны мовы, што і вытворнае слова, а могуць пераходзіць у іншыя часціны мовы: *барабан — барабаншчык*, *смелы* (я к і?) — *смела* (я к?).

**235.** Прачытайце лічылку. Выпішыце прыметнікі, утвораныя суфіксальным спосабам.

У з о р: *лось → ласіны*.

Шустры Зай спытаў Данілку:
— Ты не хочаш мець лічылку?
Іх навалам у бары —
Колькі хочаш, набяры.
Камарыных, і зубрыных,
І лісіных, і ласіных.
Назбіраешᶠ поўны мех...
Ты лічы, а я пабег[сн].

*П. Сушко*

**Прыставачна-суфіксальны спосаб** — утварэнне слоў адначасовым далучэннем да ўтваральнай асновы прыстаўкі і суфікса: *зіма* → *зазімак*, *дарога* → *прыдарожны*, *новы* → *паднавіць*.

**236.** З прапанаваных слоў выпішыце тыя, што ўтвораны прыставачна-суфіксальным спосабам. Абазначце ў іх значымыя часткі. Запішыце слова, ад якога непасрэдна ўтворана новае.

Прадзед, прыморскі, настольны, перапісаць, школьны, выкладчык, бязмежны, пералесак, выгадаваць, прыбярэжны, зжаўцець, зрэдку.

● Праверце правільнасць выканання задання па «Школьным словаўтваральным слоўніку беларускай мовы» (аўтары А. М. Бардовіч, М. М. Круталевіч, А. А. Лукашанец).



**237.** Спішыце тэкст. Падкрэсліце словы, утвораныя прыставачна-суфіксальным спосабам. Разбярыце іх па саставе.

### Елачкі

Зусім яшчэ нядаўна не было нічога каля гэтай дарогі. Алесь добра ведае. Не было.

І раптам: што за яны? Кволыя, тоненькія, як варсінкі, дрэўцы густа-густа абсыпалі пульхную глебу прыдарожнага ўзгорачка. Адкуль яны? *(К. Кірэенка)*.

## § 36. Утварэнне і правапіс складаных слоў

**238.** Прачытайце. Выпішыце словы, утвораныя з двух і больш самастойных слоў або іх асноў. Ад якіх слоў утварыліся выпісаныя словы?

Вучань, генерал-палкоўнік, каравай, мовазнаўства, агульнавядома, даўным-даўно, карабель, крэпасць-герой, воін, кінатэатр, дваццаціпяцітонны, цёмна-цямнюсенька, гусі-лебедзі.

Словы могуць утварацца шляхам складання асноў і слоў.

Словы, утвораныя з дзвюх і больш асноў або асобных слоў, называюцца **складанымі:** *горад-герой, краязнаўства, дваццаціпяцітысячны*. Для сувязі асноў у складаных словах ужываюцца злучальныя галосныя ***а, е (я), о***: *адн**а**бокі, усходн**е**славянскі, жыцц**я**радасны, ільн**о**валакно*.

Некаторыя складаныя словы ўтвараюцца без злучальных галосных: *шматразова, мімаволі, вечназялёны*.

Складаныя словы ўтвараюцца:

1) спосабам **словаскладання**, пры якім адбываецца аб'яднанне двух самастойных слоў у адно: *глыбокапаважаны, штораз, радыёперадача*;

2) спосабам **асноваскладання**, калі аб'ядноўваюцца дзве ці некалькі асноў (або частак слоў): *домабудаўнік, чарнабровы, дзевяцьсот*;

3) **складана-суфіксальным** спосабам, калі пры складанні асноў да іх адначасова далучаецца суфікс: *трохметр-ов-ы, аднавяск-овец*.

**239.** Вызначце асновы ў складаных словах і скажыце, ад якіх слоў і якім спосабам утвораны гэтыя словы.

Вадаспад, **вадаплаўны, земнаводны, зернеачышчальны, зернепагрузчык,** ільновалакно, Валгаград, лесаахова, легкакрылы, лінзападобны, лістапад, **мышалоўка,** узаемаразуменне.

● Якая асаблівасць утварэння выдзеленых слоў? Праверце свой адказ па «Школьным словаўтваральным слоўніку беларускай мовы» (аўтары А. М. Бардовіч, М. М. Круталевіч, А. А. Лукашанец).

**240.** Прачытайце ўважліва пары слоў. Вызначце, на які склад падае націск у другой частцы кожнага слова — на першы ці на другі. Адкажыце, у якім выпадку ў першай частцы складаных слоў пішацца ***о***, у якім — ***а***.

ч**а**рнавочка — ч**о**рнавалосы
д**а**ўгавечны — д**о**ўгачаканы
д**а**браякасны — д**о**брасуседскі
шыр**а**каплечы — шыр**о**кавядомы
бр**а**няносец — бр**о**неаўтамабіль
в**а**дасховішча — в**о**дапрыёмнік
з**а**латакосы — з**о**латавалосы
Н**а**ваполацк — Н**о**валукомль
п**а**ўнагруды — п**о**ўнафарматны

Каб не памыліцца ў напісанні галосных у складаных словах, патрэбна правільна вызначыць месца націску.

Калі націск падае на першы склад другой асновы, то ў першай аснове пішам ***а***: *нав**а**се́лле, р**а**ўнале́жны, в**а**дасхо́вішча.*

Калі ў другой частцы складанага слова націск падае не на першы склад, то ў першай частцы трэба пісаць ***о***: *новабудо́ўля, роўнабако́вы.*

Літара ***о*** захоўваецца ў складаных словах, першай часткай якіх з'яўляюцца ***слова-, што-, фота-, мота-***: ***слова****форма,* ***што****дзённы,* ***фота****здымак,* ***мота****крос.*

В ы к л ю ч э н н е: *фатограф, фатаграфія, матацыкл, матавоз.*

У першай частцы складаных слоў ***э*** захоўваецца нязменна: *рэдказубы, шэравокі, тэлебачанне.*

**241.** Ад наступных пар слоў утварыце складаныя. Растлумачце правапіс галосных.

Круглы і твар, чорны і работа, высокі і частотны, мароз і ўстойлівасць, добры і душа, роўна і мераць, вада і чэрпаць, многа і вугал, зямля і знаць, вада і ахоўваць, жыццё і любіць, свой і асаблівы, конь і гадаваць.

● З трыма складанымі словамі (на выбар) складзіце і запішыце сказы.



**242.** Паўтарыце правіла на правапіс галосных ***о, э, а***; ***ё, е, я***. Прымяніце гэта правіла пры напісанні наступных складаных слоў.

Водан..пранікальны, зерн..пагрузчык, пал..вод, земл..роб, земл..чарпалка, зерн..сушылка, ільн..завод, сам..кат, кан..вод, кон..гадоўля, зв..ралоў.

## § 37. Складанаскарочаныя словы

**243.** Прачытайце і растлумачце значэнне слоў з левага і правага слупкоў. Як утварэнне, склад слова дапамагаюць зразумець яго значэнне?

| | |
|---|---|
| лесанасаджэнне | лясгас |
| высокаадукаваны | леспрамгас |
| дваццаціпавярховы | Мінсельбуд |

### АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. Словы якога слупка ўтвораны шляхам складання асноў двух і больш слоў, а якія — шляхам складання частак тых слоў, што ўтвараюць поўную назву?

2. Чаму адны з іх называюцца складанымі, а іншыя — складанаскарочанымі?

**Складанаскарочаныя словы** — гэта словы, утвораныя аб'яднаннем частак слоў.

Складанаскарочаныя словы ўтвараюцца:

а) з частак слоў: *філфак* (філалагічны факультэт), *гарвыканкам* (гарадскі выканаўчы камітэт);

б) з часткі аднаго слова і поўнага другога: *спартклуб* (спартыўны клуб), *спецкурс* (спецыяльны курс);

в) з пачатковых літар або гукаў слоў: *РБ* (Рэспубліка Беларусь), *ЛіМ* («Літаратура і мастацтва»);

г) з часткі слова і пачатковых гукаў поўных слоў: *ЭЛіМБел* (Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі), *БелАМ* (Беларуская акадэмія мастацтваў).

**244.** Запішыце да кожнага пункта правіла (а, б, в, г) адпаведныя прыклады, правільна чытаючы складанаскарочаныя словы.

Біяфак, саўгас, аўтастанцыя, НАН РБ, БелАЗ, СНД, медагляд, рыбгас, МВФ, ДАІ, АТС, БелТА, ААН, ГУМ, прафбюро.

Уменне правільна чытаць складанаскарочаныя словы — паказчык культуры маўлення. Адны складанаскарочаныя словы чытаюцца, як простыя словы: *гарсавет, раймаг*; іншыя чытаюцца па назвах літар: *ТБМ* (тэ-бэ-эм) — Таварыства беларускай мовы; *СП* (эс-пэ) — Саюз пісьменнікаў.

Род складанаскарочаных слоў вызначаецца па асноўным слове: *МАЗ* — м. р. (завод), *ВНУ* — ж. р. (установа).

Складанаскарочаныя словы звычайна пішуцца вялікімі літарамі без кропак, злучкоў і апострафаў: *БДУ* (Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт), *УА* (установа адукацыі), *ЦУМ* (цэнтральны ўніверсальны магазін).

**245.** Прачытайце словы. Выпішыце спачатку складаныя, потым — складанаскарочаныя словы, растлумачце іх утварэнне. Што агульнае і што рознае паміж складанымі і складанаскарочанымі словамі?

БелСЭ, дабрачыннасць, сараканожка, універмаг, лясгас, райцэнтр, кнігалюб, кнігагандаль, ветурач, ЗША, тэхкантроль, вадаспад, Цэнтрвыбаркам.

⊙ **246.** Наступныя складанаскарочаныя словы запішыце па-беларуску, вызначце іх род.

Горздравотдел, БСЭ, педсовет, сберкасса, МХАТ, Минжилкоммунхоз.

**247.** Прачытайце тэкст. Пісьмова адкажыце на пытанне: *Якая роля складаных слоў у маўленні*?

Складаныя словы... Мы сустракаемся з імі дома і ў школе, у паўсядзённым маўленні і пры чытанні мастацкага твора, у тэатры і кіно, слухаючы народную песню і выступленне папулярнай эстраднай спявачкі. Іншы раз і не задумваемся, што ўжытае намі слова — складанае... Авалодаць складаным словам — значыць правільна і ясна выражаць сваю думку, зразумець усю глыбіню, шчодрасць, багацце наймення *(М. Прыгодзіч)*.

- Запішыце назоўнікі з апошняга сказа ў форме творнага склону адзіночнага ліку.
- Зрабіце марфемны разбор слова *складаныя*. Узор разбору гл. на форзацы.



**248.** Прачытайце тэкст. Выпішыце сказы, у якіх ёсць складаныя словы.

Яго імя **нядаўна** ўспыхнула яркай зоркай на **музычным** небасхіле. Яго песні адразу **загучалі** па радыё, тэлебачанні, у канцэртных залах. Аднак самая высокая ўзнагарода для кампазітара — калі яго творы гучаць у маладзёжным гурце, за **бяседным** сталом. Так ста́лася з песнямі «Даставай, Язэп, гармонік!», «А ў гасцях», напісанымі Міцерам Яўтуховічам. А песня «Добрай ночы» загучала на ўсю рэспубліку, пад яе мелодыю дзеці ідуць глядзець светлыя сны пасля **вечаровай радыёказкі**. *(Паводле Л. Камінскай)*

- Падкрэсліце ў выпісаных сказах граматычныя асновы.
- Выдзеленыя словы разбярыце па саставе.

Пры **словаўтваральным разборы** высвятляецца, як утворана слова, вызначаецца ўтваральная аснова (гэта можа быць аснова, частка асновы, слова, спалучэнне слоў) і марфема (марфемы), з дапамогай якой (якіх) утворана слова.

## Словаўтваральны разбор

П а р а д а к р а з б о р у

1. Вызначыць часціну мовы.
2. Калі слова зменнае, узнавіць пачатковую форму.
3. Акрэсліць лексічнае значэнне — праз аднакаранёвае слова, ад якога ўтворана новае слова (з дапамогай тлумачальнага слоўніка).
4. Параўнаць слова для аналізу з аднакаранёвым і выявіць марфему (марфемы), з дапамогай якой (якіх) яно ўтворана.
5. Назваць спосаб словаўтварэння.
6. Абазначыць схему ўтварэння слова графічна.

У з о р ы р а з б о р у

*Дачарнобыльскі.* Прыметнік, лексічнае значэнне ‘такі, якім быў нехта (нешта) да Чарнобыля’. Утваральная аснова — *Чарнобыль*. Слова ўтворана прыставачна-суфіксальным спосабам.

Графічнае абазначэнне:

*Чарнобыль* → *дачарнобыльскі*.

*Чужына.* Назоўнік, лексічнае значэнне ‘тое, што з’яўляецца чужым’. Утваральная аснова *чужы*. Слова ўтворана суфіксальным спосабам.

Графічнае абазначэнне: *чужы* → *чужына*.

*Пачарнець*. Дзеяслоў, лексічнае значэнне ‘стаць чорным’. Утваральнае слова — *чарнець*. Слова ўтворана прыставачным способам.

Графічнае абазначэнне: *чарнець* → *пачарнець*.

*Шматпакутны*. Прыметнік. Лексічнае значэнне ‘які перажыў шмат пакут’. Утвораны способам складання слова *шмат*, асновы слова *пакут а* з адначасовым далучэннем суфікса ***-н-***. Слова ўтворана складана-суфіксальным способам.

Графічнае абазначэнне:

*шмат*, *пакут а* + ***-н-*** → *шматпакутны*.

*Узмор’е*. Назоўнік. Лексічнае значэнне ‘мора каля берага’. Утваральная аснова *мор а*. Прыставачна-суфіксальны спосаб словаўтварэння.

Графічнае абазначэнне: *мор а* → *узморйэ*.

Пры словаўтваральным разборы важна адшукаць тое слова, якое матывуе, гэта значыць, раскрывае лексічнае значэнне ўтворанага. Напрыклад, *пераплётчык* — ‘той, хто пераплятае’, таму: *пераплят аць* → *пераплётчык*; *пазашкольны* — ‘які адбываецца, праходзіць не ў школе’, таму: *школ а* → *пазашкольны*; *пераход* — ‘месца для таго, каб пераходзіць вуліцу’, таму: *пераходз іць* → *пераход; падаконнік* — ‘дошка (пліта), якая знаходзіцца знізу, пад акном’, таму: *акн о* → *падаконнік*.

**249.** Прачытайце тэкст.

Даўно, яшчэ ў пазамінулым стагоддзі, хадзіў па нашай зямлі **вандроўнік**. Ад вёскі да вёскі, з хаты ў хату. Старыя людзі расказвалі яму **казкі** і легенды, спявалі песні, прыгадвалі **прыказкі** і прымаўкі. А ён уважліва слухаў і запісваў — радок да радка, слова да слова. Хто ж ён быў, гэты **збіральнік** моўных скарбаў? Іван Іванавіч Насовіч.

Працы Насовіча абуджалі цікавасць да **беларускай** мовы, да **народнага** слова. Колькі паэзіі, чалавечай **мудрасці** і дасціпнасці сабрана ў зборніку «Беларускія прыказкі і **загадкі**»! Гэта скарб, якому няма цаны. *(Паводле М. Маляўкі)*

● Як вы разумееце прыказкі, запісаныя Іванам Насовічам: *У няўмекі рукі калекі. Паволі едучы, далей будзеш*?

● Зрабіце марфемны і словаўтваральны разборы выдзеленых слоў.

● Трэці сказ разбярыце па членах сказа. Растлумачце знакі прыпынку ў ім.

**250.** Прачытайце тэкст. Самастойна прааналізуйце прапушчаныя арфаграмы і знакі прыпынку. Падрыхтуйцеся да кантрольнай дыктоўкі.

Лю..і ў старажытнасці вер..лі што побач з імі жывуць р..зныя багі. У іх прасілі дапамогі на полі на рыбнай лоўлі і на паляванні. З багамі трэба было ж..ць ... добрай згодзе. Яны маглі паспр..яць ч..лавеку а маглі ўгн..віцца і паслаць н..ўра..ай хваробу або, напрыклад, засе..ць поле каменнем.

Галоўны бо.. меў некалькі імёнаў але найчасцей яго называлі Род. Ён гаспадарыў на з..мл.. і ў небе уладарыў над в..трамі і рухам сонца.

З імем гэтага старажытнага бога ў нашай мове звязана шмат важных слоў: ра..іма наро.. нара..энне прырода ура..ай.

Продкі былі перакананыя што на ж..тнёвым полі хаваецца Жыцень. Ён любіў пераносіць каласкі ад лайдакаватых[л] гаспадароў да працавітых. У б..ларусаў працавітасць цанілася з даўніх часоў *(У. Арлоў)*.

**251.** Прачытайце. Адкажыце на пытанні хлопчыка. Раскажыце, як трэба паводзіць сябе, калі прыходзяць госці.

### Шакаладны торт

На мой дзень **нараджэння** мама купіла шакаладны торт, а госці прыйшлі з падарункамі.[сн] Колька працягнуў мне **настольную** гульню «Хакей».

— Дзякую, — гавару яму, — але мне больш падабаецца настольная гульня «Футбол».

Віцька прынёс **казкі** Андэрсена. Я і кажу:

— Дзякую. Кніжка цудоўная, хаця і не новая, відаць, што яе ўсе твае **сваякі** перачыталі.

Ліля падарыла набор фламастараў. Я адказаў:

— Мне якраз патрэбны фламастары. **Шкада,** што тут усяго 6 колераў, а не 18.

Склаў я **падарункі** і запрашаю гасцей да стала. А госці нейкія сумныя сядзяць. Я ўжо і музыку вясёлую ўключыў, а яны ўсё роўна не весяляцца. Калупаюць торт лыжачкамі і ў талеркі глядзяць. Потым давай адзін за адным **развітвацца.**

І чым я ім не дагадзіў? Можа, торт не спадабаўся? *(Паводле Алеся Саўчука)*

● Выпішыце выдзеленыя словы, падбярыце да іх роднасныя. Абазначце карані.

● Зрабіце марфемны і словаўтваральны разборы аднаго са слоў: *падарункамі, настольную* (гульню), *цудоўная* (кніжка), *сумныя* (госці).

● Да наступных слоў падбярыце словы з чаргаваннем галосных і зычных гукаў, абазначце чаргаванні: *купіць, колер, сяду, музыка, торт, казаць, кніга, прасіць, лыжка, погляд, дзень.*

Узор: *госці — гасцяваць:* [о]//[а].

## Кантрольныя пытанні і заданні

1. Назавіце значымыя часткі слова. Дайце ім азначэнні. Прывядзіце прыклады.
2. Якое значэнне слова называецца лексічным, якое — граматычным?
3. Якая фанетычная з'ява называецца чаргаваннем? Запішыце прыклады на чаргаванне галосных і зычных гукаў у беларускай мове.
4. Як правільна вызначыць корань у слове?
5. З якімі арфаграфічнымі правіламі вы пазнаёміліся ў раздзеле «Словаўтварэнне і арфаграфія»?
6. Назавіце спосабы ўтварэння слоў. Прывядзіце прыклады.
7. Як утвараюцца складаныя і складанаскарочаныя словы?
8. Раскажыце пра парадак выканання марфемнага і словаўтваральнага разбораў.
9. Якія слоўнікі дапамогуць правільна зрабіць марфемны і словаўтваральны разборы?
10. Запішыце тэрміны, з якімі вы пазнаёміліся пры вывучэнні раздзела «Словаўтварэнне і арфаграфія».

# ПАДАГУЛЬНЕННЕ ВЫВУЧАНАГА ЗА ГОД

**252.** Прачытайце. Вызначце стыль тэксту. Абгрунтуйце сваю думку. (З якой мэтай напісаны.)

## Пявучая і звонкая

Шмат ворагаў было ў беларускага народа. І ўсе хацелі знішчыць тое, што дорага нашаму сэрцу. Стараліся навязаць нам сваю культуру і мову. Але **перадавыя** людзі нашага народа Францішак Багушэвіч, Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч і многія іншыя не далі знікнуць ні нашай цудоўнай мове, ні нашай самабытнай культуры... А мова наша пявучая, звонкая. Ёсць словы, якія не перакладзеш дакладна ні на якую іншую мову, не перадасі той прыгажосці, якая ў іх заключана. Ну вось, напрыклад, *калі ласка*. Тут і пачцівасць, і дабрыня, і душэўная шчодрасць, і давер'е, і прызнанне, і запрашэнне. Паспрабуй гэтыя словы сказаць груба, злосна або варожа. Не выйдзе. Таму што гэтыя словы з сэрца ідуць *(Э. Луканскі)*.

● Да выдзеленага слова падбярыце блізкія па значэнні.

**253.** Прачытайце тэкст. Да якога стылю ён належыць? Назавіце характэрныя для гэтага стылю моўныя сродкі, якія ёсць у тэксце.

Пан пытаецца ў мужыка
А хто ў вас **старшы?**

Ёсць у нас пане адна бабка, Даміцэля. Дык ёй ужо гадоў за сотню будзе: яна за ўсіх старэйшая.

Я не аб тым цябе пытаю: каго вы **слухаеце?**

А-а... То так бы і казаў! Ёсць у нас у вёсцы хлопчык гадоў васьмі ці дзевяці. Ён як пачне іграць на дудачцы дык уся вёска збягаецца слухаць.

Ды не! Я пытаюся каго ты **баішся?**

А-а... Ёсць у нашага Піліпа сучка паганая. Дык мы ўсе яе баімся: хто каля Піліпавага двара ідзе, палку нясе.

Вось жа бесталковы мужык! Я пытаюся, хто ў вас **вышэй** за ўсіх?

Ёсць у нас пане мужык Аўдзей. Ён за ўсіх вышэй. *(Урывак з беларускай народнай казкі «Замыкай» )*

● Спішыце, расстаўляючы прапушчаныя знакі прыпынку. Падкрэсліце звароткі.

⊙ Складзіце дыялог-жарт на тэму школьнага жыцця.

● У якім значэнні (прамым ці пераносным) ужывае выдзеленыя словы пан? А мужык?

**254.** Прачытайце. Складзіце план тэксту. Дайце імя дзяўчынцы і напішыце падрабязны пераказ. Выкарыстайце ў ім сказы з простай мовай.

## Настаўніца

Не ведаю, хто і што напіша ў школьным сачыненні пра сваіх бацькоў, а мне пісаць пра сваю маму найцяжэй. Яна — настаўніца.

Раптам у кватэру пазванілі. Мама адчыніла:

— Валодзя?.. Яроменка?..

А на парозе стаіць статны лётчык з букетам кветак і кажа:

— Так, гэта я, Аксана Сямёнаўна, ваш вучань, былы неслух і гарэза.

Пацалаваў маму і даў ёй кветкі.

— Які ж ты дарослы стаў! А слова «заданне» цяпер з адным «н» пішацца ці з двума? — жартуе мама, а ў самой слёзы радасці на вачах.

— Ведаю, Аксана Сямёнаўна. Шмат чаму вы мяне навучылі. Вы ж пуцёўку ў жыццё мне далі. Ды не толькі мне...

Цяпер я ведаю, што настаўнік не толькі вучыць мове, літаратуры, гісторыі, геаграфіі. Ён яшчэ рыхтуе людзей да жыцця *(Д. Ткач)*.

**255.** Перабудуйце складаныя сказы ў сказы з простай мовай.

У з о р. *Сястра пісала, каб Віця не прапускаў заняткаў па музыцы. — Сястра пісала: «Віця, не прапускай заняткаў па музыцы».*

1. Трэнер параіў, каб Жэня запісаўся ў секцыю лёгкай атлетыкі. 2. Па радыё аб'явілі, што хуткі поезд прыбывае на другі пуць. 3. Віктар Канстанцінавіч паведаміў, што экскурсія прызначана на першы дзень канікулаў. 4. Сцяпан папрасіў, каб я напісаў заметку ў газету.

**256.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго тэму і асноўную думку. Дайце загаловак, які перадаваў бы тэму тэксту. Спішыце, расстаўляючы знакі прыпынку. Якімі правіламі вы кіраваліся?

Горача любіць беларус сваю Радзіму сваю зямлю якую ён багата паліў потам і крывёю. Гэта зямля хоць і не славіцца ўраджайнасцю але шчодра ўзнагароджвае цяжкую працу народа і выхоўвае ў ім любоў да працы.

Багаты і разнастайны пейзаж Беларусі. Рукой геніяльнага мастака-пейзажыста разаслала прырода ззяючыя жывымі кветкамі дываны лугоў па далінах серабрыстых рэк Заходняй Дзвіны Дняпра Нёмана Буга. Неабдымныя панарамы* ўзгоркаў і раўнін лясныя масівы тысячы азёр ручаёў і рэчак вось тыповыя асаблівасці Беларусі. Зямля гэтая са старажытных часоў была зямлёю славян. Тут спрадвеку жыў і складваўся беларускі народ *(Якуб Колас)*.

**257.** Прачытайце выказванні. Якой тэмай іх можна аб'яднаць? Запішыце іх як сказы з простай мовай. У двух сказах словы аўтара пастаўце перад простай мовай, у двух — пасля простай мовы. Выкарыстайце сінонімы *пісаў, казаў, гаварыў, сцвярджаў*.

«Той, хто не паважае родную мову, не паважае роднага народа» *(І. Мележ)*.

«Хто забыў сваіх продкаў — сябе губляе, хто забыў сваю мову — усё згубіў» *(У. Караткевіч)*.

«Глупствам з'яўляецца пагарджаць мовай адной краіны, а словы другой узносіць пад неба» *(Сымон Будны)*.

«...Жыць з людзьмі, сустракаючыся з імі штодня, і не ведаць іх мовы — я лічу недастойным людской годнасці. Апрача таго, гэта значыла б прызнацца ў сваёй бяздарнасці» *(У. Дубоўка)*.

**258.** Прачытайце. Да якога жанру належаць тэксты? Ахарактарызуйце сказы па мэце выказвання і інтанацыі. Назавіце звароткі. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку.

## Перахваліў

Дзядзька купляе гадзіннік, дапытвае крамніка:

— А ці добра ж ён ходзіць?

— У-га! Гэты гадзіннік бегае, не тое, што ходзіць. Гляньце самі. Яшчэ полудня няма, а ён ужо пятую гадзіну вечара паказвае *(«Пралеска»)*.

### Супакоіў

— Васілёк, няўжо ты пойдзеш купацца? На вуліцы вельмі холадна.

— Не хвалюйся, бабулечка! Я надзену шапку *(У. Мацвеенка)*.

**259.** Пры спісванні замест кропак устаўце прапушчаныя літары. Растлумачце іх напісанне.

### Першыя кал..ндары

У XVII стагоддзі ў еўрапейскіх краінах багатыя людзі ўжо карысталіся кал..ндарамі, якія выраблялі з дрэва і вешалі ў парадных пакоях над камінамі.

Н..вялікія драўляныя кал..ндары мелі форму квадрата, на кожным баку яго пазначаўся трохмес..чны п..ры..д года. Нарэзкі, якія абазначалі дні, былі, за выключэннем н..дзелі, аднолькавай в..лічыні. Для н..дзелі рысачка была больш тоўстая і доўгая. Св..ты абазначаліся сп..цыяльнымі знакамі. Н..каторыя кал..ндары былі аздоблены багатымі ўпрыгожаннямі і каштавалі вельмі дорага *(«Пралеска»)*.

**260.** Прачытайце тэкст. У якой сферы ён ужываецца? З якой мэтай напісаны? Якія яго асноўныя рысы? Абгрунтуйце сваю думку.

### Следавікі

Шмат тысяч гадоў назад л..давік прынёс на прасторы Б..ларусі абломкі скандынаўскіх гор —

кам..ні-валуны. Па валунах г..олагі дакладна вызначаюць напрамак руху л..давіка. У мінулыя часы ў Полацкім княстве на гэтых валунах было выс..чана шмат розных знакаў сл..ды чалавека мядзведзя зубра і лася і іншыя. Ёсць м..ркаванне што яны былі або пагранічнымі вешкамі паміж княствамі або шляхавымі знакамі паказвалі шлях да бродаў ці волакаў. Беларусь з'яўляецца эталонным* рэгіёнам ва ўсім свеце па л..давіковых адкладаннях і валунах *(Г. Ланеўскі)*.

● Спішыце, падзяляючы тэкст на абзацы, устаўляючы літары ***е*** або ***я*** і прапушчаныя знакі прыпынку. Якімі правіламі вы карысталіся?

● Знайдзіце ў тэксце формы аднаго і таго ж слова і аднакаранёвыя словы.

**261.** Прачытайце верш. Спішыце, раскрываючы дужкі, устаўляючы прапушчаныя літары і знакі прыпынку. Падкрэсліце граматычныя асновы ў сказах. Абазначце, чым выражаны галоўныя члены сказа.

### Летняя раса

Як брыл..янты, рассява..
Ночка летняя расіцу
Туманамі спавіва..
Луг зялёны *(на..)* крыніцай.

А як раніца настан..
Блiскі сонца загуля..ць —
Рос прыходзіць а..цвітан..е
Туманы ў рэчцы таюць.

Як брыл..янты, гінуць росы
На зялёнай с..нажаці;

Сонца **косы** нашы **косы**
*(Не)* даюць паўдня ім знаці.
*Янка Купала*

● Якое з выдзеленых слоў ужыта ў прамым значэнні, а якое ў пераносным? Назавіце яшчэ некалькі слоў з верша, якія маюць пераноснае значэнне.

**262.** Спішыце словы. Устаўце, дзе трэба, апостраф, мяккі знак або падоўжаныя зычныя.

Сузор..е, кап..ё, салаў..і, пашталь..ён, уз..яднаць, кало..е, ц..мяны, зе..е, су..я, кар..ер, куп..істы, вярхоў..е, міл..ён.

**263.** Прачытайце тэкст. Пра што ён? Назавіце прафесійныя словы. Ці зразумелі б вы тэкст, каб аўтар не патлумачыў словы, якія ўжываюць сплаўшчыкі? Якія словы засталіся незразумелымі? У якім слоўніку можна высветліць іх значэнне?

Вясной, калі рака ўваходзіла ў берагі, сплаўшчыкі браліся вязаць плыты. Адзін канец доўгай бомы замацоўваўся на беразе, другі — на сярэдзіне ракі, упоперак цячэння. Затым мужыкі пачыналі расцягваць бусакамі бярвенне са шліхтаў. Каб лягчэй было качаць з берага да вады, пад ніз падкладалі лягеры — тры-чатыры простыя жэрдкі. Цяпер звычайна вяжуць бярвенне ў ла́ўкі дратамі. Але як помніць Зазыба, то яны з бацькам вязалі свае плыты лужбой — лазовымі вяроўкамі, якія іншы хто называў кардзялямі. Да канца такой лазовай вяроўкі мацаваўся кнэпень, альбо, прасцей, драўляны клін, што працягваўся пад кожны з двух тублёў, перакінутых упоперак лаўкі ззаду

і спераду. Такі плыт звычайна складаўся з дваццаці і больш лавак, накрыж звязаных між сабой шварай, зробленай з той жа лужбы. Калі плыт нарэшце быў звязаны, ззаду на яго прыбівалі скрынку з валікам, на якім мацавалася доўгая шырага — завостранае знізу палена, каб можна было пры неабходнасці тармазіць альбо зусім спыняць плыт *(І. Чыгрынаў)*.

**264.** Прачытайце. Пра што гэты тэкст? Назавіце ўстарэлыя словы. Чаму яны сталі ўстарэлымі? Абгрунтуйце падзел тэксту на абзацы. Складзіце план і вусна перакажыце змест тэксту.

Спачатку людзі здабывалі агонь трэннем сухіх кавалачкаў дрэва. Рабіць гэта было вельмі няпроста. Пазней чалавек навучыўся высякаць агонь з дапамогай крэменю. Дастаткова было некалькі разоў красануць, каб іскры запалілі загадзя падрыхтаванае паліва. Звычайна гэта быў трут. Яго выраблялі з грыба-трутавіка, што расце на дрэвах у выглядзе губы.

Крэсіва, або грамух, насілі на паясах з левага боку ў магалейках — адмысловых скураных капшуках. Магалейкі зашморгваліся скураным матузком.

Але толькі запалка вырашыла праблему хуткага і лёгкага здабывання агню. Аснова гэтага выдатнага вынаходніцтва была закладзена чалавекам некалькі тысячагоддзяў назад. Бо менавіта ад трэння галоўкі запалкі аб маську каробачкі ўспыхвае агонь. Хімія толькі скараціла працягласць трэння *(С. Цярохін)*.

**265.** Прачытайце тэкст. Дайце яму загаловак. Спішыце, расстаўляючы знакі прыпынку і падзяляючы тэкст на абзацы (3). У складаных сказах падкрэсліце злучнікі.

У дзяцінстве мяне вельмі цікавіў рум. Вы не ведаеце што гэта за штука такая «рум»? Румам у нас называецца тое месца на высокім беразе Нёмана куды сяляне вывозяць зімою калоды з лесу. Вясною збіваюць іх у плыты і сплаўляюць па рацэ. Высока над вадою ляжаць ярусы бярвення. Ад ярусаў да самай вады падложаны тонкія доўгія бярвенні каб калоды каціліся лацвей і шпарчэй. На ярусах стаяць хлопцы і сталыя мужчыны з **бомамі** ў руках пагукваюць і падвешваюць бервяно. Узнялі зрушылі. Бервяно коціцца штораз шпарчэй. З нястрыманаю сілай і з громам бервяно падае ў ваду і цэлая сцяна срэбных пырскаў уздымаецца ў гэтым месцы. *(Паводле Якуба Коласа)*

● Назавіце асноўныя сродкі сувязі сказаў у тэксце.

● Карыстаючыся тлумачальным слоўнікам, раскрыйце значэнне выдзеленага слова.

**266.** Спішыце спачатку простыя сказы з аднароднымі членамі, а пасля складаныя. Падкрэсліце граматычныя асновы сказаў, пастаўце знакі прыпынку.

1. Сябры мінулі масты і павярнулі направа *(Якуб Колас)*. 2. Узыходзіць сонца і аж пераліваюцца залатымі бляскамі вадзяныя кропелькі на лісці старой вішні *(І. Навуменка)*. 3. Пярэднія лодкі ўткнуліся ў пясчаную водмель і з іх саскоквалі байцы *(Т. Хадкевіч)*. 4. Воддаль бялее гонкімі ствалами чарада бяроз а крыху далей

распасцёрся стромкі сасновы бор *(Т. Хадкевіч)*. 5. Скрозь дзеразу прабілася травінка і выпрастала мокрае крыло *(Г. Пашкоў)*. 6. Янка Купала вельмі любіў літаратурную моладзь і ўважліва сачыў за кожным здольным чалавекам *(А. Астрэйка)*. 7. Пакой быў невялічкі але ўтульны *(Я. Сіпакоў)*.

**267.** Прачытайце. Вусна растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку. У складаных сказах вызначце асновы. У якіх з іх толькі адзін галоўны член сказа — выказнік?

### Дзень нараджэння

Прыемна, калі людзі помняць твой дзень нараджэння. А ты ці помніш дні нараджэння сваіх родных і блізкіх: маці, бацькі, бабулі, дзядулі, братоў, сясцёр?

У гэты дзень дарага кожнаму тваё павіншаванне. Радасна ім будзе, калі ты і падарунак паднясеш. Але ж непрыгожа прасіць у бацькоў грошай. Падарунак трэба падрыхтаваць самому.

Дзень нараджэння — сямейнае свята. Не трэба абвяшчаць усім і кожнаму свой дзень нараджэння. Блізкія табе людзі і твае сябры самі помняць, калі ты нарадзіўся *(В. Вітка)*.

**268.** Падрыхтуйцеся да дыктоўкі. Растлумачце напісанне выдзеленых літар.

Маленькая палянка ў гушчары абгароджана старым парканам, і над ёй узняўся вялізны і стройны дуб. Гонк**ае** і роўн**ае** дрэва выцягнулася ў вышыню, каб зялёнай в**е**рхавінай зірнуць на

ваколіцу. Кара такая тоўстая, што ў ёй можа схавацца пастаўленая рабром далонь. Знізу на кары **з’я**віўся зялёны мох, але ўсё дрэва дыхае яшчэ магутна**сц**ю і велі**чч**у.

Не менш як тром рослым мужчынам трэба ўзяцца за рукі, каб а**б**хапіць яго стан. Каля трыццаці метраў увысь цягнецца гонкі ствол без адзінага сучка і дупла, а потым раскідаецца пяццю доўгімі і моцнымі сукамі. Калі б узабрацца на верхавіну, перад вачыма а**д**крылася б цудоўная **панарама** Пале**сс**я. *(Паводле Т. Хадкевіча)*

● Растлумачце сэнс выдзеленага слова.

**269.** Прачытайце пачатак тэксту. Растлумачце знакі прыпынку.

Прадоўжыце тэкст. Якая гутарка магла адбыцца паміж Колем і бібліятэкарам? Магчыма, Коля забыў аўтара кнігі. Як усё ж бібліятэкар знайшла патрэбную Колю кнігу? Гутарку запішыце ў форме дыялога.

Коля не любіў чытаць кнігі. Шэфства над ім узяла Вера.

— Не любіш чытаць, а слухаць любіш?

— Люблю, — адказаў Коля.

— Хочаш, я табе раскажу?

— Расказвай, — згадзіўся Коля.

Вера падумала і пачала расказваць...

— Што ж далей? — пытае Коля.

— А далей я расказваць не буду, няма часу. Вазьмі кнігу, сам прачытай.

— Дзе можна ўзяць гэту кнігу?

— У школьнай бібліятэцы.

**270.** Запішыце ў форме дыялога. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку.

1. Вася, што ты намаляваў? Варону і сыр. А дзе варона? Дзе сыр? Варона з'ела сыр і паляцела.

2. Назаві мне які-небудзь неадушаўлёны назоўнік. Дыназаўр. Чаму? А яны ўсе вымерлі.

**271.** Вызначце розніцу ў значэнні слоў, аб'яднаных парамі.

Ве́траны — ветраны́, часо́вы — ча́савы, людско́е — лю́дскае, мя́ла — мяла́, ста́лы — сталы́, яму́ — я́му, пла́чу — плачу́.

● Зрабіце вывад аб значэнні націску ў мове.

**272.** Якімі часткамі адрозніваюцца словы, аб'яднаныя ў пары?

Конік — коннік, гутарковы — гутарлівы, падпісаць — надпісаць, збудаваць — забудаваць.

● Якую ролю ў мове адыгрываюць прыстаўкі і суфіксы.

## ДА ВЫТОКАЎ СЛОВА

***Узняць на шчыт.*** Першапачатковы выраз меў значэнне 'зрабіць правадыром'. Выбраўшы на полі бою правадыра, воіны ўзнімалі яго на шчыт, каб усе навокал маглі бачыць выбранніка. Цяпер выраз азначае 'залішне расхвальваць'.

**273.** Прачытайце. Які вывад можна зрабіць з гэтага тэксту?

У астраўных народнасцей Акіяніі ёсць звычай: калі трэба зваліць на дровы тоўстае дрэва, то найбольш крыклівыя з кепскімі галасамі туземцы

залазяць на тое дрэва і па камандзе правадыра моцна крычаць. Ад гэтага дрэва высыхае і падае. Калі дрэва ад дзікага ляманту памірае, то як могуць вытрымаць людзі? *(«Наша слова»)*.

**274.** Прачытайце. Як бы вы адказалі на пытанне Аленкі?

— Ты ведаеш, як званіць па тэлефоне? — пытае Аленка.

— Вельмі проста, — адказвае сяброўка. — Адной рукой набіраеш нумар, а другой — размаўляеш.

● Ці ўмееце вы размаўляць па тэлефоне? Запішыце дыялог наступнага зместу.

Вы звоніце свайму сябру. Трубку падымае яго маці. Вы вітаецеся, называеце сябе, просіце яе паклікаць сына да тэлефона. Маці адказвае, што яго няма дома. Вы просіце перадаць сябру, каб той патэлефанаваў вам вечарам. Дзякуеце і развітваецеся.

# Тлумачальны слоўнік

**Аксіёма,** -ы, *ж.* Палажэнне, якое не патрабуе доказу, прымаецца без доказу.

**Атракцыён,** -а, *м.* Прыстасаванне для забавы ў парках (карусель, гушкалка і інш.).

**Ба́рва,** -ы, *ж.* Густа-чырвоны колер.

**Барво́вы,** -ая, -ае. Густа-чырвоны, пурпуровы.

**Бёрда,** -а, *н.* Прылада ў ткацкім станку з тонкіх пласцінак накшталт грэбеня з дзвюма спінкамі для прыбівання ўточнай ніткі.

**Біёніка,** -і, *ж.* Навука, якая вывучае структуры і функцыі жывых арганізмаў з мэтай стварэння гэтых структур і функцый тэхнічнымі сродкамі.

**Буршты́н,** -у, *м.* Скамянелая жоўтая смала хвойных дрэў, з якой робяць упрыгожанні.

**Валу́н,** -а, *м.* Вялікі акруглы камень — абломак скалы, некалі прынесены ледніком.

**Варыя́цыі,** -ый, *мн.* (*адз.* варыяцыя, -і, *ж.*). Музычны твор, што ўяўляе сабой варыянты і распрацоўкі асноўнай тэмы ў розных відазмяненнях. *Варыяцыі на народныя тэмы.*

**Ве́шка**, -і, *ж.* Шост, тычка, звычайна з пучком травы або галінак на канцы для абазначэння мяжы, напрамку, руху.

**Віхо́р,** віхру, *м.* 1. Імклівая кругавая плынь ветру. 2. *перан.* Пра імклівае, бурнае праяўленне чаго-небудзь.

**Гарэ́злівы,** -ая, -ае. Вясёлы, жвавы, непаседлівы.

**Гравіро́ўка**, -і, *ж.* 1. Выразанне ўзораў, надпісаў на якім-небудзь цвёрдым прадмеце, матэрыяле. 2. Рысунак або надпіс, выразаны на чым-небудзь.

**Дзі́да,** -ы, *ж. Уст.* Старажытная колючая зброя ў выглядзе доўгага дрэўка з вострым металічным наканечнікам; піка.

**Дзірва́н,** -у, *м.* Зямля, густа зарослая травой.

**Дзю́ны,** дзюн, *мн.* (*адз.* дзюна, -ы, *ж.*). Узбярэжныя пясчаныя пагоркі, нанесеныя ветрам.

**До́йлідства,** -а, *н.* Архітэктура, майстэрства будаўніцтва.

**Дыяме́нт,** -а, *м.* Алмаз (спецыяльна агранены), брыльянт.

**Дэлега́т**, -а, *м.* Выбраны або прызначаны прадстаўнік якой-небудзь арганізацыі, установы, калектыву на сход, з’езд і пад.

**Жо́рны,** -наў. Ручны млын з двух гладка абчасаных камянёў, пры дапамозе якіх пераціраецца зерне на муку.

**Журба́,** -ы, *ж.* Смутак, сум, туга.

**Засло́н,** -а, *м.* Хатняя пераносная лаўка.

**Ідэа́л,** -а і -у, *м.* 1. Найвышэйшая мэта, да якой імкнуцца людзі. 2. -у. Дасканалы, найлепшы ўзор чаго-небудзь. 3. -а. Той, хто з’яўляецца ўзорам для каго-небудзь.

**Іхтыёлаг,** -а, *м.* Спецыяліст, які вывучае рыб.

**Імправіза́цыя,** -і, *ж.* Стварэнне чаго-небудзь без папярэдняй падры́хтоўкі, у час выканання, на хаду.

**Канані́чны,** -ая, -ае. Які адпавядае правілу або сукупнасці правілаў якога-небудзь напрамку ў мастацтве.

**Канферансье́,** *нескл., м.* Артыст, які аб’яўляе нумары праграмы на эстрадным прадстаўленні, канцэрце і займае гледачоў у перапынках паміж нумарамі.

**Касіне́ры,** -а, *м. Уст.* Сяляне-апалчэнцы, узброеныя косамі.

**Кіберне́тыка,** -і, *ж.* Навука пра агульныя заканамернасці кіравання і сувязі ў машынах і жывых арганізмах.

**Лог,** -у, *м.* Нізкае месца сярод спадзістых (не крутых) схілаў; лагчына.

**Лу́бін,** -у, *м.* Травяністая расліна сямейства бабовых, якая высяваецца на корм жывёле.

**Лю́тня,** -і, *ж.* Струнны шчыпковы музычны інструмент.

**Меліяра́цыя,** -і, *ж.* Мерапрыемствы па асушэнні ці арашэнні забалочаных зямель.

**Мірыя́ды,** -яд. Незлічона вялікая колькасць.

**Му́сіць,** мушу, мусіш. 1. Падлягаць прымусу, быць прыняволеным да чаго-небудзь, не маючы магчымасці зрабіць інакш. 2. Быць абавязаным зрабіць што-небудзь.

**Но́сьбіт,** -а, *м.* Той, хто надзелены чым-небудзь, можа лічыцца прадстаўніком чаго-небудзь. *Народная інтэлігенцыя — носьбіт нацыянальнай культуры.*

**Павільён,** -а, *м.* 1. Невялікі лёгкі будынак у парках, садах. 2. Будынак для экспанатаў на выстаўцы.

**Пазе́мкі,** -мак. Суніцы.

**Парцье́ра,** -ы, *ж.* Занавеска з тканіны на дзвярах або вокнах.

**Панара́ма**, -ы, *ж.* 1. Від мясцовасці з вышыні. 2. Вялікіх памераў карціна з аб'ёмнымі прадметамі на першым плане, змешчаная ўнутры круглага будынка з верхнім асвятленнем.

**Пляя́да**, -ы, *ж.* Група выдатных дзеячоў адной эпохі, аднаго напрамку.

**По́льдэр,** -а, *м.* Адгароджаны дамбай, асушаны і апрацаваны нізінны ўчастак.

**По́плаў**, -лаву, *м.* Луг у пойме ракі.

**Пяшчо́тна,** *прысл.* Прыемна, лагодна.

**Рацыяналіза́тар,** -а, *м.* Работнік, які займаецца ўдасканаленнем вытворчасці, паляпшэннем вытворчых працэсаў.

**Ро́стань,** -і, *ж.* 1. Расставанне; час, праведзены далёка ад родных ці блізкіх. 2. Месца перакрыжавання дарог.

**Рэпраду́кцыя**, -і, *ж.* 1. Узнаўленне карцін, малюнкаў, чарцяжоў шляхам фатаграфіі, клішэ. 2. Перадрукаваны малюнак, карціна ці фотаздымак.

**Селе́кцыя,** -і, *ж.* Раздзел прыродазнаўчай навукі ці галіна сельскагаспадарчай вытворчасці, што вывучае або займаецца вывядзеннем новых сартоў раслін і парод жывёл.

**Спо́лахі,** -аў. Паўночнае ззянне; зарніца; водбліскі зары; успышкі агню, святла.

**Тыта́н,** -а, *м.* Чалавек вялікага таленту, надзвычайнага розуму.

**Тэксту́ра,** -ы, *ж.* (спец.). Асаблівасці будовы цвёрдага рэчыва, абумоўленыя характарам размяшчэння яго састаўных частак (крышталёў, зерняў, слаёў).

**Уверцю́ра,** -ы, *ж.* 1. Музычны ўступ да оперы, аперэты, балета. 2. Невялікі музычны твор у адной частцы для аркестра.

**Фо́рзац,** -а, *м. Спец.* Падвойны ліст паперы, які злучае пераплёт з самой кнігай.

**Фрэ́ска,** -і, *ж.* Малюнак вадзянымі фарбамі па свежаатынкаванай сцяне ці столі.

**Эквілібры́ст,** -а, *м.* Артыст цырка, які выконвае камічныя нумары.

**Эксцэ́нтрык,** -а, *м.* Артыст цырка, які выконвае практыкаванні пры няўстойлівым становішчы цела, напр. на канаце.

**Энтузія́зм,** -у, *м.* Высокая ступень натхнення, захаплення, душэўны ўздым.

# Руска-беларускі слоўнік

Бесе́да — гу́тарка, размо́ва
Великоле́пный — цудо́ўны
Величина́ — велічыня́
Вихрь — віхо́р
Вку́сный — сма́чны
Влия́ть — уплыва́ць
Внима́тельно — ува́жліва
Вообще́ — уво́гуле
Вражда́ — варо́жасць
Грусти́ть *(по кому, по чему)* — сумава́ць *(па кім, чым)*
Дверь — дзве́ры
Девчо́нка — дзеўчаня́, дзеўчанё, дзяўчо́
Де́ревце — дрэ́ўца
Де́ло — спра́ва
Дове́рчивый — даве́рлівы
Достига́ть — дасяга́ць
Друг — ся́бар, тава́рыш
Жура́вль — жураве́ль
Задержа́ться — затрыма́цца
Засоря́ть — засме́чваць
Земляни́ка — суні́цы
Злой — зло́сны
Изба́ — ха́та
Изве́стный — вядо́мы
Издева́ться *(над кем)* — здзе́кавацца *(з каго)*
Инжене́р — інжыне́р
Компью́тер — камп’ю́тар
Котёнок — кацяня́, кацянё
Краси́во — прыго́жа
Крестья́нский — сяля́нскі
Куманёк — кумо́к
Ла́сковый — ласка́вы, пяшчо́тны
Лу́жица — лу́жынка
Лу́чший — ле́пшы
Медвежо́нок — медзведзяня́ і медзведзянё
Междоме́тие — выклі́чнік
Ме́стность — мясцо́васць
Нево́льно — міжво́льна
Неприли́чный — непрысто́йны
Никчёмный — нікчэ́мны
Обеспе́чение — забеспячэ́нне
Одна́жды — адно́йчы
Одности́льный — аднастылёвы
Оскорби́тельный — знява́жлівы
Опу́шка *(леса)* — узле́сак
Отноше́ние — адно́сіны
Отрека́ться *(от кого)* — вырака́цца *(каго)*
Па́рус — ве́тразь
Паху́чий — паху́чы
Пёстрый — страка́ты
Поблагодари́ть *(кого)* — падзя́каваць *(каму)*

Повреди́ть — пашко́дзіць, нашко́дзіць
Подви́жный — руха́вы, жва́вы
Подружи́ться — пасябрава́ць
Покупа́тель — пакупні́к
По́льзоваться — карыста́цца
По́мощь — дапамо́га
Поры́в — пары́ў, імкне́нне, натхне́нне
После́дний — апо́шні
Похо́жий *(на кого)* — падо́бны *(да чаго, каго)*
Пошути́ть *(над кем, чем)* — пажартава́ць *(з каго, чаго)*
Пре́жде чем — ране́й як (чым), перш як (чым)
Прия́тный — прые́мны
Произнести́ — вы́мавіць, сказа́ць
Птене́ц — птушаня́, птушанё
Разгово́рный — гутарко́вы
Раздража́ть — раздражня́ць
Разъедини́ть — раз'ядна́ць
Ребёнок — дзіця́
Рисова́ть — малява́ць
Родно́й — ро́дны
Скрипу́чий — скрыпу́чы, рыпу́чы, рыплі́вы
Ску́чно — су́мна
Содержа́тельный — змясто́ўны
Соедини́ть — з'ядна́ць, аб'ядна́ць
Сплошь — скрозь
Спра́шивать *(о ком, чём)* — пыта́цца *(пра каго, пра што)*
Стару́ха — стара́я, бабу́ля
Стесня́ться — саро́мецца
Стря́пать — гатава́ць (ежу)
Таре́лка — тале́рка
Тащи́ть — цягну́ць
Уваже́ние — пава́га
Угоща́ть — частава́ць
Удивля́ться *кому, чему* — дзіві́цца *з каго, чаго*
Улыба́ться — усміха́цца
Упое́ние — натхне́нне
Хло́пать — ля́паць
Худо́жественный — маста́цкі
Цвету́щий — які цвіце́
Чепуха́ — лухта́, глу́пства
Черни́ка — чарніцы
Чу́вствовать — адчува́ць

# ЗМЕСТ

## ФАНЕТЫКА І АРФАЭПІЯ. ГРАФІКА І АРФАГРАФІЯ



## ЛЕКСІКА. ФРАЗЕАЛОГІЯ

Вучэбнае выданне

**Красней** Віктар Пятровіч
**Лаўрэль** Яўген Мяфодзьевіч
**Несцяровіч** Віктар Іванавіч
**Васюковіч** Людміла Сяргееўна

**БЕЛАРУСКАЯ МОВА**

**Вучэбны дапаможнік для 5 класа агульнаадукацыйных устаноў з беларускай і рускай мовамі навучання**

У дзвюх частках

Частка 2

Нач. рэдакцыйна-выдавецкага аддзела *Г. І. Бандарэнка*
Рэдактар *Л. Ф. Леўкіна*
Мастакі *М. У. Мароз, А. А. Красноўская*
Мастацкі рэдактар *І. А. Усенка*
Камп'ютарная вёрстка *А. М. Кісялёва*
Карэктары *Т. Ф. Шайко, Ю. А. Якаўчэнка*

Падпісана ў друк 12.12.2008. Фармат 60×90 $^{1}/_{16}$. Папера афсетная № 1.
Гарнітура Школьная. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 10,0.
Ул.-выд. арк. 5,25 + 0,42 форз. Тыраж 117 300 экз. Заказ

Навукова-метадычная ўстанова «Нацыянальны інстытут адукацыі»
Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. ЛИ № 02330/0133300
ад 30.04.2004. Вул. Караля, 16, 220004, г. Мінск.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Мінская фабрыка
каляровага друку». ЛП № 02330/0056853 ад 30.04.2004.
Вул. Каржанеўскага, 20, 220024, г. Мінск.

Б43 **Беларуская мова** : вучэб. дапам. для 5-га кл. агульнаадукац. устаноў з беларус. і рус. мовамі навучання. У 2 ч. Ч. 2 / В. П. Красней [і інш.]. — Мінск : Нац. ін-т адукацыі, 2008. — 160 с. : іл.
ISBN 978-985-465-454-6.

**УДК 811.161.3(075.3=161.3=161.1)**
**ББК 81.2Беи-922**

______________________________________________
(Назва і нумар школы)

| Навучальны год | Імя і прозвішча вучня | Стан падручніка пры атрыманні | Адзнака вучню за карыстанне падручнікам |
|---|---|---|---|
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |